*сыпле* 93. *сыпля* 49. *сыпя, сыпя мыглá* 57.
*мігаціць* 82, 139.
*ідзé* 20, 52, 77, 142. *ідзéць* 25, 42. *ідзé маглá* 20. *ідзéць мыглá* 25. *ідзéць мóрысь* 42. *бі мáком ідэ́* 133. *пашлá* 24. *пашлá мыглá* 24.
Адзінкавыя: *мыржыць* 52а. *рýсіць* 84. *мшыць* 87. *блюзныть* 92. *бы мгла пáдае* 94а. *мосіiть* 97. *кýзявіе* 131.
Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Апытальніка АЛА: *мгліць* 44А. *мжэт* 43А.

### Карта № 22

## АБЛОЖНЫ ДОЖДЖ

47 «Я. н. дождж, які ідзе працяглы час: аблoжны, аблажны, заложны, завальны...»
Картаграфуюцца назвы аблoжнага дажджу. Паказаны супрацьпастаўленні па каранях, словаўтваральных элементах, націску. Як *навáльны* картаграфуецца *навáлны*, як *аблажыла — аблажылі, аблажыў*. Не картаграфуюцца назвы *краплісты і слякоть*, пакольні яны не адносяцца да тэмы карты.
*аблóжны* 10, 11, 20, 25, 28, 31, 33, 38, 43, 50, 51, 53, 55, 56, 60, 61, 67—71, 74, 77, 84, 88, 93, 99, 104, 106, 110, 112, 113, 118—120, 122, 123, 125, 133, 136, 141, 142. *аблóжный* 79, 84, 88. *облóжны* 134. *облóжный* 94а, 97, 107. *облыжный* 95. *обл́эжны* 102. *ублóжный* 92.
*аблажны́* 8а, 22, 30, 37, 73, 78, 80—82, 87, 93, 105, 111, 116, 119, 120а, 121, 124, 126—130, 139, 140. *аблажный* 8а, 14, 40—42, 44, 85. *аблажнэ́й* 89. *обложны́* 94, 114, 137, 138. *блажны́* 35. *ближнэ́й* 98. *аблажная хмáра* 141.
*залóжны* 10, 60, 100.
*аблажылі неба кругом* 3. *кругом хмару аблажыла* 26. *аблажыла тучамі* 29. *аблажыў на суткі, дош суткі ле́я* 39. *аблажыла ўсё неба* 41. *аблажыла неба, цэлы дзень ішоў дошч* 65. *аблажыла ўсюды* 72. *аблажыла кругом* 79. *аблажыло і цэлы дзень дош ідзе, неба аблажыла* 125. *обложыло* 132.
*аблыжняк* 83. *аблéгло* 105.
*абкладны́* 13, 15, 32, 36, 73, 88, 123, 129. *апкладны́* 2, 4, 8, 9, 21, 24, 25а, 29, 34—36, 75, 130. *абкладный* 1, 7, 8а, 14, 88. *абкладнэй* 86. *апкладнэ́й* 12, 39. *абкладнóй* 17. *акладны́* 5, 6.
*зацяжны* 62. *зацяжный* 86.
*зацяжны́* 19, 47, 58, 71, 76. *затяжный* 92 *(затягнýло кружкі)*, 96а, 103, 108, 131, 132. *працяжны* 59. *процяжны* 102.
*працягýшчы* 52а, 53.
*навáльны* 18, 49, 54, 115. *навáлны* 46, 49а.
Іншыя назвы: *бесперарыўны* 52, 69, 117. *дóўгі* 54, 57, 63. *задажджылася* 20, 66. *заліўны́* 27, 58, 72, 135 *(калі многа выпадае вады, можа быць працяглы і кароткачасны)*. *залывный* 109 (рэдк.). *захóдлівый* 16. *праліўны́* 45. *паліўны* 52. *доўга ідзе дождж* 57. *увесь дзень ідзе дошч* 64. *спóрны* 86. *заныгóдылось* 90. *довго дошч ідэ* 96. *бызодлыжный* 97. *беспэрэстáнны* 101. *залыв дошч, бэз пэрэстáнку йдэ* 109. *дождж сячэ́, як із лýба* 117. *нáшчо вжэ той дошч, обтягло́* 132. *негóда* 135. *уплюнулісь дашчы́* 142.
Адведзены: *краплісты* 48. *слякоть* 91.

### Карта № 23

## ДОЖДЖ З ПЕРАПЫНКАМІ

№ 48 «Я. н. дождж з перапынкамі: пераходны, кароткі, пералётны...»
Картаграфуюцца назвы дажджу з перапынкамі. Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Як *пераліўны* картаграфуецца *з пэрэлівамі*, як *чáтамі — чáдамі*. Не картаграфуюцца словы *карóткі, малы, часóвы, тымчасóвы, ліўневы*, пакольні яны непасрэдна да тэмы карты не адносяцца.
1 *перахóдный, ідзець перахóдамі*. 2 *с перахóдамі, перахóдны, перарвáўся*. 3. *прахóдам*. 4—6 *перахóдны*. 7 *перахóдный, с перацíхам*. 8 *перахóдны, перарывамі ідзець*. 8а *пірахóдны, пірахóдный, съ пірахóдъм*. 9 *пераходзяшчы*. 10—11 *карóткі*. 12 *пірахóдный*. 13 *піряхóдны*. 14 *пірагóнам*. 15 *перарыўны*. 16 *піряхóдный*. 17 *з піряхóдам*. 18 *прайсцéвы*. 19 *натхóдны*. 20 *чáдамі ідзе*. 21 *перагóнамі*. 22 *прахадны*. 23 *пýнтамі, з перапынкамі*. 24 *перагóнны*. 25 *перарыўны*. 25а—26 *карóткі*. 27 *ідзе перагóнам*. 28 *перахóдны, з пераходамі*. 29 *перагóнам*. 30 *перахóдам*. 31 *карóткі*. 32 *кароткаўрэ́менны*. 37. 38 *перахóдны*. 39 *пірігóнный, пірягóнный*. 40 *карóткій, пірахóдный, с пірагóнымі*. 41 *карóткій*. 42 *ліўнівый, пірягóнный*. 43 *пірагóнны, йідзець пірагóнымі*. 44 *піряхóдный*. 45 *перахóдны*. 46 *пралётны*. 47 *пяралётны*. 48 *прэ́рва, прэ́рвяны*. 49 *малы*. 49а *перахóдны*. 50 *карóткі*. 51 *пралётны*. 52 *перарыўны, тýчамі прахoдзіць, налётны*. 52а *пералётны*. 53 *пералётны, з перагóнамі*. 54 *пералётны, з пярэ́рвамі, з перапынкамі*. 55 *карóткі, часóвы* (нов.). 56 *ідзе чáтамі*. 57 *перагóнам*. 58 *перарыўны, пералётны*. 59 *пералётны*. 60 *карóткі, пяраходны*. 61 *карóткі, пералётны*. 62 *перагóнамі, перагóнны*. 63 *пярахóдны*. 64 *перахóдны, перагóнамі*. 65 *карóткі*. 66 *пярэ́ганам ідзе*. 67. 68 *ідзе перавáлам*. 69 *перарыўны*. 70—71 *карóткі*. 72 *пяралівáя дош*. 73 *пірарывамі, кароткі*. 74 *карóткі*. 75 *перагóнамы, перавáламы*. 76 *пярарывісты, карóткі, пірахóдны, пірахóдамы, пірагóнамы*. 77 *пярэвáламі ідзе*. 78 *пірахóдны*. 79 *піряхóдный, пірялётный*. 80 *карóткі*. 81 *карóткі, перавáламі, перавáламы*. 82 *паравáламі, парэ́валамі, пярэ́валамі, с перарывам, карóткі*. 83—84 *піряхóдный*. 85 *піряхаднэ́й, пірягóнный*. 86 *перяхóдный*. 87—89 *піряхóдны, піряхóдный*. 90 *с пыриривамы, малый*. 91 *пэрэхóдный*. 92 *пырыхóдный, пырырывный, сыпнэ́ і нымá*. 93 *карóткі, пралётны*. 94 *налётны, пролётны*. 94а *пэрэколотыв, с пэрэмінамы*. 95 *пырылётный, с пырылётамы*. 96 *с пырылётамы, пырылётный, свыннячый*. 96а *налётный, пырыбіглый*. 97 *с пырыгóнамы дошч, пэрэрывамы ідэ́*. 98 *пэрэривны, с пэрэривом*. 99 *чáтамі ішоў*. 100 *перахóдны*. 101 *пэрэрыўны*. 102 *з пэрэлівамі*. 103 *пыэрыэрыювный, пыэрыэлівный*. 104 *тымчасóвы, карóткі*. 105 *бягýчы*. 106 *карóткі*. 107 *ідзé перагóнамі*. 108 *пэрэлётный, стучóк, с пэрэрывамы*. 109 *свыннячый, фадрáтный*. 110 *перагóнамі*. 111 *с перапынкамі, с перарывамі*. 112 *с пірагóнам*. 113 *пэрэхóдны, пэрэрывом ідзе*. 114 *з пэрэгóнамі*. 115 *пярэ́гадам ідзе*. 116 *карóткі*. 117 *карóткі, з перасéкам*. 118 *перахóдны, перарыўны, перахóдамі, перавáламі*. 119 *з перапынкамі, перарыўны*. 120 *з перарывамі*. 120а *перахóдны*, 121 *карóткі*. 122 *пералётны*. 123 *перарыўны*. 124 *сь перарывамі*. 125 *перавáлны*. 126 *пярэ́унам*. 127 *пярэ́валакам*. 128 *парарывам*. 129 *перавáламі, перавáлам, з перавáлам*. 130 *перахóдны, карóткі*. 131 *пэрэхóдный, пырырывный*. 132 *лёгынькый*. 133 *с пэрерывамі*. 134 *з перэрывамі*. 135 *перэ́ганом*. 136 *корóткі*. 137 *корóткі, перэрывісты, с перэрывамі*. 138 *з парарывамі*. 139 *сóнцавы (сóнцавы дожджык — скідайце хýсткі, будуць кóсы расці)*. 140 *перашчýк*. 141 *дождж пайшоў і перастáў, зноў ідзе*. 142 *пярэ́скакам ідзе, малы*.

### Карта № 24

## ЛІВЕНЬ

№ 50 «Я. н. праліўны дождж: палой, аплава, лея, улея, лівень...» АЛА 2469 'сильный непродолжительный дождь' ливень — pljusak — ulewa
Для абазначэння заліўнога дажджу (ліўня) ў беларускіх гаворках існуюць простыя і складаныя назвы. Карта № 24 прысвечана простым назвам — назоўнікам. Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах і некаторых фанетычных рысах (нерэгулярныя фанетычныя змены). Скаладаным назвам, якія абазначаюць заліўны дождж, прысвечана карта № 25.
1—2 *заліўны*. 3 *навальніца*. 4—6 *заліўны*. 7 *заліўный*. 8 *заліўны*. 8а *зълівéнь, заліўны*. 9 *заліўны, ліўны*. 10—11 *лівінь*. 12 *залівéнь*. 13 *зъліўны, заліўны, лівінь*. 14 *лівень, залівéнь*. 15 *зыліўны*. 16 *зыліўнэ́й, лівінь*. 7 *лівень*. 18 *ліўны*. 19—20 *улéўны*. 21 *заліўны, лівень*. 22 *улéўны, улéя*. 23—24 *заліўны*. 25 *заліўны, палівéнь*. 25а *лівень*. 26 *уліўны, улéя*. 27 *лівянь*. 28 *заліўны*. 29 *залівéнь, лівень*. 30 *заліўны*. 31—32 *лівень*. 33 *заліўны*. 34 *лівінь*. 35 *зыліўны, лівінь*. 36 *лівень*.

37 *лівінь*. 38 *заліўны, лівінь*. 39 *зъліўнэй, лівінь*. 40. 41 *прыліўный, лівінь, зылівень*. 42 *лівінь*. 43 *лівінь, прыліўны*. 44 *лівінь*. 45 *улеўны*. 46 *навальны, навальніца*. 47 *лівянь*. 48 *навальніца*. 49 *велькі*. 49а *навалны*. 50 *навальны*. 51 *навалны*. 52. *навальны*. 53 *лівень, праліўны*. 54 *лівянь, ліўны, навалны, навальны*. 55 *праліўны. навалны*. 56 *заліўны*. 57 *улеўны, лівень, ідзе сцяной*. 58 *праліўны*. 59 *уліўны, улеўны*. 60 *лівянь*. 61. *лівень*. 62 *праліўны*. 63 *лівянь*. 64 *заліўны, лівянь, гвалтоўны*. 65 *лівянь*. 66. 67 *праліўны, лівень*. 68—69 *лівень*. 70 *лівінь*. 71 *лівянь*. 72 *ліўны*. 73 *лівінь, заліўны*. 74 *лівень*. 75 *лівінь*. 76 *лівянь, праліўны*. 77 *заліўны*. 78 *залівінь, лівінь*. 79 *лівінь*. 80 *лівень, заліўны*. 81 *праліўны, лівінь*. 82 *залива, заліўны, лівінь*. 83 *прыліўный, лівінь*. 84 *лівінь, зыліўны*. 85 *зыліўнэй, лівінь* (рэдк.). 86 *заліўнэй*. 87 *лівінь, зыліўны, зыліўный*. 88 *лівень, заліўны, заліўный*. 89 *зыліўнэй, лівінь*. 90 *пролівный, вылікый*. 91 *спадыстый*. 92 *нагайный, нахальный, з нахалом ідэ*. 93 *пралой*. 94 *проліўны, лівэнь*. 94а *прорўй*. 95 *пролый*. 96 *прорі^ю^й*, 96а *пролый*. 97 *проріий, забоїстый*. 98 *прулів*. 99 *лівянь*. 100. 101 *ліўны*. 102 *пролый, проліўны*. 103 *пролі^ю^й*. 104 *праліўны, лівень*. 105 *лівянь*. 106 *ліван, полой*. 107 *оплава*. 108 *пролі^ю^й, пролывный*. 109 *залывэнь, залыв дошч*. 110 *лея*. 111 *заліўны, лівінь, лівень*. 112 *праліўны, ліўневы, лівень*. 113 *заліўны*. 114 *лівень, уліло, лея, залива*. 115—116 *лівень*. 117 *залівень, заліўны*. 118—119 *лівень, заліўны*. 120 *заліўны*. 120а *лівень*. 121 *заліўны*. 122 *спорны, крупны, кругом обняло даждждэм*. 123 *лівень, заліўны*. 124 *лівянь*. 125 *лівень*. 126 *лівень, заліўны*. 127—128 *заліўны*. 129 *лівень, заліўны*. 130 *лівень*. 131 *пролівный*. 132 *залыв усё, буйный, пролівный*. 133 *заліўны, проліўны, лівэнь*. 134 *лея, лівень*. 135 *заліўны, лівень*. 136—137 *лея*. 138 *лівень*. 139 *заліўны, лея*. 140 *лея, лівень*. 141 *лівень*. 142 *заліўны, лівень, лея*.

АЛА: 1А *лівінь*. 2А. 3А *праліўны, лівінь, ліўны*. 4А *лівінь*. 5А *заліўный*. 6А *лівянь*. 7А *заліўнэй*. 8А *зъліўный*. 9А *пыліве́нь*. 10А *уліўны*. 11А *навальніца, велькі*. 12А *заліўны*. 13А *навальнічны, раптовы*. 14А *навальны*. 15А *моцны*. 16А *залівінь, уліўны, заліўны*. 17А *заліўны*. 18А—19А *лівінь*. 20А *лівінь, бальшый*. 21А—23А *лівінь*. 24А *лівінь, прыліве́нь*. 25А *прыліўный, лівінь*. 26А *улеўны*. 27А *навалны*. 28А *крапліcты*. 29А *навалны, лівянь*. 30А *уліўны*. 31А *заліўны*. 32А *лівень, ліваньі, крэпкі*. 33А *лівянь*. 34А *лівень*. 35А *заліўны*. 36А *лівінь*. 37А *лівянь*. 38А *лііивінь*. 39А *лівінь, заліўнэй*. 40А *лівінь*. 41А *лівінь, заліўнэй*. 42А *лівінь, зъліўнэй*. 43А *лывынь, лівынь, проріий, пролівнэй*. 44А *навалны*. 45А *лывэнь*. 46А *лівень*. 47А *пролейны*. 48А *бійный, пролыйный*. 49А *праліўны*. 50А *забойны*. 51А *зьліва*. 52А *вэлыкій*. 53А—54А *лівень*. 55А *палойны*. 56А *заліўный*. 57А *лівень, лея*. 58А—59А *лівянь*. 60А *лівінь, ліўневы*. 61А *лея, моцны*. 62А *лівень, заліўны*. 63А *лівень*. 64А—. 65А *лея*. 66А *лівень*. 67А *лівень, заліўный*. 50 *навалны*. 61 *лівянь*. 70 *заліўны*. 115 *залива*.

## Карта № 25

# ЗАЛІЎНЫ ДОЖДЖ

№ 50 «Я. н. праліўны дождж: палой, аплава, лея, улева, лівень...» АЛА 2469 'сильный непродолжительный дождь' ливень — pljusak — ulewa

У адказах на пытанні 50 і АЛА 2469 прыведзены простыя і складаныя назвы заліўнога дажджу. Усе адказы змешчаны ў каментарыі да карты № 24. Яна прысвечана простым назвам, якія абазначаюць заліўны дождж.

На карце № 25 пракартаграфаваны азначэнні ў складаных назвах, якія абазначаюць заліўны дождж. Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах і некаторых фанетычных рысах (нерэгулярныя фанетычныя змены). Словы *бальшы, буйны, велькі, вялікі, забоісты, забойны, краплісты, крупны, крэпкі, моцны, раптовы* не картаграфуюцца, паколькі не адносяцца да тэмы карты. Фанетычным варыянтам слова дождж прысвечана карта № 26.

Адказы на пытанні № 50 і АЛА 2469 гл. ў каментарыі да карты № 24.

## Карта № 26

# ДОЖДЖ

№ 45 «Я. н. дробны дождж: іжма, імжачка, імгла, мыгла, морась...» № 47 «Я. н. дождж, які ідзе працяглы час: абложны, аблажны, заложны, завальны...» № 40 «Я. н. дождж з перапынкамі: пераходны, кароткі, пералётны...» № 50 «Я. н. праліўны дождж: палой, аплава, лея, улева, лівень...» АЛА 2469 ' сильный непродолжительный дождь' ливень — pljusak — ulewa

З адказаў на прыведзеныя пытанні (45, 47, 48, 50, АЛА 2469) выкарыстана слова *дождж* і яго апдаведнікі. Картаграфуюцца фанетычныя варыянты слова *дождж*. Карта з'яўляецца дапаможнай да карт № 21, 22, 23, 24, 25, на якіх картаграфуюцца азначэнні ў складаных назвах, а слова *дождж* не картаграфуецца.

*дождж* 14, 36, 43, 46, 57, 59, 61, 73, 78—82, 84, 86, 87, 94, 101, 102, 107, 111, 112, 114, 115, 117, 119—124, 126, 128, 129, 136, 139, 141, 10А, 39А, 41А, 42А, 61А, 62А. *дожджык* 44, 106. *дажджы* мн. 42.

*дошч* 3, 5—11, 15, 18—20, 22, 24, 25а—28, 30—32, 38—41, 45—56, 58, 60, 62—65, 67—71, 83, 85, 88—99, 103, 105, 108—110, 113, 116, 117, 131—134, 142, 7А, 8А, 11А, 16А, 17А, 25А—29А, 31А, 43А—45А, 47А, 48А, 50А, 52А, 55А. *дожч* 23, 104, 60А.

*дож* 21, 37, 75, 77, 115, 119, 120а, 125, 127, 135, 137, 138, 140, 56А, 57А. *дош* 1, 2, 4, 8а, 16, 21, 24, 25, 29, 35, 38, 56, 66, 70, 72, 74, 76, 77, 112, 118, 3А, 5А, 12А—15А, 20А, 32А, 35А. *дожш* 73.

## Карта № 27

# КРОПЛЯ

АЛА 2448 kгорjа бр кропля — слн диал prapla — kropla АЛА 2449 kapja капля — kaplja — kapka

Пытанні АЛА 2448 і 2449 фанетычныя. Таму ў адказах на іх не ўсюды прыводзіцца значэнне слоў. Ускосныя даныя (слоўнікі, дыялектныя тэксты) сведчаць аб тым, што словы *кропля, крапля, капля, капка* ў адказах на гэтыя пытанні пераважна маюць значэнне 'кропля вадкасці'. Іншыя іх значэнні — 'кружочак на тканіне', 'невялікая колькасць чаго-небудзь'. Слова *капка*, відаць, адзначана не ва ўсіх пунктах, таму што яго выяўленне не было прадугледжана праграмай. Яно трапіла ў адказы як сінонім слоў *кропля і капля*.

На карце паказана пашырэнне слоў *кропля, крапля, капля, капка*.

*кропля* 3А—6А, 16А, 20А, 22А, 23А, 26А, 31А, 32А, 34А, 37А, 44А—46А, 50А, 51А, 56А, 57А, 50, 61, 70, 115. *у кропільку* 8А.

*крапля* 9А, 10А, 17А, 28А, 43А, 47А, 54А.

*капля* 1А—9А, 11А—16А, 18—27А, 29А, 30А, 34А, 36А—43А, 45А, 48А—52А, 56А, 57А, 59А—62А, 67А, 50, 70, 115.

*капка* 9А, 24А, 33А, 35А, 41А, 53А—55А, 58А, 59А, 63А, 66А.

*копаж* 65А.

Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: *крапля* 90, 92, 94, 94а, 95, 96, 103, 108, 109, 131, 132, 133. *капля* 86, 95, 96, 103, 108, 109, 132. *капка* 86, 123.

Матэрыялы, якія паведамілі супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Прыводзіцца лексема, якая картаграфуецца, назва населенага пункта, дзе лексема запісана, нумар сеткі ЛАБНГ, пад якім яна картаграфуецца, хто паведаміў (прозвішча і ініцыялы); назвы раёнаў падаюцца скарочана.

*кропля* (Дарагавіца Кп, 34А, Т. І. Юхо; Замошша Лб, 110, Т. М. Трухан; Углы Кп, 105, В. У. Мяснікова; Беражно Крл, 60, І. І. Крамко; Селішча Нвг, 53, А. М. Булыка; Гольчычы Слц, 67. Н. Ц. Кажура; Сімакава Крл, 61, І. М. Бунчук; Краглі Дзтл, 54, Г. М. Старадубец; Глыбокае, 6, Ю. Ф. Мацкевіч).

*крапля* (Буда Хн, 139, рэдк., Л. А. Антанюк; Рухча І Ст, 52А, В. Л. Вярэніч); *краплі* (лякарства) (Верасніца Жт, 114, М. А. Дарошка).

*капля* (Замошша Лб, 110, Т. М. Трухан; Шаламы Сл, 85, І. Я. Яшкін; Углы

Кп, 105, В. У. Мяснікова, Гальшаны Аш, 19, Т. І. Блізнюк; Беражно Крл, 60, І. І. Крамко; Турасполле Пл, 10, У. М. Свяжынскі; Кальсберг Мн, 27, Л. С. Дашкевіч; Рухава Стд, 115, Н. А. Чабатар; Семукачы Мг, 78, В. А. Бабкова; Нізок Уздз, 65, Т. П. Бандарэнка; Дзятлава, 54, В. Г. Зялёнка; Капыль, 34А, С. К. Берднік; Селішча Нвг, 53, А. М. Булыка; Гольчычы Слц, 67, Н. Ц. Кажура; Верасніца Жт, 114, М. А. Дарошка; Рухча І Ст, 52А, В. Л. Вярэніч; Мянякова Мр, 8а, М. Н. Крыўко; Саламір'е Пл, 5А, А. Я. Баханькоў; Сімакава Крл, 61, І. М. Бунчук; Дужаўшчына Чв, 79, В. П. Лемцюгова; Буцькаўшчына Пл, 9, П. В. Садоўскі; Берасвёўка Бр, 142, Н. Дз. Корань; Лібараўшчына Дк, 28, А. С. Аксамітаў).

*ка́пка* (Шаламы Сл, 85, І. Я. Яшкін; Беражно Крл, 60, І. І. Крамко; Семукачы Мг, 78, В. А. Бабкова; Гольчычы Слц, 67, Н. Ц. Кажура; Верасніца Жт, 114, М. А. Дарошка; Дужаўшчына Чв, 79, В. П. Лемцюгова; Буда Хн, 139, Л. А. Антанюк; Берасвёўка Бр, 142, Н. Дз. Корань).

**Карта № 28**

## НАВАЛЬНІЦА

АЛА 2476 'гром и молния, обычно с дождем и сильным ветром'

Картаграфуюцца назвы навальніцы. Паказаны адрозненні па каранях. Слова *бу́ра* нанесена на карту толькі ў тых выпадках, калі ў адпаведным населеным пункце іншых назваў не адзначана, паколькі гэтае слова ў многіх гаворках семантычна адрозніваецца ад слоў *навальні́ца* і граза́.

*навальні́ца* 10А, 13А, 14А, 16А, 26А—30А, 32А, 33А, 37А, 43А, 44А, 49А, 50А, 60А, 67А, 50. *навольні́ца* 56А. *навольны́ца* 45А.

*граза* 1А, 17А, 18А, 24А, 34А, 35А, 40А, 53А, 57А, 60А—63А, 66А, 67А, 115. *гроза́* 54А, 56А. *гръза́* 3А, 7А, 8А, 20А, 21А, 42А. *грыза́* 2А, 4А, 5А, 9А, 22А, 23А, 25А, 36А, 39А, 41А.

*бу́ра* 1А, 4А, 6А, 11А—13А, 15А, 16А, 19А, 24А, 26А, 27А, 30А, 34А, 35А, 38А, 41А, 43А, 46А—48А, 52А, 55А, 58А, 59А, 61А—65А, 67А, 61. *бу́ря* (моцны вецер да дажджу) 9А.

Адзінкавыя: *стра́шная грамо́та* 12А. *пяру́н* 31А. *грымо́та з бу́рыю* 48А. *ша́рга* 51А.

Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: *навальні́ца* 123 (рэдк.). *граза́* 86. *грыза́* 85. *бу́ра* 90, 92, 95, 96, 108, 132.

Матэрыялы, якія паведамілі супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Прыводзіцца лексема, якая картаграфуецца, назва населенага пункта, дзе лексема запісана, нумар сеткі ЛАБНГ, пад якім яна картаграфуецца, хто паведаміў (прозвішча і ініцыялы); назвы раёнаў падаюцца скарочана.

*навальні́ца* (Дарагавіца Кп, 34А, Т. І. Юхо; Замошша Лб, 110, Т. М. Трухан; Гальшаны Аш, 19, Т. І. Блізнюк; Углы Кп, 105, В. У. Мяснікова; Беражно Крл, 60, І. І. Крамко; Кальсберг Мн, 27, Л. С. Дашкевіч; Гольчычы Слц, 67, Н. Ц. Кажура; Рухава Стд, 115, Н. А. Чабатар; Нізок Уздз, 65, Т. П. Бандарэнка; Дзятлава, 54, В. Г. Зялёнка; Капыль, 34А, С. К. Берднік; Селішча Нвг, 53, А. М. Булыка; Сімакава Крл, 61, І. М. Бунчук; Краглі Дзтл, 54, Г. М. Старадубец; Посальч Вр, 11А, І. В. Войніч; Альба Нсв, 62, Г. У. Арашонкава).

*граза́* (Турасполле Пл, 10, У. М. Свяжынскі; Семукачы Мг, 78, В. А. Бабкова; Саламір'е Пл, 5А, А. Я. Баханькоў; Берасвёўка Бр, 142, Н. Дз. Корань). *гръза́* (Буцькаўшчына Пл, 9; П. В. Садоўскі; Манякова Мр, 8А, М. Н. Крыўко). *грыза́* (Шаламы Сл, 85, І. Я. Яшкін; Дужаўшчына Чв, 79, В. П. Лемцюгова; Лібараўшчына Дк, 28, А. С. Аксамітаў).

*бу́ра* (Малінаўка Нсв, 62, З. М. Кудрэйка; Свіслач Гр, 45, Г. А. Цыхун; Буда Хн, 139, Л. А. Антанюк; Верасніца Жт, 114, М. А. Дарошка).

**Карта № 29**

## ІДЗЕ, ПАДАЕ (ПРА ДОЖДЖ)

№ 51 «Дождж, снег ідзе, падае...»

На дадзенай карце картаграфуюцца дзеяслоўныя лексемы, якія звязаны з выпадзеннем дажджавых ападкаў. Знакі пастаўлены на аснове форм трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу, за выключэннем адзінкавага выпадку, калі адпаведны знак пастаўлены на аснове формы інфінітыва *іці́ць «іці́ць пірі́стаў дош»* у 16 пункце.

*дошч, дош, дождж ідзе́ць, ідзе́* 1—8а, 9 *(бальшы)*, 10—15, 16 *(іці́ць перастаў)*, 17—25а, 26 (пераваж.), 27—39, 41—44, 47, 49а, 50, 52—65, 66 (пераваж.), 67—89. *ідо́, ідзе́* 90—109, 111—142.

*па́дае, па́даіць* 4, 26, 45, 46, 49, 51, 54, 91, 92, 108, 115, 131, 132 (рэдка), 138. *перастаў па́даць* 108.

Адзінкавыя лексемы: *дошч сы́плець, сы́піць* 9 *(ме́лкі)*. *дзя́жыць дошч* 51 *(моцна б'е, цячэ́)*. *ліе́ дошч* 52.

У пунктах 40, 48, 110 знакі не пастаўлены, бо адсутнічаюць адказы.

**Карта № 30**

## ІДЗЕ, ПАДАЕ (ПРА СНЕГ)

№ 51 «Снег ідзе, падае...»

Картаграфуюцца дзеяслоўныя лексемы, якія абазначаюць выпадзенне снежных ападкаў. Лексема *па́даць (па́дае)* больш пашырана ў адносінах да снегу ў параўнанні з дажджом, што абумовіла складанне дзвюх карт на падставе адказаў на адно пытанне.

У 117 пункце адпаведны знак пастаўлены на аснове адказу *град па́дае.*

*ідзе́, ідзе́ць, ідо́* 1—8а, 9 *(бальшы)*, 10—25а, 26 *(можна сказаць і так)*, 27—39, 41—44, 47, 49а, 50, 52а—65, 66 (пераваж.), 67—76, 78—82, 84, 86—89, 90, 92—98, 100—105, 107, 109, 112—114, 116—120, 121, 123—127, 129, 130, 132—139.

*па́дае, па́даіць* 4, 16, 26, 45, 46, 48, 49, 51, 52, 54, 66, 75, 76 (рэдка), 77, 85, 90, 92, 96, 97, 99, 108, 109, 111, 114, 117, 120а, 122, 128—130, 132, 134, 138—142. *град па́дае* 117.

Адзінкавыя *снех сы́плець, сы́піць* 9 *(ме́лкі)*. *снех сне́жыць* 52. *снех ляці́ць* 75. *снех ве́іць* 83. *снег кра́пае, пады́лі́ў* 140 (ледзь закрыў зямлю).

У 40, 91, 106, 115, 131 пп. адсутнічаюць адказы.

**Карта № 31**

## ПУХІРЫ (НА ВАДЗЕ)

№ 52 «Я. н. пухіры на лужах у час вялікага дажджу: бурбалкі, бурдышкі, бамбалі...»

Картаграфуюцца суфіксальныя адрозненні у назвах пухіроў, паказаны больш пашыраныя акцэнталагічныя рысы. Адзінкавыя варыянты з адхіленнямі ў галіне словаўтварэння, фанетыкі і націску аб'яднаны з асноўнымі тыпамі: як *бу́рбалкі* картаграфуюцца *бу́лбаркі,* як *бу́лбаткі — бу́лбуткі, бо́лбаткі* і *бу́льбаткі,* як *бу́лбушкі — бу́льбушкі, балбу́шкі, ба́лбушкі, бальбу́шкі;* як *булбу́шкі — булбо́шкі, бульбу́шкі, балбу́шкі,* як *бу́нькі — буньки́,* як *ба́нькі — ба́нкі — банкі́,* як *бу́лькі — булькы́.* Адным знакам картаграфуюцца *бу́рбаткі* і *бу́рбалткі.* Формы адзіночнага ліку картаграфуюцца як формы множнага ліку, дэмінутывы — як нейтральныя адпаведнікі тыпу *бурдульні́ — бурдулі́.*

1 *бу́рдаўкі ска́чуць; бу́рдаўка.* 2 *пузы́р, пузыры́ (лу́жы паналіва́ла, аш пузыры́ на лу́жы — бу́дзіць дош).* 3 *бу́рбалачкі.* 4 *бу́рбалкі ска́чуць.* 5 *пузыры́.* 6 *бу́рбалкі паўска́кавалі.* 7 *пузыры́.* 8 *бу́рбалка; бу́рбалкі скачуць — будзіць вялікі дошч.* 8а *бу́рбалкі, пузыры́.* 9 *пузыры́; бу́рбалкі — гэта калі выходзіць балотны газ, як уставіш палку ў балота.* 10 *бу́рбалкі; надоўга дошч — многа бурбалак.* 11 *бу́рбалкі на вадзе — надоўга дошч.* 12 *пузы́рь, пузырі́.* 13 *бу́рбылкі на вадзе.* 14, 15 *пузыры, пузыры́.* 16, 17 *пузу́рі.* 18, 19 *бу́рбалкі.* 20 *аш пухі́рі на вадзе.* 21, 22 *бу́рбалкі.* 23 *бу́рбалкі станавя́цца.* 24 *бу́рбалкі на вадзе сталі.* 25 *бу́рбалкі станавяцца — будзя вялікі дош.* 25а—27 *бу́рбалкі.* 28 *пузыры́.* 29—31, 33 *бу́рбалкі.* 34 *пузы́р, пузыры́; вуды́р, вуды́ры.* 35 *бу́рбылкі.* 36 *бу́рбалкі.* 37 *пузыркі, бу́рбалкі.* 38 *бу́рбалкі на*

*вадзе — будзе дош.* 39 *пузурі.* 40 *вот дошч, што і бу́рбалкі былі.* 41 *бу́рбылкі.* 42 *будзюлі.* 43 *бу́рбалкі.* 44 *бурдыль, бурдулі; пузырь.* 45, 46 *бу́лькаўкі якія на лужах — будзе дождж яшчэ падаць.* 47 *бу́льбаткі на калюгах посля дажджу.* 48, 49 *бо́лбаткі.* 49а *бу́лбаткі.* 50 *бу́льбаткі пасталі — доўго дошч ісціме.* 51 *бу́льбы скачуць на прадаўжны дошч.* 52 *на лужах плывая бу́рбалкі — шчэ будзя дошч.* 52а *бу́лбаткі.* 53 *бо́лбаткі становяцца на вадзе — дошч доўго ісціме.* 55 *бу́льбаткі.* 56 *бу́рбалткі.* 57 *бу́рбалкі.* 58 *бу́рбалка; бу́рбалкі скачуць.* 59 *бу́рбалкі.* 60 *балбанэ́; калі вялікія балбанэ́ — то доўго дошч будзя.* 61 *бу́лбаткі; калі бу́лбаткі на лужынах, то дождж доўга не перастаня.* 62 *бу́льбаткі.* 63—65 *бу́рбалкі.* 66 *бо́балка; бо́балкі скачуць.* 67 *бу́рбалкі ўстаюць; шчу́рбалкі ўстаюць.* 68 *бу́рбалка, бу́рбалкі.* 69—72 *бу́рбалкі.* 73 *бу́рбалкі — прызнак, што будзя дожч і заўтра.* 74 *бу́рбалкі.* 75 *бу́рбалкі, пузыры́.* 76 *бу́рбылкі на вадзе ад дажджу пыдняліся.* 80 *пузуры́.* 81 *бу́рбалкі.* 82 *пузыркі, бу́рбалкі.* 83 *бурдулькі, бурдулі.* 84 *бурдулі, бурды́ль.* 85 *бу́рбылкі на лужах — ішчэ дошч будзіць.* 86 *борбу́ль, бурбу́ль; борбулі, бурбулі.* 87 *бу́рбылкі на лужыне пыдскаквыюць.* 88, 89 *бурдулі.* 90 *бу́нька, бунькі.* 91 *бунькі.* 92 *бу́нька, бунькы́.* 93 *бунькі скачут — то йшчэ будзе ісці дошч; пузыркі* (цяпер). 94 *бу́льбочкі* (часцей); *бо́мблікі.* 94а *бу́нька, бу́нькы.* 95 *бу́лька, бу́лькы.* 96 *бу́льба збігла; бу́льбы.* 96а *бульбэ́.* 97 *бу́льбочкы, бу́льбавкы.* 98 *бунькэ́ становлюцца на калюжынэ; бу́нька.* 99 *бо́лбаткі.* 100 *балбу́шкі.* 101 *бу́лькаўкі.* 102 *бу́лькаўка, бу́лькаўкі; як схвацяцца булькаўкі і доўго дзержацца, то будзе доўго негода.* 103 *булькы́, бу́льбка.* 104 *бу́льбаткі.* 105 *бу́лачкі.* 106 *булькі схапаюцца.* 107 *ба́нькі, ба́нечкі; от дождж сільный, аж ба́нечкі схапаюцца на водзіе.* 108 *булькы́, бу́лька.* 109 *бу́лька; булькы скачуць, як краплыстый дошч ідэ.* 110 *ба́нькі.* 111 *на лужах бу́лькі, ба́нкі; бу́рбалкі.* 112 *ба́нькі; бурбалкі* (пазнейшае); *дождж ідзе з ба́нькамі.* 113 *бу́нькі, бу́нька.* 114 *бу́лбахі, бу́лбашкі.* 115 *жыткі; на лужынах жыткі — будзе іці доўго дож.* 116 *бу́рбаткі, капшучкі.* 117 *бу́льбушкі, бальбу́шкі.* 118 *бу́рбалкі.* 119 *бу́рбалкі на дож.* 120 *пузыры́ усхватваюцца.* 120а *булбу́ткі.* 121 *бу́лбаркі.* 122 *жыды́ бегаюць па вадзе; пу́шачкі растуць.* 123, 124 *бу́рбалкі.* 125 *бу́рбалкі надуваюцца на вадзе.* 126 *бу́лбаткі, бу́лбатка.* 127 *бо́лбушкі, бу́лбушкі.* 128 *бу́рбалкі.* 129 *бу́рбалкі; пузыры на вадзе пайшлі.* 130 *бу́рбалкі, пузыры́.* 131 *бункы́, бу́нька.* 132 *булкы́, бу́лька.* 133 *банькі станоўляя.* 134 *бу́рбалкі.* 135 *бу́льбушкі, бу́лбушкі.* 136 *булбо́шкі.* 137 *бу́льбаткі.* 138 *бульбу́шкі.* 139 *ба́лбушкі.* 140 *бу́лбушкі; капелюшы́* (трад.); *от капелюшы хватваюцца на калюжах.* 141 *булбу́шкі, бу́рбалкі.* 142 булбу́шкі.

## Карта № 32

# ХАЛОДНЫ (ПРА НАДВОР'Е, ВАДУ)

№ 61 «Сцюдзёны: халодны (аб вадзе; надвор'і і г. д.)».

Картаграфуюцца лексемы, якія абазначаюць нізкую тэмпературу атмасферы, вады, паказаны асобныя выпадкі акцэнталагічных адрозненняў. Як прыметнікі мужчынскага роду картаграфаваліся формы жаночага роду і адпаведныя прыслоўі, як *студзёны* картаграфуюцца *сцідзёны, студзёны*. Не ўлічваецца таксама наяўнасць канцавога *й* ў прыметніках мужчынскага роду.

У 56, 69, 71, 99, 100 пунктах картаграфаваліся словаформы *ся́дравы, ся́драва* на падставе дадзеных «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (том 5, 67 Мн., 1986).

У 11 пункце знак адсутнічае, бо не было адказу.

*хало́дны(й)* 1, 5, 8, 10. 17, 21, 27 (нов.), 33, 37, 41, 43 (аб надвор'і), 47—51, 52а, 53—63, 66—71, 73, 77—80, 82, 83, 85, 86, 87, 89, 90, 93, 94, 94а, 95—98, 100—111, 114, 115, 116, 117, 119, 120а, 121—126, 128—137, 139, 141, 142. *халóнны* 5. *халóнный* 88. *халóдная вадá* 8, 9, 38, 45, 66. *выдá халóдныя* 85. *надвóрья халóдныя* 85. *холóдна вудá* 92. *вадá халóдна* 99. *халóдна* 40. *ся́нні халóдна* 41. *халаднó на дварэ́* 45, 46.

*сцюдзёны(й)* 5, 6, 9 (дзень), 10 (вельмі халодны), *сьцюдзёны пальцы* 21, 83, 86 (вельмі рэдка), 88 (пра вецер), *сцюдзёны(й)* 12, 16, 25а, 26, 29 (трад.), 30, 35, 39 *(халодны)*, 41, 42, 44 *(вельмі халодны)*, 64, 66 *(кажуць прыеждждыя)*, 73, 74 *(халодны)*, 76 (пра вецер, ваду), 84, 126, 138. *сцюдзёныя* 85 (трад.). *сьцідзёны(й)* 8а, 12. *студзёны(й)* 23, 72, 81, 82, 118 (рэдка), 124 (рэдка), 136. *сьцюдзёненькая вадзіцка* 2. *вада сьцюдзёная* 6. *сьцюдзёная вада* 21, 43. *сцюдзёная вадá, раніца* 24, 26, 65, 69. *сьцюдзённая вадá* 127. *сцідзёныя пагóда* 13. *сцідзёныя вадá* 15. *студзёная вадá* 23, 65, 75. *студзёна вадá* 113, 140. *набраў студзёнае вадьí* 140 *сьцідзёна рыба* 12. *сцюдзёна* 8. *сцюдзёна на дварэ́* 2. *сцідзёна сягóдні* 7. *сцюдзёна на дварэ* 14, 28, 31. *сцідзёна* 32, 34 (пранізліва халодна). *сцюдзёна* 36 (халодна), 40, *(гаварылі раншы)*, 41, 52 *(старынныя слава)* 74. *студзёно* 113. *сцюдзёна* 120 (халодна).

*сьцю́дзіна* 2. *сцю́дзена на дварэ́* 21, 24. *сцю́дзены, сцю́дзеная вадá* 25. *у ногі сцю́дзена* 25. *сцю́дзены* 25, 27 (трад.).

*зíмны* 3, 19, 22. *зíмны дзень* 45, 52, 54. *зíмная вадá* 3, 4, 18, 20. *зíмна вадá* 46. *раніца зíмная* 52. *зíмна вадá* 52. *зíмнóе надвор'е* 18. *ну і зíмно дзісь* 46. *нарáнку зíмна* 52. *зьімнэ* 91. *зьімна* 92.

*зóлкій марóз* 88. *зóлкі дзень* 112. *зóлкая вадá* 38. *зóлка на дварэ́* 38. *залкóта на дварэ́* 38.

*ся́дравы, ся́драва рáніца* 56, *нóчы сталі ся́дравы* 56, 100. *раніца ся́драная* 69. *ся́драна на дварэ́* 69. *ноч ся́драва* 69, 99. *з раніцы было ся́драва* 71. *рáніца сядрóва* 100.

*марóзный* 82.

## Карта № 33

# ЗАЗІМАК

64 «Я. н. пачатак зімы, калі выпадае першы снег: зазімак... Першы зазімак... Другі зазімак...»

Картаграфуюцца назвы зазімку, ці дакладней, першага або другога снегу, які хутка растае. Паказаны адрозненні па словаўтваральных элементах і націску. Выдзелены таксама апісальныя абазначэнні. Як *зазімак* картаграфуецца *на зазымках*.

*зазíмак* 1, 2, 4, 6—8, 9—11, 14, 17, 19, 21—32, 36, 37, 48, 49а, 50 (рэдк.), 52а, 57, 59, 65—67, 70—77, 80—82, 86, 88, 104, 110, 112, 114, 116, 119—121, 123—128, 139, 141. *зазíмок* 117, 134, 135, 137, 138, 140. *зазíмык* 13, 15, 16, 34, 35, 38—44, 78, 79, 83—85, 87, 89. *зазíмък* 8а, 12, 33. *зозíмок* 94. *на зазы́мках* 96.

*зáзімак* 5, 58, 61, 64, 68, 69, 115, 118, 122, 124, 129, 142. *зáзімок* 133. *зáзымок* 108.

*прызíмак* 62. *прызíмок* 101.

*пры́земкі* 105.

*озíмок* 134.

Іншыя абазначэнні: 3 *выпаў сьнех.* 18 *выпаў снех.* 20 *першы сьнех.* 45 *ужо пачáтак зімы, праверка на басякé, зіма праверыць, як хто да яе падрыхтаваўся.* 46 *снех выпаў.* 47 *пахаладаня ужэ.* 49 *першы снех.* 50 *зіма пачынаецца.* 51 *першы снех, другі снех.* 52 *першы пры́маразак.* 53 *глухáя восень, пачатак зімы, калі пачынаюцца першыя замараскі.* 54 *пачалася, настáла зіма.* 55 *зіма начынаецца.* 56 *снех выпаў.* 60 *першы снех.* 63 *першы снех.* 90 *пэ́ршый сныг, дру́гый сныг.* 91 *сніг выпав.* 92 *пэ́ршый сніг выпав, лыжя́ты ны будэ.* 93 *пэ́ршы снег.* 94а *сніг выпав.* 95 *пэ́ршый сніг, дру́гый сніг выпав.* 96а *пэ́ршый сніг.* 97 *пэ́ршый сніг выпав, бырэ́цця сніг.* 98 *вэпав сніх.* 99 *выпаў снех.* 100 *першы снех.* 102 *віпаў снег.* 103 *выпаў сніг.* 106 *першы снег, пры́морозок.* 107 *пэрвый снег.* 108 *пэ́ршый сніг.* 109 *вжэ снэжóк пáдае.* 111 *першы снех, зáмараскі.* 113 *пэ́ршы снег.* 130 *первы снег.* 131 *выпав сніг.* 132 *упáв сніг, пэ́ршый сніг.* 136 *першы снег.*

## Карта № 34

# ЗІМОВЫ

АЛА 2359 zimьпъ(-jь) // zimьпjь(-jь) зимний — zimnji — zimny

Картаграфуюцца варыянты словаформ *зíмні — зíмны* і *зімóвы — зімавы́.*

Пытанне АЛА 2359 арыентавала толькі на высвятленне фанетычных варыянтаў слова *зíмні*. Таму іншыя словы са значэннем 'зімовы, зімні' трапілі ў адказы не ва ўсіх выпадках. Звычайна ў адказах не прыведзена значэнне слоў.

Дадатковы матэрыял, а таксама ўскосныя даныя (слоўнікі, дыялектныя тэксты) паказваюць, што словы *зíмні, зімóвы* ў беларускіх гаворках пераважна ўжываюцца са значэннем 'які мае адносіны да зімы'. Слова *зíмны* ўжываецца ў тым жа значэнні, а таксама ў значэнні 'халодны'. У тых выпадках, калі ў матэрыялах прыведзена значэнне слоў як 'халодны', яны не картаграфуюцца. Такім чынам, ёсць падставы лічыць, што пракартаграфаваны пераважна словы са значэннем 'які мае адносіны да зімы', хоць

у асобных выпадках адзначаныя на карце словаформы могуць мець іншыя значэнні.
*зімо́вы* 12А, 17А, 18А, 26А, 32А, 38А, 70. *зімо́вый* 2А, 5А. *зымо́вый* 43А, 48А, 52А. *зімавы́* 14А, 15А.
*зімні* 12А, 16А, 18А, 19А, 22А, 30А, 31А, 34А, 35А, 40А, 41А, 46А, 53А, 54А, 58А—60А, 62А, 63А, 65А, 67А, 61, 115. *зімній* 1А, 2А, 6А—9А, 20А, 21А, 23А, 39А, 41А, 42А, 47А, 56А, 57А, 66А.
*зімны* 11А, 33А, 37А, 51А, 55А, 66А. *зімный* 1А, 24А, 41А. *зымный (холо́дный)* 43А. *зімны́* 13А.
Адзначана адсутнасць слоў *зімні, зімны:* 3А, 4А *(мырызя́на, мырызя́ный)*, 10А *(халóдны)*, 17А, 25А, 26А, 27А *(халóдны)*, 28А *(халóдны)*, 29А *(марóзьлівы)*, 32А, 38А, 44А *(халóдны)*, 45А *(холóдный)*, 48А, 49А *(халóдны)*, 50А *(халóнны)*, 52А *(холóдный)*, 67А *(марóзьлівуй, марóзный дзень)*, 50, 70.
Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцый ЛАБНГ: *зімóвы* 45, 51, 55, 56, 93, 94, 102, 106. *зымóвый* 90, 92, 95, 96, 103, 108, 109, 131, 132. *зімный* у значэнні 'зімовы' 89. *зімны* ў значэнні 'халодны' 4, 19, 45, 54. *зымный* у значэнні 'халодны' 92.
Матэрыялы, якія паведамілі супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Прыводзіцца лексема, якая картаграфуецца, назва населеннага пункта, дзе яна запісана, нумар сеткі ЛАБНГ, пад якім лексема картаграфуецца, хто паведаміў (прозвішча і ініцыялы); назвы раёнаў падаюцца скарочана.
*зімóвы* ў значэнні 'зімовы' (Дарагавіца Кп, 34А, Т. І. Юхо; Замошша Лб, 110, Т. М. Трухан; Углы Кп, 105, В. У. Мяснікова; Беражно Крл, 60, І. І. Крамко; Рухава Стд, 115, Н. А. Чабатар; Нізок Уздз, 65, Т. П. Бандарэнка; Селішча Нвг, 53, А. М. Булыка; Сімакава Крл, 61, І. М. Бунчук; Краглі Дзтл, 54, Г. М. Старадубец; Посальч Вр, 11А, І. В. Войніч; Альба Нсв, 62, Г. У. Арашонкава; Глыбокае, 6, Ю. Ф. Мацкевіч; Манякова Мр, 8а, М. Н. Крыўко; Саламір'е Пл, 5А, А. Я. Баханькоў; Свіслач, Гр, 45, Г. А. Цыхун; Лібараўшчына Дк, 28, А. С. Аксамітаў).
*зімóвы* ў значэнні 'халодны' (Гольчычы Слц, 67 Н. Ц. Кажура).
*зімóвый* у значэнні 'зімовы' (Буцькаўшчына Пл, 9, П. В. Садоўскі; Манякова Мр, 8а, М. Н. Крыўко).
*зымóвый* у значэнні 'зімовы' (Рухча 1 Ст, 52А, В. Л. Вярэніч).
*зімавы́й* у значэнні 'зімовы' (Турасполле Пл, 10, У. М. Свяжынскі).
*зімні* ў значэнні 'зімовы' (Дарагавіца Кп, 34А, Т. І. Юхо; Замошша Лб, 110, Т. М. Трухан; Шаламы Сл, 85, І. Я. Яшкін; Углы Кп, 105, В. У. Мяснікова; Гальшаны Аш, 19, Т. І. Блізнюк; Беражно Крл, 60, І. І. Крамко; Маліна ўка Нсв, 62, З. М. Кудрэйка; Турасполле Пл, 10, У. М. Свяжынскі; Кальсберг Мн, 27, Л. С. Дашкевіч; Семукачы Мг, 78, В. А. Бабкова; Капыль 34А, С. К. Берднік; Селішча Нвг, 53, А. М. Булыка; Гольчычы Слц, 67, Н. Ц. Кажура; Краглі Дзтл, 54, Г. М. Старадубец; Дужаўшчына Чв, 79, В. П. Лемцюгова; Буцькаўшчына Пл, 9, П. А. Садоўскі; Буда Хн, 139, Л. А. Антанюк; Бераснёўка Бр, 142, Н. Дз. Корань; Верасніца Жт, 114, М. А. Дарошка; Саламір'е Пл, 5А, А. Я. Баханькоў; Лібараўшчына Дк, 28, А. С. Аксамітаў).
*зімны* ў значэнні 'зімовы' (Шаламы Сл, 85, І. Я. Яшкін).
*зімны* ў значэнні 'халодны' (Гальшаны Аш, 19, Т. І. Блізнюк).

### Карта № 35

## МОЦНЫ (МАРОЗ)

№ 66 а) «Мароз крэпкі, моцны, зыркі...»
Картаграфуюцца назвы моцнага марозу (азначэнні ў складаных назвах).
*мóцны* 23, 43, 49, 50, 52а—55, 60, 63, 93, 94, 111, 113 (рэдк.), 120а, 125, 133, 134, 137. *мóцный* 40 (трад.), 86. *міцный* 92, 96а, 97, 131. *мы́зцный* 107. *мэ́цны* 101, 102.
*крэ́пкі* 1, 2, 4, 8а, 10, 11, 19, 22, 25а, 26, 29—31, 34 *(аш плячмі жмакаеш)*, 36, 37, 40, 43, 54, 59, 62, 64, 66, 68—71, 73, 75, 76, 82, 84, 110, 112, 115, 116, 118—121, 124—127, 129, 130, 139—142. *крэ́пкій* 8а, 14, 117. *крéпкі* 13, 32, 81. *крéпкій* 12, 32, 33, 39, 41, 42, 44, 83, 85, 88, 89.
*сільны* 8—9, 14, 18, 31, 45, 60, 65, 77, 84, 87, 128, 130. *сільный* 8а, 39, 41, 44, 79, 87. *сілны* 135. *сілён* 14.
*вялікі* 3, 6, 21, 24, 25а, 27, 28, 57, 58, 62, 67, 70, 72—75, 82, 100, 104, 105, 112, 126, 130. *велікі* 114, 122, 135. *валікі* 106, 138. *вылікый* 90, 95, 97. *вылыкый* 96, 103, 131, 132. *вэлікі* 101, 113. *вэлікій* 91. *вэлыкый* 94а, 96а, 108, 109. *вэлэ́кі* 98.
*вéлькі* 20, 46—48, 49а, 51—54, 56, 58, 59, 61, 99.
*бальшы́* 4, 5, 9, 22, 35, 37, 38, 73, 75, 84, 123, 128, 129. *бальшы́й* 7, 44, 80, 83. *бальшэ́й* 15—17, 32, 85, 86.
Іншыя назвы: *дóбры* 140. *дóбрый* 91. *дýжый* 131. *здарóвы, здарóвуй* 140. *здорóвы* 133. *зыр* 64. *зы́ркі* 57, 134. *зы́ры* 25. *люты* 129, *ніцы* 139 *(калі на дварэ вісіць іней)*. *пытхыдзя́шчый* 78. *прытýжны* 114. *пэкýшчы* 102. *пякýн* 88. *пякýчы* 72. *стрáшный* 79. *траскýн, мароз цісне* 112. *харóшы* 118.

### Карта № 36

## СЛОТА

№ 67 «Я. н. сырая пагода з мокрым снегам: халіпа, халіва, хляба, хляпа...»
Картаграфуюцца лексемы, якія абазначаюць сырое надвор'е са снегападам, дажджом, паказаны словаўтваральныя, некаторыя фанетычныя і акцэнталагічныя адрозненні.
Рознага характару адзінкавыя адхіленні на карце не адзначаны. Як *хляпа* картаграфуецца *хліпа*, як *хляпаніна — хляпіна, пляханына*, як *хляпаць — хляпасць*, як *хлякаць — хлякасць*, як *слякаць — сляхаць, сьлéпаць*, як *слóта — сьлёта, сьлюта*, як *слоць — сьлёць*, як *слатá — слётá, слутá*. Дыялектная рэалізацыя лексемы *слатá* адлюстравана на карце № 37.
Акрамя адзначаных выпадкаў, аб'яднаны знакамі наступныя варыянты: *хля́га* і *хля́ка, хляпóта* і *хлюпóта, плягóта, плехóта*.
*хля́па* 2, 6, 8а, 21, 23, 29, 33, 38, 40, 52а, 53, 59, 64, 65, 71, 86, 95, 100, 104, 107, 118, 126, 129, 137. *хліпа* 106.
*хля́ба* 40, 42—44, 73, 75, 76, 78, 79, 80—84, 85 (трад.), 88, 115, 119, 124, 128, 129.
*хля́га* 125, 140. *хля́ка* 67, 127.
*хля́паць* 28. *хля́пыць* 35. *хля́поть* 103. *хля́пасць* 70, 116.
*хля́паніна* 25, 26, 69. *хля́піна* 53. *хліпаніна* 6. *пляханы́на* 94а. *хляпаны́на* 95—97, 132. *хляпанэ́на* 96а, 98.
*хля́паніца* 25, 56.
*хліпатá* 8а. *хляпатá* 47.
*хля́каць* 125, 129. *хля́коть* 92. *хля́касць* 120, 135.
*хлю́па* 25а, 134.
*хлюпóта* 60, 134. *хляпóта* 102 (рэдк.).
*хáлепа* 5, 82, 118, 120а, 123, 129, 138. *хáліпа* 7, 8а, 13, 30, 34—37, 39, 43, 44, 63, 74, 75, 79, 87, 142. *хáляпа* 53, 66, 105, 110, 111, 112, 117, 121, 139.
*хáлеба* 128. *хáляба* 72.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *хліпацéнь* 4. *хляпóцця* 42. *хляпотня́* 103. *хлюшча* 128. *хáлепаць* 129. *хлю́павка* 131.
*пля́га* 45, 49, 93.
*плягóта* 93. *плехóта* 94. *плюхóта* 114.
*плюта* 49а, 50, 55.
*плюгóцька* 24.
*сля́каць* 31, 60, 61, 122, 130, 141 (часцей). *сля́кыць* 85. *сьля́каць* 10, 11, 68, 88, 112. *сля́коць* 113, 133, 136. *сля́коть* 90, 131. *сля́хаць* 136. слéкоть 97 (нов.). *сьлéпаць* *54*.
*слякóта* 94.
*шля́каць* 1, 7, 14, 25а (нов.). *шля́кыць* 16, 82. *шля́коть* 92. *шля́коць* 101, 113.
*шля́па* 15, 32, 35, 91.
*шліпаніна* 4, 9. *шляпаны́на* 90, 91.
*шляпóта* 22, 82.
*шляпóцця* 8а, 17, 32.
*шляць* 8, 9.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *шля́пынка* 5. *шля́пыць* 12. *шля́ка* 16. *шля́пайка* 22. *шлю́па* 77.
*слóта* 51, 52а, 54, 61. *сьлёта* 21, 24. *сьлюта* 77.
*слоць* 18, 61. *сьлёць* 62.
*слатá* 19, 52. *слотá* 94, 97. *слётá* 109. *слутá* 92. *сьлютá* 130.
Адзінкавыя: *ляплёнка* 1. *кіжаль* 14. *плюгóцька* 24. *золь (халóдны дрóбны-дрóбны*

*дошч)* 34. *ніна́сця* 41. *о́кіць* (мокры снег) 51. *лёпа* 52а. *ненасце* 126. *брызгота* 54. *мя́ча* (дождж і снег разам) 89. *макротэ́ча* 94а. *кля́каць* 99. *пляско́та* 102. *аблівáха* 125. *чэргá* 131.

Апісальныя канструкцыі: *хля́піць снех; ва́ліць мо́крь снех кама́мы, пласта́мы* 2. *ля́пська, снех ля́паіць, дошч і́дзець* 3. *снех хля́паіць вялікімы кава́лкамы* 4. *бальшыімі лíпнямі як дась снех* 8. *хля́пська* 8а. *снех лапцява́ты ля́пая* 20. *хля́пська пагóда, на двара́ хля́пска* 27. *мокра погода* 46. *гніла́я пагóда* 48. *хля́пська на дварэ́, хля́піць снех з даждж́ом* 57. *хля́пая снех мо́кры* 58. *ля́піць снех мо́кры* 59. *мо́кра пого́да, хля́патно, хля́пна* (прысл.), 108. *сыра́я паго́да* (радзей) 141.

## Карта № 37

## ЗНАЧЭННЕ ЛЕКСЕМЫ *СЛАТА*

№ 68 «Што абазначае слова слата, слота: вільготнае надвор'е, снег, дождж, туман...»

На карце картаграфуюцца прамыя і пераносныя значэнні лексемы *слата́ (сло́та)*, паказаны экспрэсіўныя адценні выразаў: *як слата́, слата́ слато́ю,* што бытуюць у народных гаворках як устойлівыя фразеалагічныя адзінкі пераважна з негатыўным ацэначным значэннем.

1. *Як быў голат пасля вайны, гаварылі: людзі валяцца, як слата́* (толькі ў падобных выпадках). 2 слата́ ў выразе: *паваліліся бапкі лёну, ляжаць, як слата́.* 3 *слата́, слоць — сьнех мокры, туман; пшчо́лы ляця́ць як слата́.* 4 *як слата́ ляжа́ць свіні, каро́вы* (ляжаць спакойна); *му́хі па́даюць як слата́, як пасы́піш атра́вай.* 6 *слата́* ў выразе 1) *людзі па́далі як слата́* (мёрлі). 2) кускі снегу вялікія: *ва́ліцца снех як слата́.* 3) *свінні здыха́лі як слата́.* 8 *слата́* толькі ў выразах: *людзі паміра́юць на вайне́ як слата́.* 8а *съслата́ —* вільготнае надвор'е. 10 *слата́* (рэдк.) *— дождж са сне́гам мо́крым, сьля́каць, хо́лад, золь.* 11. *слата́ — мокры снех, тое ж, што сьля́каць, але менш ужыва́ецца.* У выразах: цягнуцца й цягнуцца на кірма́ш як слата́ слато́й (вельмі многа). 16 *шля́кыць.* 18 *слоць — сьнех з даждж́ом.* 19 *слата́— мокры снех з дажджом.* 20 *слата́* і *сло́та:* 1) мокры снех: *алі ш слата́ на дварэ́,* 2) вялікая колькасць: *наляце́ла варо́н як слата́.* 21. *сьлёта — сьнех з дажджом.* 22 *слата́: ідзе́ дошч і снех.* 23 *слоць, слата́ — ве́цер, дождж, снех, хо́лад.* 24 *слёта —* мокры снег, снег з дажджом. 25 *слата́ (машка́)* *(слата́ нападзе́ць на сады, лíсця пааб'ядзя́).* 25а *слата́, сьлёта —* снег з дажджом. У выразах: *наляце́ла груганóў як слаты́.* 27 *сьлёта — як па́дая сьнех з даждж́ом, така́я хля́пська пагóда.* 28 *слата́: слаты́ йе́тай наляце́ла, не адбаранíцца.* 29 *— (кíслыя пагóда).* 35 *прывíза́уся ма́ліц г дзе́ўцы як слата́.* 37 *слата́: як слата́ прывíза́ўся; чэрві як слата́ паўзу́ць* (але значэння не ведаюць). 40 *— (ніна́сьлівыя пагóда, мыкрыта́).* 45 *слата́: дождж, зямля размокла, ня вы́йсці ніку́ды.* 47 *слата́:* дождж з мокрым снегам *(до́бры гаспада́р у таку́ю слату́ і сабаку ні вы́жаня).* У выразах: *атчапíся, слата, ня́ма на цябе́ угамо́ну. На каро́ў слата́ напала, задра́лі хвасты́ і паляце́лі ў кусты́, і я пабе́х.* 48 *слата́ —* дзеці *(вось гэтая слата ляціць за намі).* 49 слата́ — машкара. *(камар*[э] *напалі — чысто слата, прывязá́ўся як слата́.* 49а *прычапíлася як слата.* 50 *слата́ —* той, хто прыстае, надакучае *(атхіліся ад дзіцяці, слата).* 51 *слота́ —* сырая пагода зімой. 52 *слата́ —* мокры снег з дажджом. *(дзісь сло́ціць снех і дошч).* 52а *сло́та —* сырое надвор'е са снегам і дажджом. 53 *сло́та, слоць —* вільготнае надвор'е, дождж, гразь. 54 *сло́та: слоць —* сырая пагода з мокрым снегам. 55 *слата́ —* той, хто надакучае, прыстае *(як слата́: дава́й яму́ ро́вара пад'е́хаць — і ні атрака́скацца).* 56 У выразе: *атчапíся, чаго лезеш, слата́.* 57 *слата́, слоць —* снех з дажджом (слата́, марасíць *хало́дны дождж увосень).* 58 *сло́та —* мокры снех *(снех куры́ць, бу́дзя мяце́ліца, ве́цяр закру́чвае, бу́дзя снех мо́кры, будзя сло́та).* 59 *слата́ —* снег з дажджом *(якая на дварэ слата́!).* 60 *слата́ —* вільгатнае надвор'е, непагода з дажджом і снегам. 61 *слата́ —* хто назойлівы, надаедлівы: *(чаго ты лезеш слато́ю? Слата́ — вільготнае надвор'е).* 62 *сьлёць.* 64 *сло́та —* вільготнае надвор'е *(вот не́йкая сло́та на дварэ́).* 65 *сля́ка.* 66 *сло́та —* снех з дажджом *(вот на дварэ слата́).* 67—68 *слата́ — зо́ласць напала (слата́, кажуць, як руга́юцца).* 69 *слата́ —* гавораць на дзятвару *(от слата́).* 70 *слата́ — снех і дошч разам восеню, вецер яшчэ удабавак.* 73 *слата́ — надаедны, нахальны чалавек (прыкаса́йся як слата́; слата́, ня лезь (нахальнае атнашэнне).* 74 — (не ўжываецца). 75 У выразе: *прычапíўся, як слата́.* 77 *сьлюта (на дварэ сьлюта ідзе́).* 78—.80 *прывíза́йся як слата́* (значэння не ведаюць). 81—.82 *сьлюта — гразь, снег з дажджом.* 84 У выразе : *прывíза́йся як слата́.* 85—.90 *слота́ (прычыпывся як слота́; пагода то дошч, то мокро — слота́).* 91—.92 *слута́ —* сырое надвор'е звычайна з мокрым снегам. 93 *слата́ — калі хмурна, гразна.* 94 *слота — снег, дождж, туман, гразь.* 94а *вчэпывся бы слота́.* 95 *слота́ —* надакучлівы *(прычыпы́вся як слота́; гэта слота́ ні одлізэ.* 96 *слота́ —* надакучлівы (аб чалавеку, жывёліне, надвор'і). 96а—.97—.98 *слута́ — як дошч; причэпэвся як слута́.* 99 У выразе: *ня лесь мне ў вочы — слата́!* 100 *слата́: прыста́ла ці прычапíлася да мяне́ як слата́; шлоць — пагóда ніхаро́шая.* 102 *слота́ — надакучлівая* істота*(от прычэпілася абі слота́ нека; от слота́ прівйезаласа); слокíта —* вельмі сырое надвор'е (руск. *ненастье).* 103 *прыстав, бы слота́, як слота́.* Вельмі рэдка: *слота —* дрэннае мокрае надвор'е. 104 *слодзь — снег, дождж, мо́кра, як маро́зу німа́: ідзе сле́дзь і ўслед замярза́е.* 105 *слата́: ле́зе як слата́* (прыстае). 108 *прычэпывса бы слота́.* 109 *слёта́: прычэпывса бы (як) слёта́.* 111 *сьлюта́ —* мокры снег. 113 *прычэпівса ек слота́.* 114 *от прычэпілосо ет слота́.* 116 *слата́: мокра, дошч, снег ля́пае.* 118 У выразе: *прычапíўся як слата́.* 119 *слюта́: дож із снегам: слюта пашла; на дварэ слюта́ сяго́дня.* 124 *сьлюта́.* 126 *слюта́ —* вільготнае надвор'е. *(слюта́ ека́я на дварэ, што не вылáзіў бы з хаты).* 127 *сьлюта́ —* дождж са снегам, халоднае вільготнае надвор'е. 129 *слюта́ —* вільготнае халоднае надвор'е. 130 *слата́ (атчапíсь ты, слата́!).* 131 *слота́ — вільготнае надвор'е, тое, што і чэ́рга.* 132 *слюта* (аб дрэнным надвор'і); *слюта́: отчыпыса ты од мынэ, слюта!* 133 *слёта на доро́зі, не́льга е́хаці.* 134 У выразе: *прíчэпі́ўся ек слота́.* 137 *як слота́ прычапíўся.* 140 *слата́ —* вільготнае надвор'е; *надаку́чны прычэ́пны чалавек; дасáдна сегодня — слата́; як слата́ ў во́чы ле́зе.*

## Карта № 38

## ВАРЫЯНТЫ ЛЕКСЕМЫ *СЛАТА*

№ 68 «Што абазначае слова слата, слота: вільготнае надвор'е, снег, дождж, туман...»

Карта адлюстроўвае геаграфічны аспект лексемы *слата́ (сло́та)* акрамя таго, на ёй паказаны фанетычныя, акцэнталагічныя і словаўтваральныя варыянты лексемы.

*слата́* 1, 2, 3, 4, 6, 8, 8а, 10, 11, 19, 20, 22, 25, 25а, 28, 35, 37, 45, 47, 48, 49, 49а, 50, 51, 52, 55, 56, 57, 59, 60, 61, 68, 70, 73, 75, 80, 84, 99, 100, 105, 116, 118, 130, 140. *слота́* 51, 90, 94, 94а, 95, 96, 102, 103, 108, 109, 113, 114, 131, 134, 137.

*слута́* 92, 98.

*сьлюта́* 111, 124, 127. *слюта́* 119, 126, 129, 132.

*слёта́* 109.

*сло́та* 20, 52а, 53, 54, 58, 64, 66.

*сьлёта* 21, 27. *слёта* 24, 133.

*слюта* 119, 132. *сьлюта* 77, 82.

*слоць* 18, 23, 54, 57.

*слодзь* 104. *следзь* 104.

*сьлёць* 62.

*шлоць* 100

*слокíта* 102.

## Карта № 39

## АДЛІГА

№ 69 «Я. н. цёплае надвор'е зімой, калі цячэ са стрэхаў: адлега, адлёга, адліга...»

На карце картаграфуюцца некаторыя фанетычныя і акцэнталагічныя варыянты, а таксама лексічныя сінонімы назваў адлігі.

Як *адлíга* картаграфуецца *адлíгва,* як *адле́га — длэ́га,* як *одлы́га — удлы́га.*

Ёсць заўвагі ў адказах аб пераважным ужыванні таго ці іншага варыянта ў пунктах 51, 85 і 135.

*адлíга* 18—20, 22, 23, 25а, 32, 48, 49а, 52а—54, 57—59, 61, 64, 65, 80, 93, 100, 105, 141. *одлíга* 45, 91, 94, 96а (уже буде тэпло), 102, 106, 107, 122, 133. *атлíга* 1—3, 4 *(цячэ з даху),* 5—7, 8а, 11, 13—16, 21, 24, 26—28, 39—44 *(с страхаў цячэ),* 51 (пераважна), 54, 55, 61, 62, 67, 69, 73, 75, 78, 79 *(певінь хлопыя крыламі — атлíга будзе),* 81, 82, 86, 99, 104, 120, 128—130, 141, 142 *(мяхкая пагода). атлíгва* 122. *отлíга* 101, 114, 134.

*мьяліца*. 94 *яма, дэ крутіт (краніца, крэніца)*. 94а *яма, прыворотьте*. 95 *выр, круча*. 96 *круча*. 96а *выртуха*. 97 *бурчак, крутыть вода*. 98 *тут ныма*. 99 *вір*. 100 *бухта*. 101 *вір*. 102 *вір, віры* (мн.). 103 *бухта; попав у такую бухту, што ны выробывса; вода крутыть*. 104 *вір, вірок*. 105 *яма, у ямі круціць*. 106 *віхор*. 107 *йур*. 108 *выр, круча, на вырў*. 109 *комына вода, выр*. 110 *яма*. 111 *вір*. 112 *вір, бурчак*. 113 *вірок*. 114 *бухта*. 115 *вір*. 116 *круч*. 117 *віхор*. 118 *вотмут*. 119—120 *вір*. 120а *крут, круча*. 121—122 *круча*. 123 *вір*. 124 *вотмут, вір* (рэдк.), 125 *вір, вярцёбы; у рэчкі кольцамі вярцёбы круцяцца*. 126 *круча, вір; туды можа і чалавека ўкруціць*. 127 *отмут, круча*. 128 *вір*. 129 *равучая вада*. 130 *вір*. 131 *буваном ідэ вода*. 132 *на кручку, крутіль, у вырў, выр*. 133 *бухта*. 134 *вір, круча*. 135 *круча*. 136 *вір*. 137 *круціць*. 138 *круча*. 139 *вір*. 140 *вір, верць*. 141 *вір*. 142.

## Карта № 67

# ГЛЫБОКАЯ ЯМА НА РЭЧЦЫ

№ 119 «Я. н. глыбокая яма на рэчцы: вір, каверт, коверт, вомут, бухта, букча, бука...» АЛА 2634 'глубокое место в реке или озере, глубина' глубина — dubina — głębina.

Картаграфуюцца назвы глыбокай ямы на рэчцы. Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Як *вір* картаграфуецца *вірок*, як *омут — вомут, вотмуць*, як *бухта — букта*, як *бук — бука*, як *яма — ямка, ямачка, яміна, чорная яма*.

1 *яма, вір*. 2 *вір; віры*. 3 *яма*. 4 *амут — лёха; лёхі ў возіры; кавет* — чулі, але не знаюць што гэта. 5 *амут*. 6 *вакно, вір*. 7—8 *амут*. 8а *вір, амут*. 9 *віры*. 10 *вір*. 11 *вомут*. 12 *завънъ*. 13—15 *амут*. 16 *вір, ключ*. 17 *амыт*. 18 *бухта*. 10 *яма*. 20 *бабровішча*. 21. 22 *атвой*. 23 *яма*. 24 *вір*. 25 *атвой*. 25а—26 *вір*. 27 *выбойіна*. 28 *вір, падпечча*. 29 *вір, амут*. 30 *бук*. 31 *вір*. 32 *яма; вір — дзе круціць*. 33 *вір*. 34 *ямка, яміна*. 35 *бохын*; *Бук* — назва балота. 36 *вір*. 37 *бук; букі* (мн.); *Шпакаў бук. Бабскі бучок* — глыбокія месцы у рэчцы. 38 *вір*. 39 *віры*. 40 *віркі нібальшэя*. 41 *вір, вотмут, бука*. 42 *вір глубокій*. 43 *вір*. 44 *вірок*. 45 *яма, ямачка*. 46 *вадзяныя ямы, бухты*. 47 *вір глубокі*. 48 *чорна яма*. 49 *вір*. 49а *атвой, вір*. 50 *бухта*. 51 *вір*. 52 *віхровіна*. 52а *у яме вада, і круціць, і называецца вір*. 53 *вір*. 54 *бухта*. 55 *вір* (рэдк.), *бухта, яма*. 56 *яма*. 57 *бухта*. 58 *букта*. 59 *яма, бухта*. 60 *вір*. 61 *бухта*. 62—65 *вір*. 66—67 *яма*. 68 *вотмут; у Каншонкавым вотмуця; на Крукавым вотмуця*. 69 *вір; дзе вір, там і яма; калена — глыбокае месца; дзе рака паварочваецца, там яма*. 70—71 *вір*. 72 *яміна*. 73 *яма*. 74 *бук*. 75 *вір, вотмыт*. 76 *вір; хоць у вір галавой*. 77—79 *вір*. 80 *яма, катлаван* (нов.). 81 *вір, вотмат*. 82—83 *вір, вотмут*. 84 *вір*. 85 *вірок*. 86 *вір*. 87 *ямка, вір*. 88 *вір, прорва*. 89 *вір*. 90 *ямка, тоня*. 91—93 *омут*. 94 *яма*. 94а *прыворотьте*. 95 *ямы* (мн.); *яма* (адз.). 96 *ямка*. 96а *выртуха*. 97 *глубока ема, емка*. 98 *ема глыбока*. 99 *вір глыбокі*. 100—101 *вір*. 102 *ямы; Сомыньськое озеро ямковатое*. 103 *ямы*. 104—105 *яма*. 106 *віхор*. 107 *юр, яма*. 108 *яма*. 109 *бухта*. 110 *ямы*. 111 *бухта — глыбокае месца за заваросце ракі, вада ударaецца аб берах і ідзе зноў*. 112 *затон; затоны*. 113 *бухта*. 114—115 *вір*. 116 *круч*. 117 *віхор, яма*. 118 *вір*. 119 *глыб, яма*. 120 *вір*. 120а *круць, круча, круч*. 121—122 *круча*. 123 *вотмуць*. 124 *яма, вотмут*. 125 *вотмут, вырва, круга, яма*. 126 *круча, вотмут*. 127 *отмут*. 128—129 *вотмут*. 130. 131—. 132 яма, глыбіна, глыбокыйі місця. 133 *прымол, бухта*. 134 *бухта*. 135 *кручы* (мн.), *круча* (адз.). 136 *вір*. 137 *кадоўб*. 138 *вомут*. 139 *вір*. 140 *вір, яма*. 141 *яма*. 142 *вір*.

АЛА: 13А *атвой*. 26А *жараўло*. 28А *букта, круцель*. 29А *віхор, вір*. 30А *вір*. 34А *яма, вір*. 41А *вір*. 53А *бухта*. 67А *круча*.

## Карта № 68

# ЧАСТКА РАКІ, ЯКАЯ ЗІМОЙ НЕ ЗАМЯРЗАЕ

№ 121 «Я. н. частка ракі, якая зімой не замярзае: лунка, пломіна, пломіска, сцякун...» На карце супрацьпастаўлены назвы часткі ракі, якая зімой не замярзае.

Назва *крынічка, крынічная места, крынішныя места, крынічнае места, крынічлівае места, крынічлівыя места, крынічная вада* картаграфуюцца як *крыніца*, назвы *опар, опар, опарок, опарі, упар, патпар, апара, парня, вопара, ашпарына, там парыць, апарыстая места, апарыстая рэчка* — як *апар*, назвы *палання, палыньй, пълння, пълня, палыня, пылыня, паланя* — як *палыння*, *пролупка, пролапка* — як *пролубка, продуха, прадухвіна, прадушына, аддушына, уздуха, прадупліна, прадуквіна, продух* — як *прадуха, быстра, быстра вада* — як *быстрак, цякун, сцёк* — як *сцякун, гніль, гнілое места, гнілая рака* — як *гнілец, теч*, *цекі, чэч, чэць, тычке, прутёк, цечы* — як *цеч, бягунец, бягучая вода, бягушчая вада, бежыць вада* — як *бягун, праломка, проламка* — як *праломіна, вірўіць вада* — як *вір, лумка, луміна* — як *лунка, пель, пеля, пелечка* — як *пелька, палонка, палонька, паломіна, паломка* — як *палонка, цёплыя выда, цёплыя места* — як *цёплае*.

Пры картаграфаванні пад увагу не прымаліся фанетычныя і фанетыка-граматычныя асаблівасці.

Адведзены ад картаграфавання адказы *сэрэдына* 94а, *рыка мые* 96, *сэрэдзіна ракі* 135, як не зусім пэўныя, агульныя.

*крыніца* 21, 25, 26, 29, 52, 56, 58, 62—64, 68, 72, 74, 75, 83, 84, 88, 93, 104, 105, 110, 119. *крынічка* 88. *крынічная места* 6, 33, 68, 71, 75. *крынішныя места*. 35, 42. *крынічнае места* 73. *крынічлівае места* 73. *крынічлівыя места* 85. *крынічная вада* 20.

*апар* 99. *опар* 95, 103. *опар* 97, 108, 138. *опарок* 106. *опарі* (мн.) 103. *упар* 132. *патпар* 25. *апара* 52а, 54. *парня* 58. *вопара* 129. *ашпарына* 129. *там парыць*. 58. *апарыстая места* 65. *апарыстая рэчка* (не замярзае сярэдзіна) 67.

*палыння* 127. *палання* 76, 123—126, 128. палыньй 61, 112, 130. *пълння* 15, *пълня* 12. *палыня* 52а. *пылыня* 7, 13. *паланя* 1, 8, 49а.

*пролубка* ('прамыіна') 44, 75, 80. *пролупка* 8а. *пролапка* 6, 34.

*прадуха*, 86. *продуха* 113. *прадухвіна* 34. *прадушына* 86. *аддушына* 86. *уздуха* 56. *дух* 127. *прадупліна* 12. *прадуквіна* 12. *продух* 93, 94.

*быстрак* 2, 75, 107. *быстра (быстра на Сажы)* 82. *быстра вада* 56.

*сцякун* 45, 48, 116. *цякун* 45, 120. *сцёк* 89.

*гнілец* 139. *гніль* 136. *гнілое места* 118. *гнілая рака* 118.

*цеч* 111. *теч* 134. *тіч* 109. *цекі (цекі на пераміллі бываюць)* 137. *чэч* 114. *чэць* 114. *тычке* 92. *прутёк* 98. *цечы* 137

*цёплае: цёплыя выда* 75 *цёплыя места* 16.

*бягун* 117. *бягунец* 117. *бегучая вода* 134. *бягушчая вада* 119. *бежыць вада* 135.

*праломіна* 41. *праломка* 47, 53. *проламка* 36, 38.

*вір* 69, 79. *вірўіць вада* 3.

*лунка* 10, 11, 17, 31, 36, 37, 40, 42, 50, 57, 74, 85, 88, 141. *лумка* 14. *луміна* 32.

*пелька* 121, 126. пеля 127. *пель* 122. *пелечка* 126.

*палонка* 38, 61, 67, 79, 130. *палонка* 60. *палонъка* 12. *паломіна* 70. *паломка* 70.

Адзінкавыя: *акно* (на возеры) 2; *бязденная акно* 26; *акенца* 81; *люны* 4; *пярэсуха (бывае чуць замерзне, але на пярэсусе не ідуць, у нас у трох месцах пярэсуха)* 66; *атмел* 28; *лёх* 23; *прэль (як вясной разапраець)* 21, *прэміна* 24; *прамыіна* 41; *прамоіна* 85; *ятэль* 133; *яма* 140; *жывец* 82; *пётро* 131; *рягтун, рігатун* (на стаячай вазярыне) 84; *отмут* 127; *прорва* 136; *ключ* 87; *плывун* 90; *палюе вуда* 98; *плёс* 100; *грэбынь* 90; *бузяная рака* 17. *крут, круча* 120а. *атвой (гетыя атвайі ні дўжа замярзаюць)* 22. *ні замярзаючае места* 43. *зрудляныя месца* (зрудляныя месцы не замярзаюць) 46. *хуткацечка (хуткацечка не замярзае зімой)*.

Адсутнасць лексемы: 5, 18, 19, 25а, 27, 30, 39, 49, 55, 59, 77, 78, 91, 97, 101, 115, 142.

## Карта № 69

# ПАЛОНКА

№ 122 «Я. н. прасечаная адтуліна ў замерзлых вадаёмах: палонка, панаўка, паніўва, пелька, пролуб, пролубка...»

На карце досыць добра супрацьпастаўляюцца тэрытарыяльна розныя па кораню назвы. Паказаны таксама тэрытарыяльныя адносіны паміж некаторымі пашыранымі варыянтамі асобных назваў. Картаграфуюцца: *ополона*, як *ополонка, балумка*, як *балонка, проламка, пролaнка*, як *пролубка, пролуба*, як *пролуб*.

*пелька* 66, 69—72, 76, 77, 82, 112, 115, 116, 118—122, 124—130, 135, 136, 138, 141, 142. *пеля* 117, 140. *пель* 122.

пало́нка 38, 56, 61, 62, 67, 85, 99, 100, 104, 110, 113, 133, 134, 139, 141. *палонка* 60, 65, 98, 105, 114. *поло́нка* 90, 96а, 97, 137. *пуло́нка* 92, 98. *пало́мка* 94.
*апало́нка* 111. *ополо́нка* 96, 107—109, 131, 132. *ополу́нка* 94а. *ополо́на* 107.
*пало́нька* 95, 103, 106. *полы́нька* 102.
*па́ланка* 75. *паланнЯ́* 126. *пальі́на* 88.
*бало́нка* 88. *болонка* 90. *балу́мка* 11.
*па́ніўка* 78—80, 83—89. *па́нейка* 84. *па́няўка* 81. *па́нюўка* 84.
*па́наўка* 73. *па́нуўка* 44. *па́ныўка* 43.
*про́лупка* 1, 6, 8а, 10, 11, 18, 20, 22—25, 25а, 32, 57, 60, 61, 68. *про́лубка* 5, 59, 80. *про́лапка* 2, 4, 7, 8, 21. *про́лабка* 5. *про́лъбка* 9. *про́лъпка* 13. *про́ламка* 26, 31, 36, 38, 51, 52а, 63, 74. *про́лымка* 35. *про́лумка* 58. *про́ланка* 37.
*прало́мка* 45—49, 49а, 53, 54. *прало̂мка* 64.
*про́луб* 9, 41. *про́лап* 3. *про́луп* 50, 60. *про́луба* 19.
*про́руб* 42, 55, 85, 87, 91, 125, 128, 136. *про́руп* 55, 90. *про́раб* 101. *про́рубка* 27. *про́рабка* 33.
*лу́нка* 12, 15—17, 30, 32, 34, 36, 40, 42, 73, 79, 81, 87, 116, 125. *лу́мка* 14, 29.
Адзінкавыя: *цюшка* 6. *ку́пка* 28. *лу́пка* 41. *прасе́ка* 41.

### Карта № 70

## БЕРАГ

123 «Я. н. бераг вадаёма: руб. бераг...» АЛА 3225 berg берег — breg — brzeg
Картаграфуюцца рэфлексы паслянацікнога этымалагічнага *е* ў слове бераг (**берегъ*). У асноўнай частцы беларускіх гаворак рэфлексы галоснага *е*, які картаграфуецца, звязаны з характарам акання: *е > а; е > ы; е > і; е > ъ*. Не выключана, што ў асобных гаворках адбыўся пераход *е > о > а*. Для гаворак Заходняга Палесся характэрны пераход *е > о; е > о > у; е > е*[ы]; *е > ы*. Не картаграфуюцца назвы разнавіднасцей берага.
*бе́раг* 36, 37, 45—48, 61, 73, 75, 77, 80—82, 115, 116, 118—130, 135, 137—139, 141, 142. *бе́рах* 1—8, 10, 11, 18—28, 30, 31, 38, 49—58, 60, 62—66, 68—72, 74, 76, 99, 100, 105, 110, 112, 140. *бе́раг*[х] 9, 59, 67, 88, 104.
*бе́рЯг* 33.
*бе́рыг* 40, 42, 43, 78. *бе́рых* 34, 35, 73.
*бэ́рыг* 90, 92. *бэ́рэ*[ы]*г* 131.
*бе́ріг* 40, 44, 79, 84—87. *бе́ріх* 13, 14, 16, 17, 32, 39, 83, 89. *бе́рих* 12.
*бе́ръх* 8а. *бе́ра*[ъ]*х* 29.
*бе́рэг* 114, 136.
*бе́рег* 117.
*бэ́рэг* 91, 94, 107, 113, 117. *бэ́рэх* 93, 133.
*бэ́рог* 94а—96а, 101—103, 108, 109, 132. *бэ́рох* 97.
*бэ́рух* 98, 106.
Адведзены: *атло́г* 125. *бурт* 107 *(сідзеў на канаві, на бу́рці)*. *бычовні́к (бэрог — са́мый край, а бычовні́к — трохы выжэй)*. *грэ́бля* 46. *паплаве́ц* 142. *узва́лля* 4.
АЛА: *бе́раг* 38А, 40А, 58А—63А, 66А, 67А, 115. *бе́рах* 3А, 5А, 6А, 10А—13А, 15А—19А, 24А, 26А—35А, 37А, 44А, 46А, 49А, 50А, 53А, 55А, 50, 61, 70. *бе́рах*[г] 14А.
*бе́рых* 1А, 2А, 4А, 22А, 36А.
*бэ́рыг* 43А.
*бе́ріг* 23А, 25А, 39А, 41А, 42А. *бе́ріх* 7А, 9А, 21А.
*бе́ръх* 8А, 20А.
*бе́рэг* 54А, 56А.
*бэ́рэг* 64А, 65А. *бэ́рэх* 51А.
*бэ́рог* 45А, 47А, 48А, 64А. *бэ́рох* 52А.

### Карта № 71

## ПАДОЛ (МЕСЦА НА БЕРАЗЕ ВАДАЁМА, ДЗЕ МЫЮЦЬ БЯЛІЗНУ)

№ 140 «Я. н. месца (на беразе рэчкі, возера і іншых вадаёмаў), дзе мыюць бялізну: працвішча, падол...» № 3237 «Падол: а) месца на рэчцы каля вёскі, дзе мыюць бялізну, пояць коней, бяруць ваду...»
На карце картаграфуецца пашырэнне слова *падо́л* 'месца на беразе вадаёма, дзе мыюць бялізну'. Усе іншыя адзначаныя назвы тыпу *бро́дніца* 107, *бе́рва* 66, 103, 109 адведзены ад картаграфавання, бо не адпавядаюць тэме карты. Яны б склалі самастойную тэму карты 'кладка, дошка, калода для мыцця бялізны на беразе вадаёма'. Адведзена таксама ад картаграфавання назва *падо́л* у іншых значэннях: 9 'прыстань' (3237), 113 'ніжэйшая частка поля' (3237), а таксама ўрочышчы *Падо́л* 'месца каля высахшай рэчкі' 119(140), урочышча *Падо́л* 118 (3237). *падо́л* (140) 38 'сажалкі ў нізіне, дзе мылі бялізну, дзе хадзіла жывёла', 42—44, 46 *(на падо́ле напе́йна, мыць пашла́)*, 73, 75, 77 *(на падо́лі пало́тны сла́лі, пamо́чуць да пасце́люць)*, *78—86*, 88, 89, 118, 125, 128, 129; (3237) *падо́л* 9 'прыстань', 37, 38, 42—44, 73—89, 92, 99, 118. *падо̂л* 60. *подо̂л* 'ніжэйшая частка поля' 113. Урочышчы: *Падо́л* 118 (3237), *Падо̂л* 'месца каля высахшай рэчкі' 119 (140).
Адсутнасць назвы: (140): 1—9, 10—37, 39—41, 45, 47—59, 61—72, 90—98, 100—112, 114—117, 120, 120а, 121, 123, 124, 125, 130—138, 140, 141—142.

### Карта № 72

## ПАЛОГІ (ПРА БЕРАГ РАКІ, ВОЗЕРА)

№ 124 «Бераг вадаёма бывае: а) палогі, адлогі, спаховы, атхоны...»
На карце паказана пашырэнне асноўных азначэнняў у іх лексічных варыянтах. Фігурамі картаграфуюцца аднакаранёвыя азначэнні, а словаўтваральная і іншая лексічная розніца паміж імі абазначана ўнутры фігур. Картаграфуюцца *ло́жны, атле́глы, атло́гавісты, атло́навасты, атло́жысты,* як *адло́жны; атхо́нный, атхо́дный,* як *атхо́ны; атхо́нывытый, атхо́нуты, атхо́нуваты,* як *атхонавасты; атво́дны,* як *атво́ны; спахо́мы* як *спахо́вы; спахо́васты,* як *спахо́ваты; спушча́сты, спуста́стый спуска́стый, спу́шчаны, спускля́сты, спусклі́вы, спускова́ты, спу́сковаты,* як *спусці́сты; плы́тны,* як *плы́ткі; аскоці́сты, аско́цісты, спака́цісты, ска́тны,* як *ско́цісты; пла́ўны,* як *пла́ўкі; скло́ністы,* як *скло́нный; атко́сы* як *атко́сны.*
*адло́гі* 50, 61, 70. *дло́гі* 55. *атло́гій* 7. *атло́гі* 65, 75, 82, 118, 125.
*адло́жны* 27. *атло́жны* 31, 33, 99. *ло́жны* 30. *атле́глый* 1. *атло́гавісты* 23. *атло́навасты* 29. *атло́жысты* 124.
*пало́гі* 10, 11, 25а, 29, 49а, 60, 70, 74, 76, 79, 81, 87—89, 91, 130, 141.
*пало́жысты* 111.
*атхо́ны* 10, 41. *атхо́ный* 42, 44, 83, 84, 86. *атхо́нный* 8а. *атхо́дны* 8, 24.
*атхо́нъвасты* 9. *атхо́нывытый* 35. *атхо́нуты* 38. *атхо́нуваты* 43. *схо́навасты* 4.
*атво́ны* 12—15, 17. *адво́дны* 53.
*спахо́вы* 51, 52а, 53, 56, 62, 65, 67, 93, 96, 102, 104, 114, 131, 138, 140. *спахо́мы* 47.
*спахо́ваты* 98. *спахо́васты* 108.
*спу́сцісты* 72, 105, 110, 112, *спусці́сты* 54. *спушча́сты* 96а, 103, 116. *спуста́стый* 109. *спуска́стый* 120. *спу́шчаны* 98. *спускля́сты* 2, 6. *спусклі́вы* 21, 26, 49а, 100, 120а. *спускова́ты* 106, 107. *спу́сковаты* 113. *спу́скуватый* 132.
*плы́ткі* 18, 20, 45, 46, 48. *плы́тны* 25.
*пло́скі* 82, 121, 123, 125, 128.
*ско́цісты* 77. *аско́цісты* 122. *пока́цісты* 138. *пака́цісты* 75. *спака́цісты* 21, 135. *ска́тны* 133.
*пла́ўкі* 36, 75. *пла́ўны* 80.
*пла́зкі* 114. *пла́скі* 32. *пла́скый* 90.
*скло́нны* 63, 68. *скло́ністы* 5.
*спа́дзісты* 46, 52. *спа́дыстый* 94а, 95, 108. *спа́дысты* 103.
*атко́сны* 19. *атко́сы* 22.

*нізкі* 34, 37, 40, 58, 59, 64, 71, 73, 104, 117, 126. *нызкый* 92.
*мёлкі* 16, 66, 73, 78, 115, 126.
Адзінкавыя: *слáсны* 3. *аслóнны* 25. *прыткый* 94а. *раўністы* 116. *рóўны* 119, 127. *атмéлісты* 128. *прóсты* 137.

## Карта № 73

## КРУТЫ

№ 124 «Бераг вадаёма бывае: б) круты, стромы, прыцімісты...» АЛА 2628 'крутой, отвесный, обрывистый' (о горе или береге реки)
Асноўная тэма карты — пашырэнне лексічных, і у прыватнасці, каранёвых варыянтаў азначэння. Паказана таксама варыянтнасць *стрóмы: стрóмкі : стрóмны.*
*круты́* 2, 5, 8, 8а, 9—13, 15, 24—26, 28, 29, 31, 35—38, 43, 50, 53, 58—61, 67, 68, 69, 70, 72—78, 80—82, 84, 85, 88, 91, 101, 103, 111—113, 115, 116, 118—128, 130, 135, 136, 138—142. *крутый* 1, 7, 14, 41, 42, 94, 96, 97, 108, 131. *крутэ́й* 16, 32, 79, 86, 87, 89. *крутóй* 17. *крýтый* 117.
*абры́вісты* 2, 6, 8а, 21, 27, 33, 46, 48, 49, 49а, 53, 58, 65, 66, 68, 70, 71, 75, 80, 82, 93, 94, 94а, 97, 100, 111, 115, 135. *абры́вістый* 1. *обры́вістый* 90, 96а.
*стрóмы* 19, 20, 22, 45, 46, 47, 49, 49а, 50, 51, 52а, 53—56, 62, 90, 93—96, 99, 102, 104, 106. *стрóмый* 90, 92.
*стрóмкі* 8а, 10, 18, 25а, 29. *стрэ́мкы* 98.
*стрóмны* 30, 52.
*пры́кры* 52а. *пры́крый* 103, 108. *прэ́кры* 99, 114, 132, 133, 137.
*высóкі* 59, *вісóкі* 64, 69.
Адзінкавыя: *краўжы́сты* 2, *стóці* 3. *схóнаваты* 4. *пры́тны* 23. *спры́тны* 25. *прóсты* 50. *абрýбісты* 63. *склóнны* 68. *спусцісты* 69. *абвáлы* 88. *спáдысты, зрыўчасты* 98. *отклóністы* 101. *прыцíністы* 105. *прыторóмный* 107. *пэчэ́рыстый* 109. *спры́пêчны* 110. *палóжысты* 111. *прыторóнны* 113. *гóнкі* 122.
АЛА: *круты́* 3А, 11А — 19А, 33А — 38А, 46А, 51А, 55А, 57А — 62А. *крутый* 1А, 2А, 4А — 6А, 8А, 20А, 21А, 23А — 25А, 40А, 41А, 43А, 45А, 48А, 56А, 64А, 66А, 67А. *крутэ́й* 7А, 9А, 22А, 23А, 42А, 43А. *крутóй* 22А. *круті́* 65А.
*абры́вісты* 14А, 18А, 34А, 49А, 50А. *абры́вістый* 5А, 67А. *обры́вістый* 47А, 48А, 52А.
*стрóмы* 11А, 26А — 29А, 32А, 44А, 49А. *стрóмый* 13А, 43А.
*стрóмкі* 12А.
*высóкі* 10А, 14А, 33А. *вісóкъі* 7А. *усóкі* 51А.
Адзінкавыя: *атвóнный* 7А. *стáтны* 15А. *пры́тны* 29А. *прамы́* 30А. *аткóсы* 31А. *біряжы́стый* 41А. *пры́ткъй* 45А. *прыцімісты* 53А.

## Карта № 74

## БУРЛІЦЬ (ПРА ВАДУ)

№ 127 «Бягучая вада цюрчыць, дзюрыць, бурбуліць...»
Карта прысвячаецца асноўным лексічным адрозненням паміж дзеясловамі ў мясцовых гаворках Беларусі пры абазначэнні шпаркага руху струменяў вады, што сцякае, выцякае або выліваецца адкуль-небудзь. Пры гэтым *бурбóліць, бурбóля, бурбаліць, бýрбаля, бубуліць, бурмóліць* картаграфуецца як *бурбуліць; балбóча* як *бурбóча; булькаціць* як *булькóча; цурuліць* як *цурліць.*
*бурліць* 7, 14, 25, 46, 55, 61, 78, 83, 87, 125—127, 136, 139. *бурлы́ть* 96а.
*бурбуліць* 8—10, 11, 20, 29, 57, 69, 84. *бýрбуліць* 26. *бурбýліць* 125, 127. *бурбулюіць* 3. *бурбулюя* 19. *бурбóліць* 2, 6, 8а, 21, 22, 28, 30, 45, 68, 70, 71, 76, 99, 130. *бурбóля* 31. *бурбаліць* 23, 58. *бýрбаля* 25а. *бубуліць* 8а. *бурмóліць* 124.
*бурбóча* 138, 141. *барбóча* 141. *балбóча* 56.
*бурчы́ць* 40, 45, 47, 52а, 53, 54, 66, 67, 72, 73, 87, 90, 93, 94, 94а, 100, 104, 106, 111, 112, 114, 115, 117—120, 122, 128, 133—135, 137, 142. *бручы́ць* 131.
*бýлькае* 49а, 95, 110.
*булькóчэ* 96. *булькаціць* 41.
*бульботы́ть* 95, 96.
*цурчы́ць* 5, 8а, 10, 13, 21, 24, 25а, 27, 38, 41—44, 50, 62, 75, 82, 83, 116, 140.
*чурчы́ць* 3, 4, 12, 13.
*цюрчы́ць* 9, 10, 30, 32, 45, 86, 95, 130.
*чурліць* 135. *цуруліць* 114.
*цуры́ць* 2. *цюры́ць* 96а.
*дзюры́ць* 53, 54, 60.
*дзюрчы́ць* 33, 36, 37, 60, 63—65, 74, 77, 80, 99, 104.
*турчы́ць* 1, 52, 79, 81, 89.
*журчы́ць* 29, 75, 91, 102, 111, 116, 138.
*шуміць* 1, 15, 16, 18, 35, 51, 67, 107, 135. *шумы́ть* 92, 95, 96, 103, 108, 109. *шумэ́ть* 98.
*гурчы́ць* 49, 78, 82, 101, 120а, 123.
*рэвэ́* 109, 117. *равé* 121.
Адзінкавыя: *жужжы́ць* 9. *сýчыцца* 17, 38. *ліéцца* 34. *дзюрдзіць* 59. *цячэ́ць* 85. *полёхтыть* 103. *зурчы́ць* 105. *бýрыць* 113. *гурліць* 126. *бяжы́ць* 129. *шарысты́ть* 132. *борміць* 142.

## Карта № 75

## ПАВОДКА

№ 128 «Я. н. паводка пасля вялікага дажджу: разліў, лея, павадак, заліва...»
На карце супрацьпастаўлены назвы паводкі пасля вялікага дажджу.
Аналіз адказаў паказвае наяўнасць у матэрыялах двух блізкіх значэнняў 'веснавая паводка', 'паводка пасля вялікага дажджу'.
Назва *павóдзіца* картаграфуецца як *павóддзе,* а *пóвань* — як *пóвадзь, разлілáся вадá* і *вадá разлілáся, рузлíў* — як *разлíў, залéў, зáлівень, залівы* — як *залíў, разлівéнь* — як *разлíва, залы́ва* 97, *зáлыва, залéва* — як *залíва, рóзвацъ* — як *развóддзе, навóддзя, нáвыдка, наваднéння* — як *наваднéння.* Наяўнасць значэння 'разліў', дае падставу картаграфаваць назву *лéя* асобна. Вымаўленне выразу *прыбувáе вадá* у Лельчыцкай зоне н. п. 137 пацвярджаецца пашырэннем і ў Тураўскай суседняй зоне падобнага выразу *прыбутнá вóда* 'паводкавая вада' (Тураўскі слоўнік. Том 4. П-Р. Мн., 1985. С. 236). Ёсць падставы картаграфаваць спалучэнне *прыбытнáя вадá* 'паводкавая вада'.
Адзведзены ад картаграфавання адказы ў н. пп. 13 і 15, бо не маюць назваў, а толькі апісальныя выразы.
*павóдка* 10, 11 (вясной), 23, 36, 37, 61, 104, *павóтка* 20, 25, 25а, 26, 27, 30, 31, 34, 49а, 52а, 53—56, 58, 68, 72, 74, 99, 105. *павôтка* 60, 64, 100, 110.
*пáвадка* 86, 88. *пáвыдка* 44, 84, 87. *пáвытка* 89.
*павóдкі* 73. *павóткі* 38. *(павóткі бягуць, такі дошч прайшоў)* 66.
*пáвадкі* 73, 75, 80, 81, *пáвъдкі* 83. *пáвыдкі* 40, *(пáвадкі сільныя, рэчка выйшла з бірягóў)* 42. *(павыдкі рыззлялісь па ўсяму лугý)* 43 (вясной), 78, 79. *пáваткі* 33, 39. *пáвыткі* 35.
*павóдак* 24, 28, 66.
*пáвадак* 21, 118, 128, 141.
*павóддзе: павóддзя* 57. *пôвыдъде* 90. *пувідьде* 91. *павóдзіца* 51.
*пóвадзь* 57. *пóвацъ* 18. *пóвань* 24.
*развóддзе* 5, 14. *развóдзя* 4 *(разводзя вялікая, як снех растáіць). развóддзя, развялó* 8. *развóддзя, ряку рызвялó* 12. *развóддзя* 83. *развóдка* 46. *рóзвацъ* 52.
*разлíў* 8а, 9, 10 (пасля дажджу), 16, 22 (разліў ракі), 29, 30, 32 (пасля дажджу), 37, 43 (пасля дажджу), 50, 53 (пасля вялікага дажджу), 59 *(вéлькі разлíў)*, 65, 67, 76, 77, 79, 81, 82, 85—87, 89. *рôзлів* 90, *розлíў* 94, 101, 106. *розлів* 96. *розлыв* 103, 108 *(ек вода прыбýдзе). разлíў* 115, 116, 118—120, 122, 125, 126 (пасля вялікага дажджу), 129, 130. *рузлíў* 92, 132. *разлíў* 138. *разлíў* 139, 140. *разлілáса вадá* 49, 93, 94. *вадá разлілáся* 58.
*разліва* 70 (разліва; *вада разлéяцца)*, 124, 127. *розліва* 134. *разліва* 135. *разлівéнь* 1.

*заліў* 17, 29, 45 *(але і вéлькі заліў! Заліло ўсё, не прайсці)*, 48 *(пасля дажджу быў вялікі заліў)*, 53 (пасля вялікага дажджу), 89, 96а, *залів* 98, 123, 130 *(як пройдзе вялікі дошч, дык і заліў)*, 131, 133, 136, *залéў* 19. *заліва* 6. *зáлівень* 7.
*заліва* 82, 117, 118, 120а, 127. *залыва* 97. *заліва* 102, 107, 113. *залыва* 109. *залéва* 19. *лéя* 136, 139 *(разліў; калі зверху ідзе, то кажуць лéя)*, 142.
*навадня́нне* 121 *(навадня́нне бывая, калі дошч вясной)*, 126. *навóддзя* 111 *(разліў вясной; паводка пасля дажджу)*. *нáвыдка* 87. *навадня́нне* 47 *(такі велькі дошч быў, што ажну наваднення зрабілосо)*.
Адзінкавыя: *мулá* 3. *развóдка* 46. *навáльна вадá* 46 *(а вада якая навальна, як пасля добрай навальніцы)*. *палайнічá* 52 *(па-літоўску)*. *ваълнá* 83. *ростёка* 95. *бурчакі* 106. *прыліў* 125 *(у гэтым годзе бальшы прыліў вады ат даждей)*. *прыбувáе водá* 137.
Адведзены: 13 *(дошч даў, аж руччы пабеглі)*. 15 *(пъдръслá въдá)*.
Адсутнасць слова: 112.

## Карта № 76

# ІЛ

№ 129 «Я. н. іл на дне вадаёма: мул, муля, буза...»
На карце супрацьпастаўлены назвы *ілу*.
Назвы *мôл, мылéц, мýля, мультá, мыл, мы$^{і}$л, намýл, мулéц, мыль* картаграфуецца як *мул, юл* — як *іл, твáнка* — як *твань, ціна́* — як *ціна, глéя* — як *глей, мýта, мутá, мут* — як *муць, бýза* — як *бузá*. У н. п. 23 назва *глей* 'іл', а не 'гліна' адноўлены на падставе матэрыялаў суседніх населеных пунктаў.
Адведзены ад картаграфавання не адпавядаючыя тэме карты наступныя назвы: *аржáвіння* 24. *багнó* 114. *вóтмут* 125. *ґвáґна* (на балоце) 35. *драгвá* 123. *жáбар* 134. *жáбор* 133. *кал* 92. *леметýша, лемéшка* 134. *нанóс* 21. *пясóк* 87. *гразь* 114, 115, 124, 127, 134, 135, 138. *грась* 16, 23, 24, 51, 52, 66, 67, 69, 77, 84, 89, 106. *грáска* 110. *грýзка* 119.
*мул* 18—20, 31, 36, 45—47, 49, 49а, 50—52, 52а, 53—55, 56 *(мул, дзе вада наганяе і зямлю і зелё)*, 74, 82, 91, 92, 99, 102, 108, 114, 117, 128, 131, 132, 136, 140. *мул·* 109. *муль* 90, 98, 101. *мулá* 3. *мýля* 93, 94, 94а, 95, 96, 96а, 97, 103. *мýльта* 100. *мýлец* 112. *мôл* 62. *мыль* 54. *мы$^{і}$л* 113. *мылéц* 57, 59. *намýл* 137.
*іл* 2, 5, 7, 8, 8а, 9, 15, *йіл* (новае) 21, 27, 31, 43, 44, 49а, 54—56, 65, 70, 73, 78, 79, 81, 83, 85—88, 104, 116, 118, 123—125, 130, 137, 139. *юл* 119.
*бузá* 1, 2, 4, 6—8, 8а, 10—15 *(бузá* 'на мелкім месцы розны хлам'), 16 *(мул, трава)*, 21, 28 *(бузá сліская)*, 29, 30, 32, 33 *(буза на дне рэчкі)*, 34, 39, 40 *(села бузá, на дне сыбрáлысь)*, 75, 81, 84, 85, 127. *бýза* 17, 101.
*муць* 67, 75, 81, 112, 120, 122, 125. *мýта* 25. *мут* 35, 77. *мутá* 63.
*глей* 22, 23, 25а, 26, 41, 53, 60, 61, 64, 68, 71, 72, 80, 105, 121, 141, 142. *глéя* 129.
*твань* 75, 84, 117, 128, 120а. *твáнка* 38.
*ціна* 42, 126. *ціна́* 16.
Адзінкавыя: *смугá* 58. *сівухá* 57. *нáплуў* 84. *плывýн* 96.
Адсутнасць лексемы: 48, 76, 89, 111.

## Карта № 77

# АСАДАК З ВАДЫ

№ 130 «Я. н. асадак з вады, які выпадае на дно пасуды: мут, муць, каламута...»
Картаграфуюцца назвы асадку, які выпадае з вады на дно посуду. Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Як *асáд* картаграфуецца *ося́д*, як *ападóнкі* — *падóнкі*.
*муць* 7, 10 (нов.), 11, 14, 17, 28, 31, 35—38, 41, 42, 44, 46, 50, 56, 60, 65, 67, 68, 70, 72—75, 78, 80, 81, 85—87, 89, 99, 102, 106, 111, 112, 116, 118, 119, 120а, 122, 123, 125—127, 130, 136, 139, 141. *муть* 96а, 134.
*мут* 1, 6, 8—9, 15, 21, 24, 26, 29, 34, 35, 39, 40, 41, 43, 44, 76, 77, 79, 82, 84, 126, 140.
*мутá* 4, 19, 22, 23, 25, 25а, 57, 58, 64, 71, 82, 128.
*каламýць* 55, 60, 112, 130. *коломýць* 138.
*каламýт* 110, 111, *къламýт* 8а.
*каламýта* 53, 56, 60, 61, 102, 104, 107, 134. *коломýта* 114, 117. *къламýта* 8а.
*мýцінь* 74.
*муль* 98, 101.
*мул* 18, 20, 49, 49а, 52, 88, 92, 109, 131. *мôл* 62.
*мýля* 94, 95, 97.
*мыл* 54, 107.
*бузá* 10—13, 75, 87.
*асáд* 51. *осáд* 95. *ося́д* 95.
*асáдак* 9, 16, 53, 54, 59, 70, 88, 125, 130, 141 (нов.), 142. *асáдък* 32, 83. *осáдок* 90, 91, 96, 97, 103, 108, 113.
*асáдка* 135. *асáтка* 105, 111. *осáдка* 114, 134.
*асáдкі* 14, 77, 115. *асáткі* 2, 5, 33. *осáдкі* 137. *осáдкы* 96, 132. *асáткі* 93, 133.
*асáда* 89. *ссáдкі* 94.
*ападóнкі* 9. *падóнкі* 2.
*смугá* 69, 120.
*гразь* 75, 80, 106, 115, 124, 131. *грась* 16, 66, 121. *грязь* 85.
*фуз* 3. 62.
Адзінкавыя: *асéў* 100. *астóй* 121. *кал* 94а. *карáвая вада* 48. *музá* 45. *мýшаль* 52а. *смяцé* 47. *чуз* 103. *шор* 3.

## Карта № 78

# МУЦІЦЬ ВАДУ

№ 130 «Ваду муціць, бузяніць...»
Картаграфуюцца адпаведнікі дзеясловаў *муціць, каламýціць* (пра вадкасць). Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах.
*муціць* 1, 3—5, 7—9, 11, 14, 16, 17, 19, 21, 22, 25—26, 28, 29, 31—40, 42, 44—47, 49—50, 52, 53—55, 57—59, 62—65, 67, 68, 70—72, 74, 76, 80—82, 84, 86, 88, 89, 99, 106, 110, 111, 113—128, 130, 139—141. *мутіті* 94. *мутыты* 90, 96, 97, 108. *мутэ́тэ* 98.
*каламýціць* 53, 54, 56, 60, 61, 65, 70, 99, 104, 110, 111, 112, 135. *каламýціці* 93, 101, 102. *коломýціць* 107, 114, 117. *каламýтыты* 90, 95, 103, 108. *голомýціць* 138.
*мулéтэ* 90. *мулыты* 92, 95, 108, 109, 131, 132. *мулэ́тэ* 98.
*бузя́ніць* 10—13, 83.
*бузіць* 8а, 16.
*калаціць* 62. *колоціць* 114, 137, 138.
*бóўтаць* 69, 114.
Адзінкавыя: *бурбаліць* 27. *мішáты* 94а.

## Карта № 79

# МУТНЫ, КАЛАМУТНЫ

№ 131 «Ці ёсць розніца ў значэнні слова мутны і каламутны?»
Картаграфуюцца лексемы, якія абазначаюць паняцце 'мутны', 'каламутны' (пра вадкасць). Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах і націску. Пытанне № 131 не арыентыруе на высвятленне ўсіх назваў мутнай вадкасці, таму словы, якія картаграфуюцца, акрамя лексем *мýтны* і *каламýтны*, відавочна, трапілі ў адказы не ва ўсіх выпадках. У адказах на пытанне № 131 у большасці выпадкаў прыведзены заўвагі, што словы *мýтны* і *каламýтны* па значэнню не адрозніваюцца.
*мýтны* 1, 5, 8а, 10—12, 14, 17, 25а — 37, 43, 46—50, 52—58, 60, 62—65, 67—82, 84, 92

*шляг* 95 (фальк.), 108—110. *шлегóвая дорóга* 108, 109.
*гасцінец* 3, 5 (раней), 9, 10, 11 (радзей), 21—23, 29, 45—48, 49а, 51, 53, 54, 56—59, 61, 62, 67 (устар.), 74 (раней), 93, 99, 102, 104. *гасціняц* 19, 20, 25а, 27, 49, 50, 55, 60, 63, 64, 100, 105. *гасцініц* 12 (вельмі даўно), 34. *госцінец* 94. *гостыныцъ* 90, 91. *гостынэць* 94а, 95 (злучае вёскі), 96, 97. *густынэць* 92 *(г)астынэц* 103. *асцінец* 52. *асціняц* 18.
*бальшáк* 1, 2, 4, 5 (больш новае слова), 6—11, 14, 15, 17, 20, 21, 26, 28—31, 34, 40, 53, 65, 68 (часцей), 82, 86, 88, 118, 127. *бъльшáк* 12 (і раней), 13, 33, 39. *быльшáк* 16, 41, 43, 44, 78, 84, 85, 87, 89.
*прысâткі* 24. *прысáдак* 120. *прысáда* 66, 69 *(дарóга с прысáдамі)*, 112. *прысáды* 67, 71. *дарóга с прысáдай* 25.
*палісáда* 24 *(éхаў палісáдай)*.
*трахт* 53, 54, 94. *трахтавáя дарóга* 54. *трахтовáя дорóга* 106.
Адведзены: *дорóга* 107. *шырóка дорóга* 97. *шырóкая дарóга* 112. *шашá* 51. *сашá* 127. *гравéлька, гравéйка* 115.

## Карта № 83

# ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *СЦЕНКА*

№ 153 «У якім значэнні ўжываецца слова сценка: а) дарожка для пешаходаў; б) старая (былая) заросшая дарога, в) дарожка паміж палямі, падзеленымі на палоскі (у мінулым)...»

Пры картаграфаванні выкарыстаны адказы на 157 пытанне: «Я. н. дарога, якая праходзіць уздоўж вёскі каля гумнаў: навоз, навозная, загуменная дарога...»

На карце адзначаны наяўнасць лексемы і яе семантыка. У некаторых адказах ёсць указанне на тое, што слова адсутнічае і прыводзяцца яго сінонімы. Гэтыя сінонімы на карце не паказаны.

У радзе матэрыялаў ёсць указанне, што слова *сцéнка* выходзіць з ужытку, што яно традыцыйнае. Усе гэтыя і іншыя заўвагі можна знайсці ў індэксе.

Адсылачным знакам картаграфаваліся адзінкавыя значэнні, а часам гэты знак пастаўлены і тады, калі цяжка вызначыць семантыку слова.

Як *сцéнка* картаграфуецца *сцінá, за сцéнкамі, засцінак.*

19 *сцéнка — дарóга, катóрая ідзé ўпóперак прас поля.* 20 *сцéнка — дарóжка паміж палёў (у мінулым), цяпер дарóжка паміж сóткаў, каля гумнá.* 22 *сцéнка: ісці на Данюглава — гавóраць сцéнкай ісці.* 23 *сцéнка — дарóжка вýзкая між палéткаў, праéхаць мóжна, алé на ёй не размінéшся.* 24 *сцéнка — вýзкая дарóга каля гумнá.* 25 сцéнка // *сцéшка — дарóжка праз агарóт, ля дóма, дарóга за агарóдамі называецца сцéнка* (цяпер не ўжываецца). 25а *сцéнка — дарóга ідзé па загумéнню.* 26 а) *сцéнка, дзе ідýць;* б) *дарóга паміж палямі, якáя звязвае двор з пóлем.* 27 ё *сцéнка: дарóга ад будынкаў на пóля і з яе паéхаў на навóзную.* 30 *сцéнка — дарóга, якáя вядзé ў пóле (па сцéнцы дабрó ў гумнó вазілі).* 31 *(сцéнка — старáя (былáя), зарóсшая дарóга.* 33 *сцéнка ў пóлі, па катóрай мóжна праéхаць.* 35. *сцінá, сцéнка* — а), в). 36 *сцéнка* — дарога па полю. 38 *сцéнка, сценá* — дарога ў вёску. 41. *сцінá, (пашóў сцянóй).* Слова захавалася як назва сцежкі ці дарогі, якая ішла па загуменню, паміж агародамі і полем. 42 *ишóў сцянóй. (кынчáюцца колхóзніцкія гарóды і між імі і калхóзным пóлім дарóжка, сцінá звáлыся.* 43 *сцéнка — дарожка за агарóдамі, гýмнамі.* 44 *сцéнка* — сцежка (ці дарожка) між гародамі (палосамі). 48 б) *па сцéнцы даўнéй шлі нéмцы.* 49а *сцéнка на палях, патайнáя дарóжка* (?). 50 *сцéнка* (трад.) — старая заросшая дарога. 52 *сцéнка — дарóга, якая аддзяляе адзін палéтак ад другóга, прахóдзіла між папáрам і ярынóй, аддзяляла жытняе пóле ад яравóга.* 53 *сцéнка — дарóшка ў пóлі, дзе хóдзяць і éздзяць і жывёла і людзі.* 54 *сцéнка* — палявая дарога. 56 *сцéнка* — дарога паміж палямі. (прымéрна палосы былі і мéжду палóсамі дарóгу рабілі). 57 *сцéнка — дарóжка паміж палямі, падзеленымі на палóскі* (у мінулым). (па сцéнца пáсвіў). 58 *сцéнка — дарóга каля поля, кóжнага поля.* 59 *сцéнка* (устар.): а) дарожка ад поля. *(сцéнка давóлі шырóкая дарóга, граніца ад скарбóвай зямлі);* в) дарожка паміж палямі гаспадароў, ужываецца цяпер. 60 *сцéнка* — дарожка паміж палямі, падзеленымі на палоскі ў мінулым. 61. *сцéнка* — дарожка за гумнамі. 64 *дарóга, якáя прахóдзіць паміж палямі. (занялá жаць ад сцéнкі).* 65 *сцéнка, дзе людзі прахóдзяць, вуская трапінка праз поля.* 66 *цéрас пóля дарóшка называецца сцéнка.* 67 *пешахóдная дарóжка або дарóга за гýмнамі, у канцы ўсáдзьбаў, зáраз сцéнак нямá.* 68 *сцéнка — дарóшка за гýмнамі, па ёй іці мóжна і éхаць.* 69 *сцéнка — дарóга мíжда гарадóў і пóлям. (сцéнкай éхаў).* 70 *сцéнка — вýзенькая дарóшка ў пóлі.* 71 *сцéнка — дарóга ні яжджáлая, аднá травíчка там, хóдзяць людзі.* 72 б) *пашóў, паéхаў сцéнкаю: там нямá дарóгі, ня глáўная дарóга, янá зарóшшая, на пóлі.* 74 *паўс гýмны ішлá сцéнка; не пайшлá дарóгай, а пайшлá сцéнкаю.* 75 в) *сцéнка.* 76 *сцéнка:* в) дарога за гародамі, за гумнамі, якая ідзе паралельна вясковай вуліцы. 78 *сцінá: дарóга паміж гýмнамі і дзярэвняй.* (пóйдзім сцянóй). 80 *сцéнка:* а) дарожка для пешаходаў (устар.); б) дарога паміж палямі. 83 *сцéнка* — дарожка для пешаходаў. 86 *сцéнка — на загумéнне, на рóў, вýзкі прахóд.* 89 *сцéнка* — дарожка паміж палямі, падзеленымі на палоскі. 90 а) *стéнка, стíнка;* б) *стíнка, дáвнишна дорóга.* 91 стынка — дарога паміж сваім і чужым полем. 92 *сцéнка* — дарожка праз поле для вазоў і пешаходаў. 93 *сцéнка* — дарожка; в) прамая палявая дарошка. 94 *сцéнка* — дарога, сцежка за будынкамі за агародамі. 94а *стíнка — дорýжка вýзенька помыж пóлем.* 96 *стíнка* ўжываецца ў значэннях «а» і «б»; у значэні «в» ўжываецца *мыжá.* 96а стынка — *дорожка паміж палямі, падзеленымі на палоскі. 97 стэнка:* а) дарога для пешаходаў, б) старая дарога. 99 *сцéнка* — дарога паміж палямі *(сцéнка — мéжду пáхатнай зямлí, прáма ў другýю дзярэўню).* 100 *сцéнка:* в) дарожка праз поле для вазоў і пешаходаў. 104 а) *сцéнка — дарóшка для пешахóдаў* (устар.); б) *сцéнка — дарóга, éхалі канём* (устар.); в) *сцéнка — дарóшка паміж палóсак.* 105 *сцéнка:* в) дарошка паміж палямі, падзеленымі на палоскі і дарога к рацэ, к полю. 106 *сцéнка — проходнáя дорóшка колó хат.* 111 сцéнка — дарожка паміж поля. Паéхаў па сцéнцы. 115 а) *сцéнка — мóжна éхаць і хóдзяць;* в) *па мяжы кідáлі сцéнкі.* 120а *сцéнка — дарóга такáя ў пóле і ў лес міз палóс* 122 *сцéнка — дарóга мéжду палёў.* 125 *сцéжка:* а) дарожка для пешаходаў; в) дарожка паміж палямі, падзеленымі на палоскі (у мінулым). 127 *сцéнка* — дарожка паміж сядзібамі калгаснікаў і калгасным масівам. 131 *стынька — дарóга па-за клýнямі.* 132 *стíнка — чыраз пóле дарóга, стíнкаю íхалы.* 139 *паміж палямі сцéжка.* 140 в) *сцéнка. (ідзі на сцéнку, хутнéй бýдзе).* 141 *за гарóдамі дарóга называецца сцéнкай,* в) дарожка паміж палямі, падзеленымі на палосы (у мінулым). 142 дарога за агародамі.

№ 157 35 *сцéнка,* 42 *сцінá.* 63 *сцéнка.* (гл. карту № 84).

## Карта № 84

# ДАРОГА, ЯКАЯ ПРАХОДЗІЦЬ КАЛЯ ГУМНА

№ 157 «Я. н. дарога, якая праходзіць уздоўж вёскі, каля гумнаў: навоз, навозная, загуменная дарога...»

Акрамя таго выкарыстаны адказы на пытанне № 153 «У якім значэнні ўжываецца слова сценка: а) дарожка для пешаходаў, б) старая (былая) заросшая дарога, в) дарожка паміж палямі, падзеленымі на палоскі (у мінулым)»...

Найменне ўказанай рэаліі перадаецца апісальна, часцей двухсастаўной канструкцыяй, у склад якой уваходзіць прыметнік, утвораны ад назвы будовы, каля якой праходзіць дарога, і назоўніка *дарога*. На значнай тэрыторыі адзначаны прыназоўнікавыя канструкцыі: *дарóга за гýмнамі, дарóга па загумéнню, за клýнямі дарóга, за хлівáмі дарóга* і г. д. Радзей — гэта слова-найменне. Усе назвы паказаны адпаведным знакам на карце.

У 1, 4 і 8 пп. зроблены заўвагі збіральнікаў пра тое, што спецыяльнай назвы для такой дарогі няма. У 127 пункце заўважаецца, што *гумéнная дарóга,* гэта дарога да гумна. У 69 пункце збіральнік адзначае, што наогул такой дарогі няма.

Як *сцéнка* картаграфуецца *сцінá.* Адным знакам аб'яднаны ўсе словаўтваральныя варыянты назвы з прыметнікавым азначэннем. Як *загумéнная* картаграфуюцца *загýмная, гумéнныя, гумніцкая, пазагумéнная, поўзгумённыя, поўзгýмная, прыгумéнная* і інш. (гл. спіс слоў). Як *за гýмнамі (дарога)* картаграфуюцца: *каля гумён, дарóга паўз гумнó, (пошóў) па-за гýмнамі, дарóга гýмнамі.* Як *па загумéнню* картаграфуюцца: *па загумéні, па загýмнішчах, паў загумéнню, на загумéнні, па загумéнім.* Як *навóз* картаграфуецца *паéхаў навóзам (навóзамі), па навóзя.* Як *за хлявáмі* картаграфуецца *па-за хлявáмі;* як *захлеўная* картаграфуецца *хлевóвая (вýліца).*

Адведзены ад картаграфавання лексемы *загумéнне, заклýнне* і іх варыянты, таму што яны называюць не дарогу, а прастору за гумном.

## Карта № 131

# ГЛЕІСТЫ СЛОЙ ПЯСКУ

№ 240 «Што абазначае мылец?»
На матэрыяле адказаў на гэта пытанне складзена карта, на якой паказаны лексічныя адрозненні назваў глеістага слою пяску.
У н. п. 14 знак *(цякýн)* пастаўлены на аснове адказу на пытанне № 243 «Інструкцыі...»
Адводзяцца ад картаграфавання назвы: *жывéц* і *мылéц* (н. п. 99), якія не маюць адносін да тэмы карты.
*мылéц* 49 *(мéлянькі пясóк, нанóс)*, 57, 59 *(асáткі з бéлым тóнкім пяскóм, з ілам)*, 61 (тое, што і глей), 62 *(вéльмі тóнкі пясóк)*, 64 *(чвыр такі)*, 65 *(у вадзé пясóк мéлкі)*, 66 *(плывé, склéпа вы́капаць нéльга)*, 67 *(сíвая зямля́, як мы́ла, заплывáе ў калóдзежы)*, 100 *(калóдзец мыльцóм пакры́ла, слíская такáя зямля́)*, 104 *(у калóдзежы мылéц плывé, дакапáўся да мыльцá)*, 105 *(калóдзісь мóжа заганя́ць мыльцóм)*, 110 *(калóдзяш капáюць і там заплывáя мыльцóм)*, 111 *(калі капáеш калóдзіц, с зямлі б'е такáя струя́ і ўсё замывáя)*, 113 *(пясóк нанéсены)*, 115, 136, 137 *(зямля́ вадóю нанéсена)*. *мулéц* 19 *(калí мýлам занóсіць)*, 112 *(звéрху зямля́ тарфя́ная, а там мулéц белы, сівы)*, 116 *(дзе што капáеш, цячэ́ мулéц)*. *мілéц* 23 *(свéтлая зямля́)*, 137 *(зямля́ вадóю нанéсена)*.
*плывýн* 2 *(жы́дкая зямля́, плывéць)*, 8 *(плывýчая зямля́, як капáюць калóдзісь)*, 25а *(капáям, а янó éдзя і éдзя)*, 51 *(плывýн наплывáя)*, 52, 69, 72, 111 *(мылéц, плывýн)*. *плавýн* 58 *(я́му не вы́капаць)*.
*цякýн* 1 *(цякéць, ня мóжна вы́капаць я́му)*, 14, 22, 24 *(рэ́ткая зімля́, як калóдзіц капáіш, наплываíць)*.
Адзінкавыя: *вадзянíк* 3 *(напáў на вадзянíк і капáць нéльга. Як даў вадзянік, плывéць)*. *люн* 4 *(мы чы́сцім калóдзіц, а люн гóніць, пясóк з вадóй, і на пóжнях лю́ны, белавáты клéйкі пясóк)*. *шыпéц* 6 *(зімля́ с камéнчыкамы, заплываíць)*. *сівýха* 18 *(як стýдні капáюць, сівýха цячэ́)*. *сасýн* 58. *шыпáк* 69.
Адсутнасць назвы: 5—7, 8а—13, 15—17, 20, 21, 25, 26—48, 49а, 50, 52а—56, 60, 63, 68, 70, 71, 73—99, 101—103, 106—109, 114, 117—135, 138—142.

## Карта № 132

# СІПУГА (ПРА ГЛЕБУ)

№ 241 «У якім значэнні ўжываецца слова сіпуга: глеба з дамешкам глею...»
На матэрыяле адказаў на гэта пытанне пракартаграфаваны ўтварэнні з коранем *сіп-*.
У н. пп. 24, 25 30 знак *(сіпáк)* пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ. (4, 1984). Як *сіпáк* картаграфуецца *сіпя́к*.
*сіпýн* 1 *(дзе пясóк, зямля́ з вадóй)*, 4 *(як глей, сыры́)*, 5, 15 *(зямля́ халóдныя)*, 34 *(мóкрая зямля́, як арэ́ш яе, то шапíць ад вады́)*, 74 (глей, пясóк, а пат нізам вадá).
*сіпáк* 24 *(мя́ккая зямля́)*, 25, 30, 31 *(сíвая зямля́, усé на дзіра́чках)*. *сіпя́к* 2 *(халóдная зімля́: як халóдна — не расцéць, як сóнца — выгарáя)*. *сіпя́х* 3 *(сáмая плахáя зямля́, булáная, пад жóўтую)*.
*сіпýга* 35, 87. *сіпýха* 37 *(калі ідзéш плýгам — сіпýха сіпíць)*.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *сіпéц* 21 (мокрая глеба). *сіпачóк* 85 *(сіпачок тут, дык як пройдзіць дошч — грáзі поўна)*.
Адсутнасць слова: 6—14, 16—21, 23, 25а—29, 32, 33, 36, 38—69, 71—73, 75—84, 86, 88—142.

## Карта № 133

# ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ПЕЛІКА*

№ 243 «Што абазначае слова пеліка: жоўты пясок...»
На карце паказана семантыка слова *пеліка*. Адным знакам картаграфуюцца ўтварэнні *пéліка* і *пелéчына*.
У н. пп. 30 і 74 знак пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (3, 1982).
'пяшчаная неўрадлівая зямля': *пéліка* 28 *(пустáя, запýшчаная зямля́, пясóк)*, 30 *(на гэ́тай пéліке ўсё выгарáе)*, 31 *(на пéліке ўсё вы́гарэла)*, 70 *(няўдóбіца, у пéліку ўсы́паў — не прарасцé, пустáя зямля́)*, 74 *(высóкая зямля́)*, *пéляка* 68 *(плахáя зямля́, пялякавáтая, ні расцé нічогá, на пéляца травá ні хóча расці)*, 69 *(пустáя зямля́, пясóк, пяшчáная зямля́)*.
'жоўты пясóк: *пéліка* 37. *пелéчына* 57 *(жóўты жывы́ пясóк)*.
Адсутнасць слова: 1—27, 29, 32—36, 39—56, 58—67, 71—73, 75—142.

## Карта № 134

# ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *ЦЫНДРА*

№ 244 «Што абазначае слова цындра?»
На карце паказана семантыка слова *цындра*. Адным знакам картаграфуюцца варыянты *цы́ндра* і *дзы́ндра*.
На аснове матэрыялаў СП-ЗБ (5, 1986) картаграфуецца: *цы́ндра* 'акаліна' ў н. пп. 22, 56 і *цы́ндра* 'неўрадлівая глеба чырвонага колеру' ў н. п. 53.
'неўрадлівая глеба чырвонага колеру': *цы́ндра* 18 *(цвёрдая зямля́)*, 19 (чырвонага колеру зямля), 25 (цвёрдая зямля), 37 *(цёмна-карычневая цвёрдая, як камéнь, зямля́: цвёрдая, як цы́ндра, травá не расцéць)*, 49а *(дзе скалíстае пóле — там цы́ндра)*, 50 (неўрадлівая глеба чырвонага колеру), 51, 52 *(глéба сінявáтага кóлеру, вéльмі цвёрдая)*, 52а *(цёмна-вішнёвая цвёрдая зямля́, у Нёмані пры сáмым бéразе)*, 53 (чырвонага колеру), 60, 62, 99 *(зямля́, як цы́ндра)*, 100 *(няўдóбная зямля́)*. *дзындра* 4 *(як кáмінь, сівóга цвету)*, 61 *(неўрадлівая зямля́, сіневатая, як брыкéт)*.
'шлак': *цы́ндра* 6 *(шлак у кýзьні, перапáл з вýгалю)*, 21 *(спалéнае жалеза)*.
'акаліна': *цы́ндра* 2 (верхні слой жалеза, які адлушчваецца пры накальванні), 22, 56. *дзы́ндра* 4 *(ад жалéза дзы́ндра сы́піцца с-пат мóлата)*.
Адсутнасць слова: 1, 3, 5, 7—20, 22—24, 25а—36, 38—49, 53—59, 63—98, 101—142.

## Карта № 135

# ЗНАЧЭННЕ СЛОВА *СЫЗМА*

№ 245 «Што абазначае слова сызма: а) неўрадлівая зямля, няўдобіца, няўдоба, б) скупы чалавек...»
На карце паказана семантыка слова *сызма*. На аснове матэрыялаў СП-ЗБ (5, 1986) пастаўлены знакі ў н. пп. 3, 19, 48.
'злы, дрэнны чалавек': 3 *(пóдлы чалавéк, прыжýлік)*, 4 *(злы чалавéк)*, 5 *(дрэ́нны чалавéк, гад)*, 8 *(благí чалавéк)*, 20 *(нягóдны чалавéк)*, 22 *(во злы, як сызма!)*, 48 *(лядáчы чалавéк)*, 59 *(злы, сярдзíты чалавéк)*, 60 *(злóсны чалавéк)*.
'скупы, жадны чалавек': 2 *(скупы́ чалавéк, жмíнда)*, 3, 19, 24 *(на чалавéка скупóга казáлі)*, 25 *(сы́зма ты!)*, 48, 51 *(жáдны чалавéк)*, 52а *(скупы́ чалавéк, як сызма, да сябé ўсё забірáя)*, 60 *(скупы́ чалавéк)*.
'пустая неўрадлівая зямля': 21 (неўрадлівая зямля. *Як у сы́зму пасéіў)*, 25а *(цвёрдая нáтта зямля́)*.
Адсутнасць слова: 1, 6, 7, 8а—18, 23, 26—47, 49, 50, 52, 53, 54, 56—58, 61—142.

## Карта № 136

# НЯЎДОБІЦА

№ 246 «Я. н. поле, непрыгоднае для распрацоўкі: няўдоба, няўдобіца, пусташ, пустаполіца...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў поля, непрыгоднага для распрацоўкі. Асобным знакам адзначаны акцэнталагічныя варыянты: *пустыня* і *пустыня́*.

Як *пу́сташ* картаграфаваліся *пусты́ш* і *пусто́ш*. На аснове адказаў на пытанне № 245 «Інструкцыі...» знак пастаўлены ў н. пп. 86 *(няўдо́біца)* і 75 *(няўдо́ба)*, на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (3, 248) знак *(няўдо́бія)* пастаўлены ў н. пп. 20, 22, 47, на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (4, 191) знак (пустапо́ліца) пастаўлены ў н. п. 60.

*няўдо́біца* 5, 9—11 *(у ба́цькі кусо́к няўдо́біцы быў)*, 25а, 26 *(зямля́ няўдо́бная, ні расце́ на ёй нічо́га)*, 29, 34—38, 40—44, 56, 60—62, 64, 65, 68—71, 73 *(пуста́я зямля́)*, 74—76, 78, 79, 82, 85, 86, 89, 100, 118, 120а, 123—125, 127, 129, 130.

*няўдо́бная зямля́* 18, 19, 23, 25, 27, 30, 52а, 57, 59.

*няўдо́ба* 29, 53, 67, 73, 75, 77, 81, 83, 84, 88. *неўдо́ба* 107.

*няўдо́бія* 2—4, 6, 8, 8а, 9 *(цяпе́рака на няўдо́бія ні глядзя́ць — узару́ць)*, 12—14, 16, 17, 21, 28, 39, 47.

*няўдо́пкі* 50 *(на няўдо́пках нічо́го ні расце́, ні ро́дзіць)*, 55, 99, 100. *ныўдо́бка* 98, 103.

*невдо́бшчына* 93, 108.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *няўдо́бішча* 80. *няўдо́бніна* 93. *ныўдо́бок* 94а.

*пустапо́ле* 45 *(на пустапо́лі чарно́быль і палы́н расце)*, 48 *(на гэ́тым пустапо́лі і каро́вы ні хо́чуць хадзіць)*, 52, 54. *пустапо́лля* 119.

*пустапо́ліца* 63, 116, 124. *пустопо́ліца* 90, 103, 132.

*пусто́я по́ля* 58, 66, 106, 111, 115, 121. *пусто́е по́ле* 92, 102, 112, 114, 134, 137.

*пу́сташ* 8а, 17, 46, 82, 87, 110, 117, 129. *пу́стыш* 7, 38, 83—85, 87, 123. *пу́стъш* 42. *пу́стош* 32.

*пусты́р* 4, 7, 33, 41.

*пу́стка* 94, 101, 106, 108.

*пусце́ча* 127, 138, 141. *пусте́ча* 134.

*пусты́ня* 15, 35, 84, 102, 103, 107, 109, 127, 133, 134. *пусці́на* 39, 120.

*пустыня́* 18, 19, 21, 24, 57. *пусціня́* 1 *(пусціня́, нічо́га на све́це не расцёць)*. *пустуня́* 8а.

*пусто́пуш* 140.

Адзінкавыя: *дзічы́на* 24. *прыпа́дзістая зямля́* 72. *невжі́точное по́ле, не до́брэ по́ле* 113. *негно́йное по́ле* 135.

## Карта № 137

# РАСТРАСАЦЬ (ГНОЙ)

№ 247 «Як гавораць аб растрасанні гною з кучак на полі: разбіваць, растрасаць, калаціць, трэсці гной...»

На карце паказаны дзеясловы, якія абазначаюць працэс растрасання гною з кучак на полі. Як *растраса́ць* картаграфуецца *рустрыха́ты*.

*растраса́ць* 1—8, 9, 10 *(цяпе́р і гной растраса́юць машы́най, і ро́ўнінька так трасе́ць)*, 11 *(учо́ра растраса́лі гной)*, 18 *(растраса́юць гной, у калхо́зі жэ́ншчыны рука́мі трaслі)*, 19—22 *(бывая по́йдзіць і фа́йна растрасе́ць гной)*, 23—26 *(наво́зяць зімо́й бурты́ гно́ю, насі́лі ку́чкі і растраса́іш)*, 27, 29 *(растраса́лі гной ві́лкамі с ку́чак)*, 30, 35 *(растраса́ць лёхкі ко́нскі гной, разбіва́ць цяжо́лы каро́ўі)*, 37 (радзей), 45 *(растраса́юць гной ві́ламі, цяпе́р ёсць машы́ны — трасі́лкі)*, 46 *(паеха́лі растраса́ць гной)*, 51, 52, 54, 57—59, 70, 71, 80. *ръстръса́ць* 8а. *ръстрыса́ць* 13. *рыстрі́саць* 16, 83. *растрі́саць* 32. *рыстрыса́ць* 40. *ръстрі́саць* 41. *ростраса́ты* 90 (трад.), 91, 94, 96, 96а. *рострэса́ць* 137. *рустрэса́тэ* 98 (рэд.). *рустраха́ты* 92.

*растру́шываць* 128.

*разбіва́ць* 14, 28, 31, 34, 36—38, 41, 47—51, 52а—56, 60—70, 72—75, 78—81, 99, 100, 104, 105, 110—113, 115—117, 120, 122, 135, 136, 138. *ръзбіва́ць* 12, 15, 42. *рызбіва́ць* 16, 32, 40 *(ну́жна наво́з рызбіва́ць)*, 43. *розбіва́ць* 101, 106, 107, 138. *разбіва́ці* 93. *розбіва́ці* 94, 102. *розбыва́ты* 90, 94а, 95, 97, 103, 108, 109, 132.

*раскіда́ць* 76, 77, 81—83, 86, 118, 119, 121, 123—127, 129, 130, 139—142. *рыскіда́ць* 84, 85, 87, 89. *рускіда́ты* 92. *рускіда́тэ* 98. *роскіда́ты* 109. *роскіда́ць* 114, 133. *роскіда́ть* 134.

*калаці́ць* 24 (трад.), 29, 74.

*раскала́чаваць* 17, 69, 75. *ръскъла́чывъць* 39.

## Карта № 138

# ПАЛАСА ВОРНАЙ ЗЯМЛІ

№ 248 «Я. н. часткі, на якія падзялялася ворная зямля: а) загоны, рэзы, разы...»

На карце паказаны лексічныя адрозненні назваў паласы ворнай зямлі.

У н. п. 89 знак *(паласа́)* пастаўлены на аснове адказаў на пытанне № 249 «Інструкцыі...». Як *паласа́* картаграфуецца *пало́са*.

Адведзены ад картаграфавання словы *надзе́л, вало́ка, наре́скі, уса́дзьба*, якія не маюць дачынення да тэмы дадзенай карты.

*заго́н* 3 *(на шнюру́ заго́н бу́льбы, заго́н ячме́ню, невялі́кі уча́стак)*, 8а—11, 18, 21—23, 25а, 27, 29, 30, 38, 45, 46, 48—52а (участак зямлі, узараны ўсклад ці ўроскід), 53—57 *(заго́н жы́та, заго́н пшані́цы, ячме́ню, заго́н — як у гаро́дзе гра́ткі, ара́лі і жа́лі на заго́нах)*, 59—67 *(ад разо́ры да разо́ры)*, 68—74, 76, 82, 93, 94, 96 *(заго́ны)*, 104—107, 110—113, 115—122, 124, 126, 130, 135, 140—142. *загуон* 114, 133, 134, 136, 138. *загу́н* 94а, 132. *загы́н* 95, 131. *загэ́н* 101, 102, 137. *загі́н* 91, 92, 97, 98, 109. *загю́н* 90, 96, 96а, 103, 108.

*рэз* 73, 75, 77, 80, 81. рэс 31, 33—37, 74. *рес* 32, 39—41.

*шнур* 2, 4—6, 19, 20, 24, 25, 26, 53. *шнюр* 3.

*паласа́* 80, 123, 125, 129, 142. *пылыса́* 1, 7, 8, 44, 82. *пълъса́* 12, 14, 15, 40—42, 83—86, 89. *пало́са* 17.

*шмат* 13, 16.

## Карта № 139

# ГОНІ

№ 248 «Я. н. часткі, на якія падзялялася ворная зямля: б) гоны, гоні, ганякі (гайнякі)...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў частак, на якія падзялялася ворная зямля. На карту нанесены назвы ў множным ліку. Прыведзеныя ў адказах формы адзіночнага ліку зарэгістраваны ў спісе да кожнай назвы.

На аснове адказу на пытанне № 250 «Інструкцыі...» знак *(ве́ратні)* пастаўлены ў н. п. 60. На аснове матэрыялаў СП-ЗБ (1, 1979) знак *(го́ні)* пастаўлены ў н. п. 34, знак *(гайні́кі)* пастаўлены ў н. пп. 48 і 53, знак *(ве́ратні)* пастаўлены ў н. п. 20. Як *ве́ратні* картаграфуецца *ве́ратні*.

*го́ны* 2 *(шнур дзялі́ўся на го́ны: да кана́вы — адны́ го́ны, да по́жні — другі́я)*, 3 *(го́ны бу́льбы, на даўжыню́ шнюра́)*, 4 *(заня́ў кусо́к і арэ́ць, го́ны ўзара́ў)*, 18 *(калі́ арэ́ш, то го́ны такі́х дзве́сця шаго́ў)*, 19, 21—24, 25 *(го́нькі* — памянш. *Як выхо́дзіла за́муш, мне ба́цька даў го́нькі зямлі́ — ву́скую пало́ску)*, 27, 47 *(зямля́ падзе́ляна на не́кульки го́наў)*, 49—51, 54—57, 62, 67, 90, 93 *(адна́ рэ́зка дзялі́лася на го́ны, які́я ў даўжыню́ былі́ 100 м)*, 94 (кожны загон дзяліўся на гоны, 150—175 м.— плошча, якую мог узараць селянін да адпачынку за адзін раз), 94а—96, 99 *(мо сто мэ́траў у длі́ну, як пу́га, то́ненькія)*, 101—107, 109, 110, 113 (толькі мн. л.), 114, 133, 137 *(го́ны — до́ўгія ўча́сткі)*. адз. л.: *гон* 93. *гонь* 110. *гыен* 107.

*гóні* 10 *(гóні — даўгáя былá ніва)*, 11, 15 *(на гóні падзялялíся палóсы)*, 17, 25а, 26 *(гóні — на гэ́тым сáмым шнуры́, кусóчкі зямлі пераганя́лі)*, 28—33 (рэз падзяляўся ўдаўжыню на гоні), 34—37 (часткі рэзкі па даўжыні зямлі, *двоя-троя ганéй)*, 38, 41—43, 63 (мера ўдаўжыню, каля 30 м.), 68—71 *(мéтраў піісят сваёй паласы заарáў, тады́ далéй пашóў, двóя гóняў заарáў)*, 72, 73 *(карóткія палóскі зямлі)*, 74—77 *(як дóўгая рэ́зка, то трóя ганéй выхóдзіць)*, 78—82, 84—86, 88, 112 *(калі дóўгія загóны, іх дзéляць на гóні, каля́ дзвéсця мéтраў)*, 115—120а *(гóні* — доўгая паласа), 121—124, 126—129, 134, 135, 138—140 *(гóні — многá зямлі, больш чым загóн)*, 142; адз. л.: *гóня* 43, 79, 85.
*ганкé* 54 *(ганкé карацéйшыя, як загóны)*, 65 *(падзялялі вóрную зямлю ўдаўжыню, на ганкé)*. *гонкі́* 132.
*гайнікі* 48, 52а (участак зямлі даўжынёй у пяць метраў, было і пяць гайнікоў), 53.
*вéратні* 20, 53 *(дліна́ — сто піісят мэ́траў, а шыры́на — рóзная)*, 58. *вератні* 60; адз. л. *вéрацень* 20, 53, 58. *вéрацянь* 60.
Адзінкавыя: *ніўка* 6. *ніва невялікая* 9. *шнурóк* 14.
Адсутнасць назвы: 1, 5, 7, 8, 8а, 12, 13, 16.

## Карта № 140

# ЗАВАРОТ (У КАНЦЫ ЗАГОНА)

№ 251 «Я. н. месца ў канцы загона, дзе араты паварочваецца з плугам: заварот, атора...»
Да карты даецца спіс слоў, якія называюць месца, дзе паварочваецца араты з плугам, а таксама спіс населеных пунктаў, у якіх адстунічае тэрміналагічная назва ўказанага месца, і яна перадаецца апісальна.
Назвы-тэрміны непасрэдна ўказваюць на дзеянне, што адбываецца на месцы паваротааратага *(заварóт, паварóт)*, або на тое, што атрымліваецца ў выніку дзеяння аратага *(атóра, атóрак)*, ці ўказваюць на адносіны месца паварота да асноўнай часткі поля *(пупярэ́чкі, перакавíк, канцы́* і інш.).
На карце ўлічаны толькі карані слоў. Словаўтваральныя і акцэнталагічныя варыянты слоў адлюстраваны ў спісе слоў да карты.
У 132 і 142 пп. знак пастаўлен на падставе наступных запісаў: *на поворóтні* і *на паварóце*, а ў 93 — *поворóт быў у канцы́ рэ́скі, так робілі попэрэ́чнік*. Запісы картаграфуюцца як *паварóт*.
У 59 п. дзеясловў *заварóчваць* пры картаграфаванні не ўлічаны. Не картаграфуюцца лексемы *межá* і *замéжок*, якія на наш погляд не з'яўляюцца адказам на пытанне. Па гэтай прычыне не картаграфаваліся і адказы *урэ́х, оріх*.
*заварóт* 1, 4, 8, 10, 24, 27—30, 38, 46, 49а, 51, 60, 65, 66, 74, 75, 79, 80, 82, 84—86, 100, 107, 111, 113, 114 (на завароце), 118, 123, 128, *зъварóт* 8а, 41. *заворóт* 94, 95 (рэдка). *зыварóт* 43. *заварóта* 14. *зáварат* 36, 37, 48, 49, 50, 62, 67, 81, 88, 116, 120, 124, 125, 130, 140, 141. *зáвырыт* 44, 78. *зáварацъ* 121, 122. *заварóтка* 31, 62. *зáвъратак* 73. *заварóты* 46. *заворотьі* 134. *зворóты* 101, 133. *зворотá* 103, 131. *зáвараце* 47. паварóт 6, 10, 19, 23, 45, 46, 68, 86 (рэдка), 87, 104, 126, 132 *(на поворóті)*, 142 *(на паварóце)*. *пыварóт* 89. *пуворóт* 92. *поворóт* 94, 94а, 97, 106. *пъвароткa* 83. *пъварóт* 42. *паварóты* 46. *разварóт* 11, 85, 129. *абарóт* 15, 32, 39 *абарóты* 17. *сýварат* 60. *сýварата* 61. *вýзаварат* 58, 99. *варатьí* 112. *заварóчваць* 59.
*атóр* 7. *адóр* 57. *атóра* 9, 120а. *атóрак* 26, 63, 64, 72, 76, 77, 115, 119, 126, 127, 139. *адóрак* 18, 22. *атóрка* 9. *отóра* 136—138. *прывóрак* (на роўным месце) 2. *узрóвак* (каля канавы) 2.
*пупярéчкі* 12, 13. *пупірéцкі* 16. *пыпярэ́чкі* 35. *папярэ́чка* 52—54. *перакавéц* 69. *перакавíк* 70. *папярэ́чнік* 82. *упярóчкі* 84. *пупырэ́чнык* 91. *упярёчкі* 117.
прыголóвач 114, 117. *згалавáшка* 135.
3 *у канцы́ гóнаў паварáчваў, выкачваўся на павáлак* (пожню). 5 *пéрък ат'ехаць*. 25 *у канцы́ загóна акрýчваюцца з плугáм*. 25а *у канцы ганéй заварáчваўся*. 42 *канцы́ нáда атыйці, упóпяряк нáда атыйці*. 71 *папярóшны загóн*. 76 *папярóчны загóн*. 90 *у концí гунáх*. 96 *дэ поворóчуватысь, дэ повэрнýтысь*. 102 *конéць гóней, поміж гóнамі*. 105 *у канцы́ пóля, там ні арýць, там заварóчваў*. 108 *дэ заворóчваецца*. 109 *в головáх ны́вкы, в головáх загóна*.
Адзінкавыя: *уцінкі* 17. *стаí* 20. *захóп* 21. *канцы́* 34. *узвáлья* 105. *сýганкі* 110. *закрáёк* 131.
Адведзены: *урэ́х* 52а, *орíх* 96а. *між, межá* 98 *(худэ сюдэ на між)*. *замéжок* 106.

## Карта № 141

# АГРЭХ

№ 252 «Я. н. незахопленая плугам палоска зямлі: агрэх, узгрэх...»
Картаграфуюцца лексічныя варыянты і іх фанетыка-марфалагічныя асаблівасці. У 91 п. знак пастаўлены на аснове адказу: *оріх* — апошняя палоска няўзаранай зямлі, калі аруць у роскід.
Выклікаюць сумненне адказы *уголóвач, кося́к*. Яна пры картаграфаванні не ўлічваюцца. У 98 і 107 пп. незахопленая плугам палоска зямлі не мае спецыяльнай назвы, і інфарматары называюць яе апісальна: *не захапіў плугам; ораў, не заняў борозны*. Гэтыя адказы картаграфуюцца як адзінкавыя назвы.
Як *загрэ́х* картаграфуюцца *заўгрéх* і *зарэ́х*. Як *орíх — горíх, горэ́х, арэ́х*.
*агрэ́х* 6, 10, 11, 17, 21, 25а, 30, 34, 37, 39, 60, 66, 67, 71—73, 76, 81, 82, 110—112, 115, 116, 118—121, 123—129, 139, 141, 142. *агрéх* 83, 89. *огрéх* 83, 89. *огрэ́х* 113, 114, 117, 134, 136—138, 140. *огрéх* 117. *огріх* 94а, 96а. *агрэ́хі* 93 (цяпер), 130. *угрéх* 85, 86.
*узрэ́х* 18, 19, 22, 23, 25, 26, 27, 34—36, 38, 40, 57—59, 61—65, 70, 74, 78, 80, 82, 104. *узрéх* 33, 41, 42, 44, 79, 84, 87, 88.
*узгрэ́х* 43, 75. *узгрéх* 84. 87.
*урэ́х* 20, 45—47, 49—50. 52а—56, 99, 100.
*оріх* 90, 91, 94а, 96, 108, 131. *горіх* 92, 95, 97, 103, 109 (рэдка). *горэ́х* 102, 106. *арэ́х* 66.
*загрэ́х* 31, 69. *заўгрéх* 84. *зарэ́х* 68.
Адзінкавыя варыянты ад таго ж кораня: *абрэ́х* 24. *прарэ́х* 34. *вогрэ́ф* 138. *грэх* 89, 122.
*цілізнá* 1, 4, 5, 8, 8а, 15, 16. *целізнá* 9, 29. *цялёзны* 8, 8а.
*чылізнá* 12—14, 39. *чэлізнá* 32.
*сілізнá* 7.
*цалíк* 24, 37, 51.
*цальнíк* 2, 3.
*цаля́к* 52.
Адзінкавыя: *аблéх* 28. *абмінкі* 93 *(кóлісь)*. *прóпуск* 9, 94. *отóревка* 109. *грэ́бень* 135. *не захваціў плýгам* 98. *орáў, не заня́ў борозны́* 107. *проріх* 132.
Адведзены: *уголóвач* 101. *кося́к* 101.

## Карта № 142

# ЗНАЧЭННЕ СЛОЎ *ПРЫДАТКІ, НАДДАТКІ*

№ 253 «Што абазначае слова прыдаткі: кароткія загоны...»
На карце паказваецца пашырэнне і значэнне слова *прыдáткі* і яго варыянтаў: *наддáткі (нандáткі)*. Іншыя варыянты ў гэтых жа значэннях прыводзяцца ў індэксе. *Наддáткі* і *нандáткі* картаграфуюцца адным знакам. Фанемны склад слова не ўлічваўся. Ён адлюстраваны ў індэксе.
У тых выпадках, калі ў адказе даецца слова без тлумачэння, яно лічыцца значэннем, якое прыведзена ў Інструкцыі.
Пры картаграфаванні не дэферэнцыруюцца паняцці *падзéл* і *загóн*, якія ўжываюцца пры тлумачэнні лексем, што картаграфуюцца (напрыклад: 99 *прыдаткі* — кароткія надзелы, 92 *прыдатак* — кароткі загон).

Як 'кароткія загоны' картаграфуецца значэнне 'папярочныя загоны'. Магчыма ў 105 пункце слова *прыдáткі* з'яўляецца мікратапонімам. У 24 н. п. у значэнні 'дадатак зямлі' улічана толькі лексема *дадáтак*. Як *прыдáткі* картаграфуецца слова *прыдáча* (п. 125). У пунктах, дзе няма адказа, знак не ставіўся.

2 *прыдáткі — дабáвак да аснóўных шнурóў надзéла.* 4 *прыдáтак, прыдáткі.* 6 *прадáткі* — назва поля. 8 *дабáўкі.* 15 *наддáчкі* — кароткія загоны. 18 *прыдáткі давáлі — дабаўлялі зямлі.* 20 *прыдáткі — дабáўкі зямлі да аснóўных надзéлаў.* 21 *Наддáткі* — мікратапонім, кароткія загоны. 22 *прыдáтак ці дадáтак — тое ж.* 23 *прыдáткі* — дадатак да зямлі, якой валодае гаспадар. 24 *прыдáтак — прыдáча за тое, што купляеш, дадáтак — дабаўка зямлі, як не хапае ў адным месцы.* 25 *прыдáткі* — называлі тую частку зямлі, якую дадавалі да асноўнай зямлі (надзела). 25а *быў шнур, а там кусóчак дабавілі — гэта прыдáтак.* 27 *прыдáткі* — кароткія загоны. 28 *наддáткі* — кароткія загоны. 29 *ныддáткі.* 30 *прыдáткі — тое, што дабаўляецца.* 31 *наддáткі.* 32 *прідáтак — што-н. прыдáць, дабáвіць.* 33 *наддáткі.* 35 *ныддáткі.* 36 *наддáткі* — кароткія загоны. 37 *наддáткі, нандáткі — карóткія загóнчыкі (адно ўрóчышча дзялілі на нéкалькі хазяінаў).* 38 *нындáткі.* 45 *прыдаткі даюць, як дапалняць да сотак.* 46 *прыдáткі — калі загóн не даарáны да канцá, то прыдáткі арýць упапярок.* 48 *кароткія загоны.* (на прыдáтках пасéялі авёс). 49 *аснóўная былá зямля, а на Багудзенцы дадалі нам зямлі — дадаткі.* 49а *прыдáткі* — дадатак да шнуроў. 50 *прыдáткі* — дадатковы надзел зямлі. *(забракавало — то прыдáткі во гéтыя далі).* 51 *прыдáткі* — тая зямля, якая дабаўлялася да палетка. 52 *дадáткі* — дадатак зямлі да асноўнага надзела. 52а *прыдáтак — дадáтак да грáматнай зямлі.* 54 *прыдáткі* — гэта кавалак зямлі, які давалі да асноўнага. 55 *прыдáткі — невялікі ўчастак зямлі, які давалі дастаткова да выдзеленага.* 56 *прыдáткі — вы́дзеленыя палóскі: адна́ палóска бýдзе ў адны́м мéсці, другáя — у другóм.* 57 *прыдáткі* — кароткія загончыкі. 58 *прыдáткі — назва пóля, дадáткі — дабáўкі пóля.* 59 *прыдáтки* — невялікія кавалкі зямлі ў другім месцы поля. 60 *прыдáткі* — кароткія загоны, якія дадалі, дабавілі. 61 *прыдáткі — карóткія загóны, якія дабаўлялі пасля падзéлу.* 62, 63 *прыдáткі* — прырэзкі зямлі. 64 *наддáткі — участкі зямлі, якія былі дабаўлены да асноўнага.* 65 *прыдáткі — дабáвак да аснóўнага ўчáстка зямлі.* 66 *прыдáтка — дабóўка да асноўнага ўчастка.* 67 *наддáткі* — кароткія загоны. *(дзялілі ўсім на наддáткі, па кусóчках).* 70, 71 *прыдáткі.* (паласа мая кончылася, а я яшчэ кусочак разработаў — ета прыдáткі). 72 *прыдáткі — дабáвак.* 73 *наддáткі* — кароткія загоны, метраў на дзесяць. 74 *наддáткі* — кароткія загоны. 75 *наддáтак* — кароткі загон. 77 *нандáткі* — канцы поля каля лесу, якія дзялілі ўсім (дрэнная частка поля). 78 *прыдáтак.* 81 *наддáткі.* 83 *кароткія загоны.* 87 *прыдáткі — дáрственныя зéмлі.* 89 *прыдáткі* — кароткія загоны. 90, 91 *прыдáткі — плóшча зямлі, якáя дабаўляецца да аснóўнага надзéлу.* 92 *прыдáтак* — кароткі загон. 93 *наддáткі, нандáткі — гэ́то сóткі з дзьвэ.* 94, 99 *прыдáткі* — кароткія надзелы. 100 *прыдáткі — да зямлі дабаўляюць яшчэ́ зямлі.* 101 *надáткі* — кароткія загоны. 104 *прыдáткі* — кароткія загоны. 105 *прыдáткі — такáя мясціна, і яе раздзялілі лю́дзям.* 107 *надáткі, гóнкі (нам давáлі надáткі землé ў когó булó мáло).* 108 *прыдáток — як мыняють што да в одного будэ дорошчэ, то другый дае ёму прыдатку (меняли коны, дав ёму сто рублів прыдáтку).* 109 *прыдáток — бедняку пáру загóнув пожéртвуе, дэ хто прыдáсць.* 110 *прыдáткі — полосá дзéліцца на ўсіх па кускý; яшчэ казáлі нандáткі.* 113 *прідáткі* — дадатковы кавалак поля. 115 *андáткі* — кароткія загоны. *(на андатках пасеяў гарох).* 116 *наддáткі* — кароткія загоны. 118 *наддáткі.* 121 *прыдáткі. (е, напрымер, план і ні хватая плошчадзі — даюць прыдáткі дзета).* 122 *нэдáтак* — кароткія загоны. 124 *прыдáткі* — кароткія загоны. 125 *прыдáча* — кароткія загоны. 126, 127 *прыдáтак.* 132 *Прыдáткы* — назва урочышча. 133 *прыдáтак* — дабавак зямлі. 134 *прыдáткі,* 135 кароткія загончыкі. 136 кароткія загоны. 138 *прідáткі* — дадатковая плата, задатак. 142 *не хапáе палоскі, дáлі прыдáтак, дабáўка.*

## Карта № 143

# ПАПАР

№ 254 «Я. н. поле, якое пакідалася пад пасеў азімага жыта: пар, папар, паравое поле...»

На карце адлюстроўваюцца лексічныя, словаўтваральныя і акцэнталагічныя варыянты назвы папару. Толькі *пóпар* картаграфуецца як *папáр.*

Адведзены ад картаграфавання лексемы: *аблóга* (84, 86), *злыг* (96), *аблóг* (137), *залёж* (133), якія маюць больш шырокае значэнне — яны называюць наогул залежныя зéмлі. Адведзена таксама лексема *старапóліца,* якая не з'яўляецца сінонімам тэрміну *папáр.*

У асобных пунктах ёсць заўвагі збіральнікаў матэрыялаў: 1 *паравóя пóля* (пазней), *пупáр* (даўней). 86 *аблóга* — абложная зямля, больш шырокае значэнне. 102 *попáр, пар* (нов.). 127 *талóка — узаранае пад жыта поле да жнíўня месяца.* 138 *сцежня́* — поле, якое пакідалася пад пасеў азімага жыта, *пáрына; старапóліца* 2—3 гады адпачывае пад жыта; *пáріна* адзін год адпачывае. У 94а пункце выкарыстаны адказ на 255 пытанне: *політок — гэто поля́нка, як рук (год) лежыт.* Гл. карту № 144.

*я́ловый політок* картаграфуецца як *політок; попáрнэе пóле, як пáрнае пóле.*

*папáр* 2—4, 6, 9—11, 14, 18—28, 31, 38, 40, 45—72, 74—77, 80, 81, 88, 93, 99, 100, 105, 110—112, 115, 118, 119, 120а, 124, 126, 127, 130. *пъпáр* 5, 8а, 15, 33, 41, 83. *пыпáр* 30. *пупáр* 1, 7, 8, 12, 13, 16, 29, 35, 42, 116, 120. *попáр* 94, 94а, 96, 97, 101—104, 106—108, 113, 132. *пóпар* 90.

*пар* 1, 8а, 54, 81, 88, 92, 97, 102, 117, 120а, 121, 124, 129, 131, 134, 136.

*падпáр* 126. *пыдпáр* 87. *путпáр* 140.

*пáрына* 17, 37. *пáрыня* 34. *пáріна* 39, 44, 98, 138.

*парынá* 81.

*пáрыніна* 35, 43, 89. *пáрініна* 40, 42, 84, 86, 87. *пáраніна* 36, 73, 82, 120а, 122, 128, 139, 142. *пáръніна* 73. *пáрэніна* 114.

*пареніна* 88.

*паравóе пóле* 1, 123, 129, 136. *пъравóе пóля* 8а. *пыравóя пóля* 79.

*пáрнае пóле* 57. *попáрнэе пóле* 94а.

*парíння* 85. *парóха* 92. *парáшка* 123. *пáрнына* 131.

*політок* 94а, 95, 103, 109. *я́ловый політок* 94а.

*талóка* 125, 127. *толóка* 126.

Адзінкавыя: *ýгор* 91. *пóляд, пóлядо горáты, поля́довэ жытó* 109. *поя́ловыло пóле* 108. *я́ловае пóле* 133. *я́лавіна* 135. *сцежня́* 138.

Адведзены: *аблóга* 84, 86. *злыг* 96. *зáлеж* 133. *аблóг, облóгуе пóле* 137. *старапóліца* 138.

## Карта № 144

# ПАЛЕТАК

№ 255 «У якім значэнні ўжываецца слова палетак: невялікі засеяны ўчастак, паравое поле...»

Картаграфуецца пашырэнне і значэнне слова. Знак на карце не пастаўлены ў тым выпадку, калі ў адказе не называецца слова.

Як паказвае матэрыял, слова не знаходзіцца ў актыўным слоўнікавым фондзе, таму невыразныя тлумачэнні яго. Пра гэта сведчыць адказ інфарматараў (гл. напр. 38, 111 п.).

Агульным адсылачным знакам картаграфуюцца адзінкавыя значэнні слова, а таксама выпадкі, калі слова фіксуецца, але значэнне не ўказваецца, ці невядома носьбіту гаворкі або не зусім яснае.

Наогул, лексема *палéтак* мае больш шырокае значэнне. Аднак, у пытанні Інструкцыі прыведзена вельмі абмежаваная колькасць прыкладаў, што, магчыма, паўплывала на адказы.

2 *палéтак — небальшы́ ўчáстак, засéяны адны́м збóжжам.* 3 *палéтак* — засеяны ўчастак поля. 6 *палéтак* — частка нівы, засеяная адной культурай: *палéтак аўсá, палéтак жыта, ячмéню.* 10 *палéтак* — невялікі засеяны ўчастак, частка нівы. 11 *палéтак* — невялікі ўчастак; *палéтак — чáстка нівы, нíбальшóя пóля.* 14 *палéтак* — поле. 18 *палéтак* — засеяны ўчастак зямлі. 19 *палéтак* — вялікі кусок поля; *бальшы́я палéткі — гэ́та пáнскія; у нас двор быў, у панóў палéткі.* 20 *палéтак* — поле, засеяна адной культурай, тое, што поле пад жытам, поле пад ярынай. 22 *палéткі памíзу сáду*

*мо́жа?* 23 *палётак — кавалак поля пры лесе.* 24 *палётак* — участак поля *(на гэ́тым палётку не вы́расла).* 25 *палётак* — кусок поля, які адводзіцца ці пакідаецца пад якую-н. культуру: *палётак пад бульбу, палётак пад ячмень.* 27 *зямля́ падзе́лена на палётки.* 31 *палётак* — поле. 36 *палётак* — невялікі засеяны ўчастак поля. 38 *палётак — не́йкія наддáткі дáлёкія.* 45 *ко́жная дзярэ́ўня калісьці ме́ла тры палётки ў ко́жнага хаджáіна: жы́та, на другóм сеялі гаве́с, ячме́нь і ўсё яравóя, на трэ́цім палётку бы́ў папáр.* 46 участак. *(нáшы палётки былі тáм жа).* 47 невялікі ўчастак аддалены ад вёскі. *(нáшыя палётки за вёскаю ляжаць).* 49 *палётак — небальшы́ ўчáстак зямлі; засе́яны адзін палётак жы́там, другі ярынóю.* 49а *палётак* — поле. 50 *палётак* — невялікі ўчастак поля. *(гэты палётак аўсо́м засе́ю).* 51 *палётак — усё поле, якое засявáлася жы́там, ярынóй або пакідáлася пад папáр.* 52 *палётак поле, як засявáлася яравы́мі ці азімымі хлябáмі: яравы́ палётак, азімы палётак.* 52а *палётак* — засеянае поле. *(на тым палётку жы́та).* 53 *палётак ці лáва.* 54 *палётак: калі шнуравáя былá, бы́ў палётак грэ́чкі, палётак жы́та, палётак картóфлі.* 55 *палётак — невялікі ўчáстак пóля.* 56 *палётак — пóля, мнóга яго.* 57 *палётак — невялікі кусóк зямлі, як хáта, квадрáцікі засе́ялі або на пáшу астáвілі.* 58 *палётак* — участак поля, засеяны адной культурай. 59 *палётак — засе́яны ўчáстак зямлі — палётак жы́та, грэ́чкі.* 60 *палётак* — усе пасевы. *(на маём палётку добраё ўсё збожо).* 61 *палётак — паласá ад мяжы́ да мяжы́.* 62 *палётак — пóле невялікае, пóле — тры трохпóллі.* 63 *палётак* — невялікі засеяны ўчастак сярод лугу або ўчастак травы сярод засеянага поля. 64 *палётак* — засеяны ўчастак поля. 65 *палётак — там, дзе се́юць.* 66 *палётак ярыны́, палётак картóплі, палётак жы́та* — вылікая плошча адной культуры. 67 *палётак* — участак ворнай зямлі — засеяны і незасеяны. *(на том палётку будзя лён, кажуць і цяпер).* 69 *палётак — кусóк зямлі, палётак пáхаты.* 70 *палётак канюшы́ны, палётак жы́та, палётак лёну.* 71 *палётак — усіх пóля, і мой палётак таксáма.* 72 *палётак* — засеянае поле адной культурай ці некалькімі. 74 *палётак* (новае) — поле. 83 *палётак, клётка — невялікі засе́яны ўчáстак, пóле.* 90 *полíток* — частка поля. 91 *полíткі* — зямля разбіта на тры часткі, кожная частка называецца палеткам. 93 *палётак* — плошча, якую засейвалі адной культурай пры трохпольнай сістэме земляробства. *(былó тры палётки, на трэ́ці рок се́ецца тáя сáма культу́ра).* 94 *полёток* — трэцяя частка ўсяго сялянскага поля, якая была падзелена на палоскі-загоны, а апошнія засейваліся адной культурай або пакідаліся пад папар. 94а *полíток — гэ́то поля́нка, як рук (год) лежы́т.* 95 *полíток — попáрнэе пóле.* 96 *полíток — ковалóк пóля.* 97 *полíток* — вялікі ўчастак поля. 98 *полíток — уроджáй. (от тэпэр не полíток на гарбузэ́, на е́гудэ).* 99 *палётак* — невялікі ўчастак зямлі: там яравоя, там азімая. 100 *палётак* — засеяная поле. 101 *полёток* — засеяны ўчастак поля. 102 *полёток — гэ велíкэе пóле, гектáр 15—20.* 103 *попáр, полíток; в полíтку, в попáрі пóлэ.* 104 *палётак* — невялікі засеяны ўчастак поля, палетак пад жыта, пад ярыну. 105 *палётак* — невялікі ўчастак зямлі, засеяны жытам, а там аўсом, а там пшаніцаю. 106 *палётки пáньске булі.* 107 *полёток бу́ў тóлькі ў пáна, а ў нас булí рэзы́, загыэны, нівы.* 108 *полíток — ковáлок пóля.* 109 *полíток — полé, которэ́ бучу́е (опочывае),* рік, *через рік вóсені сіют.* 110 *палётак* — невялікі засеяны ўчастак. 111 *палётак* — паласа большая, чым загон, гектараў 10, у якой некалькі загонаў (цяпер не называюць). 112 *палётак* — вялікі бязлесны ўчастак поля, на ім магло быць многа ўчасткаў розных гаспадароў; *палётак* — вялікі кусок поля. 113 *полёток* — да 30 га суцэльнага поля. 114 *полёток* 1. поле, засеяное адной культурай, 2. гадавы знак на рагах каровы. 115 *палётак* — урочышча. *(там палетак называецца Гаць).* 116 *палётак* — поле. 117 *полёток. (пры помешчыках былі полеткі, вялікія полеткі).* 120 *палётак* — невялікі засеяны ўчастак. 120а *палётак, што сéяна.* 121 *палётки* — участак поля. 122 *полёток — пóле, засе́яное аднóй культу́рай.* 124 *палётак* — заработкі. *(атправі́ў сына на палётки на ўсё лета. палётак — змена, поле, якое засеяно бульбай або толькі жытам, або ярыной).* 131 *полíток — плóшча пóля.* 132. *полíток* — назва ўрочышча. 133 *мікратапóнім, пóле, полёток.* 134 *полёток. (два тры гады не сеялі, а потым без гнóю се́ялі жы́та, звычáйна малапрыгóднае гары́стае пóле).* 135 *Палёток* — назва ўрочышча, поле. 136 невялікі засеяны ўчастак поля. 137 *полёток* — засеяны ўчастак. *(як пойдзе дош, дак аж палёток веселее).* 138 *полёток* — засеяны ўчастак, цэлае поле, засеяное одной пашнёю. 140 *полёток* — участак, засеяны адной культурай.

### Карта № 145

## АРАЦЬ (ПЕРШЫ РАЗ)

№ 256 «Як гавораць пра апрацоўку зямлі плугам: а) першы раз: араць, пахаць...»

У пытанні тры падпункты: араць а) першы раз, б) другі раз, в) трэці раз. На гэтым матэрыяле складзены тры карты (№№ 145, 146, 147). У некаторых населеных пунктах адказы не размяжоўваюцца па падпунктах. У такіх выпадках кожнае слова па парадку падачы адносіцца да падпунктаў а), б), в).

На дадзенай карце ўлічаны лексічныя варыянты назвы працэсу арання зямлі першы раз. Акрамя таго, у слове *арáць* улічваецца фанетычная асаблівасць — наяўнасць прыстаўнога гуку *г* — *гарáць*.

У радзе пунктаў разглядаемы працэс называюць лексемай *зя́бліць*, што звычайна абазначае аранне ўвосень, магчыма і першы раз. Лексемы *пáрыць, пáрыты* таксама адносяцца да тых, што абазначаюць прыватныя выпадкі апрацоўкі глебы — пад'ём пару. Няяснымі з'яўляюцца дзеясловы *поткíнуты, пудкідáты*. Усе гэтыя адказы адводзяцца ад картаграфавання.

Форма інфінітыва і наогул граматычныя формы на карце не ўлічаны.

Як *арáць* картаграфуецца форма з прыстаўным *в* — *вурáтэ*. Знак адпаведны лексеме *арáць* пастаўлен у 96а пункце на аснове адказа *зорáты, зорáны*. Як *гарáць* картаграфуецца *разгóрваті*.

*арáць* 1, 3—19, 21—24, 25 (трад.), 25а—43, 46, 47, 52, 56, 57, 59, 60, 62—64, 66—89, 104, 105, 107, 110—119, 120а—122, 124, 126, 127, 130, 136, 138—142. *ворáць* 138. *(трэба учáстак поворáць).* орáты 90, 94а, 131, 132. орáть 133, 134.

132, *зорáты, зорáны* 96а. *вурáтэ, вурáють* 98.

*гарáць* 20, 23, 45, 48—51, 52а—55, 58, 99, 106. *горáць* 101. *горáці* 94, 10. *горáты* 95, 103, 108, 109. *гурáты* 92. *гурáтэ* 98. *гару́т* 93. *разгóрваті* 94.

*пахáць* 8а, 9, 37, 44, 83, 84, 87, 88, 111, 117, 120, 123—126, 128, 129, 141.

Адзінкавыя: *падымáць* 25, 65.

Адведзены: *подкíнуты* 90, 91. *пудкідáты* 92. *пáрыты* 103. *пáрыць* 135 (мелка араць). *путпáрыць* 137. *зя́бліць* 61. *зя́бліты* 90. *зя́блыв* 97. *зазя́бліць* 100. *зя́біць* 135. зяблёваць 133.

### Карта № 146

## МЯШАЦЬ (ПЕРАВОРВАЦЬ ПАЎТОРНА)

№ 256 «Як гавораць пра апрацоўку зямлі плугам: ... б) другі раз пасля баранавання: мяшаць, пахаць...»

На карце ўлічаны прыставачныя варыянты слоў, што картаграфуюцца. Не ўлічваліся суфіксы і граматычная форма слова.

Пры картаграфаванні назвы працэсу апрацоўкі зямлі плугам другі раз не ўлічаны тыя адказы, дзе гэты працэс абазначаецца лексемай *траíць*. Яна звычайна гаворыць пра апрацоўку зямлі трэці раз.

Як *гарáць* картаграфуецца *вурáтэ́*. Словаспалучэнне на *ме́шак арáць* картаграфуецца, як *арáць*. Не ўлічаны адказ *пабаранавáць на ме́шань.*

Як *пераáрацьь* картаграфуюцца: *перавóрваць, перагóрваць, абóраваць, подорáць.* Як *перапахáць — прапáхваць.*

*арáць* 22, 60 *(арáць дваеніну)*, 62, 64—67, 112, 121, 124, 126, 135, *ару́ць* 105. *орáты* 90, 97, 132. *орáць* 107. *на ме́шак арáць* 21.

*гарáць* 47, 50, 51, 52а, 53, 55, 58, 99, 100, 101. *горáць* 106. *горáты* 103, 108, 109. *гурáты* 92. *гору́т* 93, 95. *вурáтэ* 98.

*пераарáць* 23, 111, 139. *перавóрваць* 104, 139. *перагóрваць* 54. *пырыóруе* 91. *абóраваць* 2. *подорáць* 113.

*пахáць* 25 (пахаць пад жыта), 48, 111, 117, 124, 125, 128, 129. *пыхáць* 84.

*перапахáць* 111, 117, 140. *пірíпъхáць* 13. *прапáхваць* 59. *перапáхваць* 63.

*мяшáць* 3, 6—10, 19, 20 (пры двухразовай апрацоўцы), 24, 49а, 63 (мяшаць вясной пад ярыну), 68, 74, 76, 77, 81, 82, 88, 112, 115, 118—120а, 122, 127, 128. *мíшáць* 4, 5,

7—9, 12, 15—18, 25а, 26, 29, 31, 32, 35—44, 57, 70, 73, 75, 78, 79, 83, 85, 87, 123. *мешáць* 86, 114, 116, 134, 137. *мэшáць* 138, *плýгам арáлі і мішáлі* 33.

*перамéшаваць* 1. *перамяшáць* 69.

*падмéшаваць* 14. *падмéшъвъць* 34. *падмішáць* 28.

*абмешáць* 11.

*узмяшáць* 71. *узмішáць* 80.

Адзінкавыя: *падня́ць* 20 (пры трохразовай апрацоўцы). *падымáць, перакíнуць* (трад.) 25. *падымáць* 52. *поднімáці* 94. *падня́ць паранíну* 142. *ломы́ты* 96. *ломы́в* 97. *ралы́ты* 131.

Адведзены: *пабаранавáць на мéшань* 27. *траíць* 61, 110, 126, *троíці* 94, 102. *троíты* 94а, 95, 103. *патраíць* 66. *зéбляць* 47. *зя́бліты* 103. *дзіскувáць* 88.

## Карта № 147

# ТРАІЦЬ

№ 256 «Як гавораць пра апрацоўку зямлі плугам: а)... б)... в) трэці раз, пасля баранавання: абмешваць, траіць...»

Апрацоўка зямлі плугам трэці раз робіцца не ва ўсіх раёнах Беларусі. Відаць, і адказ у 11 пункце *абмéшваць (другі рас ужо абмішáлі)* трэба лічыць як адсутнасць апрацоўкі трэці раз.

У 21 п. адказ *траéнь падымáў* картаграфуецца як *траíць*. У 46 населеным пункце знак на карце не ставіўся, таму што тут размова ідзе пра акучванне бульбы. Запіс у 49 пункце *сéюць* разглядаецца як адсутнасць працэсу апрацоўкі поля трэці раз. Як *арáць* картаграфуецца *пераарáць*. Як *гарáць — згорáты*. Як *траíць* картаграфуецца *патрáіць, трайніць, травіць, трайніць*. Як *мяшáць* картаграфуецца *памяшáць*.

У 128 і 129 пп. недыферынцыруюцца адказы па падпунктах пытання. На карце ў гэтых пунктах знак не ставіўся. У шматлікіх матэрыялах адсутнічаюць адказы. Хутчэй за ўсё ў гэтых населенных пунктах апрацоўка глебы трэці раз не праводзіцца. У такіх выпадках каля пункта знак не пастаўлены.

Адведзены ад картаграфавання дзеяслоў *зя́бліць (зя́біць)*, які заўсёды абазначае аранне ўвосень і адлюстраваны на карце № 148, а ў адказах для карты яно з'яўляецца заўсёды другім словам, якое знаходзіцца побач з асноўнай лексікай, што картаграфуецца.

1 *падтраíць (як цвёрда)*. 2 *мішáлі*. 3. *трэ́ці рас сéюць ўжó*. 4 *не аралі*. 5, 6 *трэ́ці рас не арáлі*. 7 *абмéшваць*. 8 *не арáлі трэ́ці рас*. 8а *абмéшваць, траíць*. 9 *трэ́ці раз забаранавáў пóле, узарáў ранéй*. 10 *абмéшваць*. 11 *абмешваць (другі рас ужó абмешáлі)*. 13 *абмішáць*. 14 *абмéшаваць*. 15—18 *траíць*. 19 *не арáлі*. 20 *мяшáць (пры трохрáзавай апрацóўцы)*. 21 *траéнь падымáў*. 22 *арáць, цяпéр траíць*. 23 *траíць*. 24 *не арáлі трэ́ці рас*. 25 *не арáлі*. 25а *забаранýюць і сéюць*. 26 *пáшуць па пасéянаму баранóй, некатóрыя яшчэ траілі*. 27 *лéтась былá бýльба; пóля першы́ рас — узарáць, патóм пабаранýюць — на мéшань, а тады́ зноў арýць — тра́яць*. 28 *падтраíць*. 29 *абмéшаваць, траíць*. 30 *падмéшываць*. 31, 32 *траíць*. 34 *падмéшъвъць*. 35 *траíць пыт канóплі*. 36 *траíць*: 37 *трэ́ці рас не арáлі*. 38 *тра́яць*. 39 *траíць*. 40 *у рэ́ткіх слýчыях і мішáюць óчынь мáла*. 42 *тры разы́ не арýць*. 43, 44 *траíць*. 45 *пераарáць, перагóрваць*. 46 *акýчваць, сашкавáць картóплі*. 47—48 *траíць*. 49—49а *траíць, гарáць*. 50 *траíць*. 51 *трэ́ці рас гарáлі* (рэдка), *траілі, як другі ці трэ́ці рас гарáлі*. 52—52а *загóрвае ў тры пукі*. 57 *траíць пад лён*. 58 *не гарáлі*. 59 *трэ́ці рас не арáлі*. 60 *падмéшваць, арáць трэ́ці рас*. 61 *трэ́йці рас, па Іллі, траíць*. 62 *траíць*. 63 *арáць, зя́бліць на зімý*. 64 *абмéшваць*. 65 *мяшáць*. 67 *падтраíць — трэ́ці раз арýць*. 68—69 *трэ́ці рас не арáлі*. 70 *траíць (хто пóле траíць, той хлеп краíць)*. 71 ператраíць (бальшынствó *два разы́ успáхівалі, а ў кагó харóшыя кóні, мох іператраíць)*. 73 *траíць, трайніць*. 74 *траяніць*. (трад.). 75 *абмéшаваць*. 76—.77 *трэ́ці рас не арáлі*. 78—85 *траíць*. 87 *траíць*. 89 *мішáць*. 90 *орáты в загóны*. 91 *орáты чырнýху (тóлькі на азімыя)*. 92 *гурáты*. 94 *згорáты*, 94а *орýць в загóны*. 95 *троíты*. 96 *орáты — арáць у загоны*. 97—.99 *траíць*. 100—.101 *горáць* (і). 102 *горáці пад сеўбý*. 103 *горáты в загóны*. 104 *не арáлі*. 106 *горáць*. 107—.108 *пуд сывбý горáты*. 109 *горáты*. 110 *траíць*. 111, 112—.113 *орáць*. 114—.115 *траíць*. 116 *абмéшваць*. 117 *трэ́ці раз не апрацóўваюць*. 118 *травіць, паттравіць палóску*. 119 *траíць (на грэчку колісь траілі)*. 120 *абганя́ць*. 121 *траíць*. 122—. 123 *траíць*. 124 *траíць, устраíць*. 125 *траíць*. 126 *траíць*. 127 *травіць*. 128 *пахáць, арáць, мяшáць*. 129 *пахáць*. 131—. 132 *троíты — трэ́ці раз горáты*. 134 *троíть*. 135 *арáць* (наогул глыбока), *зя́біць* — парыць (мелка араць). 137—. 138 не рабілі. 140 *тра́яць* — аруць трэці раз пасля баранавання. 141—. 142 *мяшáць* на *хлеб, траíць*.

Адведзены: *зя́біць* 63. *зя́бліць* 135. *абгоня́ць* 120. *пахáць* 129.

## Карта № 148

# ЗЯБЛІЦЬ

№ 257 «Як гавораць пра аранне ўвосень: араць, зябліць...»

На карце паказаны лексічныя варыянты абазначэння працэсу аранння ўвосень, а таксама сінтаксічныя канструкцыі пры дапамозе якіх перадаецца названы працэс. Сінтаксічныя канструкцыі у адных выпадках маюць у сваім складзе дзеяслоў *араць* і назоўнік *зяб* (з прыназоўнікам і без яго), або гэты ж дзеяслоў і назоўнікі *зіма, азімак*. У другіх выпадках — дзеяслоў *падымаць* і *назоўнік зяб* (таксама з прыназоўнікам ці без яго) і яго варыянты. Пры картаграфаванні фармальныя паказчыкі слоў і прыназоўнікі не ўлічаны. Таму адным знакам картаграфуюцца ўсе спалучэнні з дзеясловам *араць* і назоўнікам *зяб: арáць на зя́б, арáць пад зяб, арáць на зя́бліва, арáць пад зя́бліва, арáць пад зя́бу, зя́бліва ўзарáў, зя́блі абарáць, зя́бу арýць, арáць зя́біль, зяп горáлі, арáць зя́бараць на зімý, арáць пад зя́бу, гарýць пад зяб,* зяп горáлі; *арáць* і назоўнік *зімá: узáраць на зіму, разгóрваці на зімý, арáць на зімý, абóрваць на зімý, на зімý на бýльбу панавóруюць; араць* і назоўнікі *азíмак, азíмка: арáць азíмку, арáць азíмак;* усе канструкцыі з дзеясловам *падымáць* і назоўнікам *зяп: падымáць зяп, падымáць на зяп, падымáць пад зяп*. Як *зя́бліць* картаграфуецца *зя́біць,* граматычная і фанетычная форма дзеясловаў пры картаграфаванні не ўлічана.

У 23, 103, 132 пунктах зафіксаваны ў адказе лексемы *траíць, троíты,* якія маюць яшчэ значэнне 'апрацоўваюць глебу трэці раз' (гл. карту № 147). У 55 п. лексема *гарáць* мае, відаць, значэнне больш агульнае 'апрацоўваць плугам', а непасрэдным адказам на пытанне трэба лічыць слова *зя́бліць,* як пэўны працэс апрацоўкі глебы ўвосень — неглыбокае узаранне поля.

1 *нада зяп падымáць*. 2 *аржы́шча абóрваць на зіму*. 3 *арáць*. 4 *на зімку арáлі*. 5 *арáць*. 6 *зя́блі абарáць*. 7 *арáць на зяп, зя́бліць*. 8 *арáць на зя́бліва*. 9 *зя́бліць*. 10 *пóля ўсё убрáлі і ўзарáлі*. 11 *арáць пад зяп. (абáрваюць на зіму, пад зяп(б))*. 12, 13 *арáць*. 14, 15 *арáць на зімý*. 16 *арáць*. 17 *арáць пат зяп*. 18 *арáць*. 19 *арáць на зімý*. 20 *азя́бліць усё на зімý*. 21 *арáць азíмку*. 22 *зя́бру арýць*. 23 *арáць на зіму, траíць*. 24 *узарáць на зімý*. 25 *арáць азíмак*. 25а *зя́бліва ўзарáў*. 26 *арáць пад зя́бу*. 27 *арáць*. 28 *узарáць на зіму*. 29 *арáць ны зяп*. 30—32 *арáць*. 33 *зя́біць, арáць зя́біль*. 34 *арáць*. 35 *арáць на зімý, арáць узмёт*. 36 *арáць, падымáць на зяп*. 37 *арáць, // падымáць зяб*. 38. *арáць на зімý, цяпéр — паднялі пад зяп*. 39 *арáць*. 40 *арáць, послі ўбóркі пад яравóй клін бýдышчага гóда зя́бліць*. 41 *арáць пад зя́бліва*. 42 *арýць пыд зяб*. 43 *зя́бліць*. 44 *пыхáць зя́бліва*. 45 *увóсянь гарýць пад зяб на вяснý*. 46 *зя́блю падымáць, зя́бліць*. 47 *гарáць, зя́бліць, перагóрваць*. 48 *зя́бліць (пад ячмéнь зямлю зя́бляць)*. 49 *зя́бяць, як жыта сéюць*. 49а *гарáць*. 50 *зя́бліць*. 51 *пад гавёс зяп гарáлі*. 52а *на зімý зя́бляць*. 53 *загарáць* — аранне ўвосень. 54 *гарáць, зя́бліць*. 55 *зя́бліць — плы́тко гарáць, каб аднó ржы́шчо загарáць*. 56 *увóсень хазя́ін пазямліць*. 57 *арáць*. 58 *на зіму гарáлі*. 59 *зя́бліць*. 60 *арáць*. 61 *зя́бліць*. 62 *зямліць*. 63 *зя́бліць (на зіму ўзя́бліць)*. 64 *зéбляць*. 65 *зя́бліць*. 66 *зя́біць (я ўсё назя́біў —* узараў увосень). 67 *зя́бліць (зя́бліць на зіму)*. 68 *арáць (на зімý арýць жытнішча)*. 69 *на зімý арáлі // мяшáць* (даўн.). 70 *зя́бліць*. 71 *узарáць на зіму*. 72 *пáраць*. 73 *арáць*. 74 *пат зяп арáць*. 75 *арáць на зімý*. 76 *арáць на зімý, зя́бліць*. 77 *на зімý на бýльбу панавóруюць*. 78 *зя́бліць*. 79 *арáць ны зімý (узырáў поля ны зімý)*. 80 *арáць* (увосень). 81 *арáць на зімý; падымáць зяб* (новае). 82 *арáць*. 83 *мішáць — каб пралéжала пóле*. 84 *арáць зя́бараць на зімý*. 85 *зя́бліць*. 86 *зя́бліць, зя́бліваe вóріва*. 87 *арáць, падымáць зяб*. 88 *арáць, зя́бліць, пахáць*. 89 *арáць*. 90 *орáты, зя́бліты, поткінуты*. 91 *орáты*. 92 *горáты*. 93 *раскідáці,* (вóсенню гарэ́цца ў рóскід). 94 *подымáці пóжню, пóле; розгóрваці на зіму*. 95 *розгóруваты, горáты гóсыню, зя́блыты*. 96 *орáты, зя́бліты*. 96а *зя́быты*. 97 *зя́блыть*. 98 *гурáтэ; зя́блэтэ — на бýльбу зéмлю загутуўля́ють (пудгутуўля́ють пóсля*

*пéрак* 66 (*пéрак рóбіш*), 68 (*у канцы пéрак сеяць трэба*). *пяра́к, перачóк* (пам.-ласк.) 70. *перакаве́ц* 69 (*на перакаўцы баразён пяць*). *перакаве́нь* 75 (*піракаўна́* р. скл.).
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня. *упóпірак* 42. *упóперак* 140, 141. *упёрак* 130.
*перакавáя: перакавáя баразнá* 28. *перакавы́я барóзны, перакавы́ загóн* 66. *пірікавы́я* 28, 33. *піракавы́я барóзны* 37, 89. *перакавы́я* 74. *перакавы́я барóзны* 66, 73. *перкавы́я барóзны* 36. *паракавы́ загóн* 66.
*адóрак* 18, 22. *адóр* 57. *атóрак* 64, 77 (5—6 баразён), 119, 121, 122, 139 (*атóрак* — часцей, *прыкíдка* — радзей). *атýрак* 142. *атóры* 7 (*атóры а даўгая баразнá*, г. зн. *атóры і даўгáя баразнá*), 9, 26. *атóра* 120, 120а. *атóркі* 120, 120а, 127.
*кáнчар: кáнчур* 74, *канчарэ́* 47 (*на канчарах зелле ўзялося, ні абабраццa*), 53 (*канчарэ́ — могуць быць і папярэчныя і ўздоўж*) 60.
*прыгаловач: прыголовач* (адз.), *прыголовачі* (мн. л.) 108, 133, 134, *прыголовач* 114, *прыгалавашкі* 112. *прыголовáшка* 137.
*угалóвач: уголóвач* 101. *узгалавáшкі* 122.
Адзінкавыя: *лаўкі* 6 (*лаўкі і папярочныя барозны*), *абарóт* 39. *абарóты* 15. *обугоны, канцы* 35. *канчáты* (рэдка) 54. *градочкы* 95. *загіньчык, загóнец, каротка ріска* 96. *узнáчкы* 109 (вельмі малая баразна, толькі што знак баразны). *гаткі* 123. *загóны* 132. *прыкíдка* 139 (*аторак* — часцей, *прыкíдка* — радзей).

## Карта № 221

# КУСТ БУЛЬБЫ

№ 358 «Як называецца адзін корч бульбы: каліва, куст, корч, гняздо?..»
На карце супрацьпастаўлены назвы аднаго куста бульбы. Фанетычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся.
Назвы карчýк 60, карчóх 94 картаграфуюцца як *корч*, каліво́ 5, кáліво 99, кáльва 45, кáльво 47, 49, 50, кылівíна 16 — як *кáліва*, цявіна 105, цівіна, цяўвіна, цяцівінá 85 — як *цяцíйка*, карэ́нь — як *кóрань*.
*корч* 23, 26, 31, 37, 46, 50 (рэдка), 51, 53, 54, 56, 61, (рэдка), 62—77, 81, 82, 87, 90—96, 96а, 97—104, 107—110, 112—115, 117—122, 124—128, 131—141. *карчýк* 60, *карчóх* 94.
*куст* 1 (куст бульбы) 3, 12, 13, 16, 18—20, 26 (нов.), 27, 36, 39, 42—44, 52, 53, 57—59, 61, 78, 79, 83—85, 87—89, 111, 116, 130.
*кáліва* 2, 6, 8а, 9—11. 21, 22, 24, 25а, 28—30, 32, 34, 37—39, 48 (*картофлі было многа пад калівам*), 52а, 53, 55, 75, 80, 81, 86, 87, 106, 118, 123, 125, 128—130, 139—142. *кáлява* 25. *кáліво* 99, 106. *калівó* 5. *кáльва* 45 (*пяць кальваў картоплі абматыкавала і дошч пайшоў*), 49а, 54. *кáльво* 47. *кáльво* 49, 50 (*кáльво картопяль*), 55 (ніякі род, рэдка), *кълива* 6. *кылівíна* 16 (*кылівіна — тріццыць бýльбін*»).
*цяцíйка* 40 (*цяцíйку выцігнуў акызáлыся пяць бýльбін*). 41 (*выкыпыў трі цяцíйкі і на абет бульбы хвáціць зваріць*). *цявіна* 105 (*выкапаў цявіну картополь*), *цівіна, цяцівінá, цяўвіна* 85 (паведаміў Яшкін І. Я.).
*кóрань* 58. *кóрінь* 89. *карэ́нь* 4 (*карэ́нь бýльбы вы́капала*).
*гняздó* 15, 16, 35 (нов.).
Адзінкавыя: *былíна* 7 (*вырвала быліну, а пыт былінай і бульбы німа, а буваіць і дваццаць бульбін пат былінай*). *кургáн* 33 (*кургáн бульбы вырылі, бульба курганáмі родзіць*). *грáнка* 35. *грузнó* 17.

## Карта № 222

# КАПАЦЬ БУЛЬБУ

№ 360 «Увосень бульбу выбіраюць, капаюць...»
На карце супрацьпастаўлены назвы працэсу выкопвання з зямлі клубняў бульбы. Фанетычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся. Інфінітыў узнаўляецца з формы трэцяй асобы.
Адведзены ад картаграфавання дзеясловы *падбірáць* 41 (*у саўхозе*) *выгóрацъ* 20 (*выгóруйюць*), *выгóрваць* 45 (*выгóрваць, а потым выбіраць*), бо не адпавядаюць тэме карты.
*капáць* 1—4, 8, 9, 10—20, 22, 23, 30—39, 47, 48, 49а, 50—52, 52а, 53, 54, 57—59 (капаць лапатай на градзе), 60—66, 67 (рыдлёўкай), 69 (*капáць* — цяпер), 70—77, 82, 86, 88, 93, 111—113, 115—132, 135, 136, 139, 141 (у гародзе), 142. *капáяць* 21, *капáюць* 56, 99, 100, 105—110. *копáць* 90, 91, 94 (*седзячы і копашкою*), 101, 102, 136, 137, 138. *копáты* 95 (у в. Заверша, Ташчыты, 25 км ад Сіманавічы), 96, 96а, 103. *копáюць* 97, 103. *копáють* 96. *купáюць* 98 (*купаюць купаніцаю*). *кыпáць* 5, 7, 40, 78—80, 83—85, 87, 89. *купáць* 92. *къпáць* 8а, 39, 41, 42—44.
*выбірáць* 6, 9, 23, 25а—28, 39, 42, 45 (*выгорваць, а потым выбіраць*), 46, 49, 49а, 53, 54, 57, 59, 60, 63, 67 (за плугам), 68, 69 (трад.), 87, 90, 92, 94 (рэдка, плугам), 111, 137. *убірáць* 114, 142. *выбырэ́ты* 96. *въбірáць* 8а. *вы́бралі* 24. *выбырáюць* 96а. *убірáюць* 134. *бярýць* 24, 25.
*рыць* 84, 87.

## Карта № 223

# БУЛЬБЯНІШЧА

№ 361 «Я. н. месца, дзе расла бульба: картаплянішча, бульбянішча, картапляніско...»
На карце супрацьпастаўлены назвы поля, дзе расла бульба. Фанетычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся. Назвы *бульбе́лішча* 28, *бульме́нішча* 68 картаграфуюцца як *бульбя́нішча, бульвóвіско* 93 — як *бульбавіска, бульбя́нна* — як *бульбя́нне, бýльбавішча* 81 — як *бýльбішча, бульбе́нне* — як *бульбя́нне, бýльбáвішча* 81, 85, 87 — як *бульбóвішча*.
Назвы *бульбе́лішча* 28, *бульбінішча* 52а картаграфуюцца як *бульбе́нішча, бульбавішча* 81 — як *бýльбішча, бульбе́нне* — як *бульбя́нне, картапле́нішча, картафле́нішча* 54 — як *картаплянішча, картафля́ніск* 48 — як *картапля́ніска, картапле́ніско, картафле́ніска* 54 — як *картапля́ніска*.
*бульбя́нішча* 1—8, 8а, 9—11, 13—15, 17, 19, 21, 22, 24, 29—35, 37—39, 42—44, 49, 57, 70 75, 77, 78, 80, 82, 86, 88, 110, 111, 118, 123, 125, 126 (*бульбя́нішча* — новае), 127, 130. *бульбя́нішша* 76. *бульбя́нішчэ* 106. *больбя́нішча* 119.
*бульбóвішча* 27, 35, 36, 79, 81, 83, 84, 89 (*нада пірапахаць бульбовішча*). *бульбóвішче* 98. *бýльбáвішча* 81, 85, 87 (паведаміў Яшкін І. Я.).
*бульбóўнішча* 8а, 23, 35, 41, 58.
*бульбе́нішча* 81, 85, 87 (паведаміў Яшкін І. Я.), *бульме́нішча* 68. *бульбе́нішча* 82. *бульбе́лішча* 28. *бульбінішча* 52а. *бýльбішча* 16, 25а, 133. *бульбішча* 12. *бульбішча* 81, 87 (паведаміў Яшкін І. Я.). *бýльбішче* 134.
*бульбя́ніска* 51. *бульбя́ніско* 46, 47.
*бульбóвіска: бульбóвіско* 107, 108 (рэдка). *бульвóвыско* 109, 132. *бульвóвіско* 93.
*бульбя́нне* 74, 86, 128 (*тады восенню ўзорвалі бульбянне*). *бульбя́нна* 25, 82, 121, 124. *бульбе́нне* 26. *бульбя́ння* 80.
*бульбóўнік* 35, 37, 40, 73 ('поле, дзе расла бульба' і 'батва' — *пайду жаць бульбóўнік*), 82, 85 (*«ізноў на бульбоўніку будзем бульбу садзіць»*), 107, 129.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *бульбя́нка* 20, 52. *бульбе́шнік* 82.
*картапля́нішча* 45, 54, 63, 64 (трад.), 66, 69, 72, 104, 105, 116, 118, 120, 122, 127, 139, 140, 141, 142. *картапля́нішчо* 50 (*картопля́нішчо паравóрваюць і сеюць жыта*), 53, 55, 60. *кыртыпля́нішча* 87. *картапля́нішчэ* 115, 135. *картопля́нішча* 136. *картопля́нішчэ* 101. *картафля́нішча* 54, 56, 57, 59, 61, 64, 65, 67, 68 (нов.), 69, 71, 110, 112, 117, 125, 126. *картафля́нішчо* 53. *картапле́нішча* 54. *картафле́нішча* 54.
*картапля́ніска* 54. *картапля́ніско* 50 (радзей), 53. *картопля́ныско* 98а. *картафля́ніск* 48. *картафля́ніска* 18, 49а, 54. *картафля́ніско* 46, 53, 100. *картофля́ніско* 94. *картапле́ніско* 54. *картафле́ніска* 54.
*картóпліска: картóпліско* 51, 90. *картóплыско* 92, 95, 96, 97, 103 (рэдка), 108. *картыпніско* 102. *картóфліско* 91.
*картóплішча* 113. *картóплішчэ* 114, 138. *картóплышчэ* 131. *коуртóплішчэ* (*на куртóплішчэ добра расце аўйос*) 137.

*картапле́нне: картапле́нё* 99. *картоплы́нне* 103.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *картафля́нка* 20. *картапля́нік* 62.
Адзінкавыя: *поко́пышчэ* 131.

## Карта № 224

# КАПЕЦ БУЛЬБЫ

№ 362 «Я. н. сховішча для бульбы на паверхні зямлі: капец, бурт...»
На карце супрацьпастаўлены назвы кучы бульбы на паверхні зямлі, якая накрываецца саломай і прыкопваецца зямлёй для захоўвання ўзімку. Фанетычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся.
Назвы *капя́к* 81, *капа́к* 82, картаграфуюцца як *капе́ц, коп* 16, *копка* 8а — як *ако́п, стажо́к* — як *стог*.
Адведзены ад картаграфавання, бо не адпавядаюць тэме карты: *я́ма* 9 (укапаная ў зямлю), 18 *(у яму закопваем)*, 23 *(яма, на яме зверху* капец пяску), 45 (дома), 49а, 52а *(дайней у яму засыпалі)*, 54, 98, *я́мка* 97. *склеп* 49а. *лаба́с* (рэдка) 50. *склеп* 45, 54. *сто́пка* 72 *(сыпалі ў стопку). по́граб* 93 *(скапэ́ц, а як большы, то пограб 'бурт'). сто́пка (дома, бурт — у калхозі)* 100. *пограбы* 106.
*капе́ц* 2 *(у капцы́ закапываюць)*, 4 *(капцы́ абкладáлі саломай і апсыпалі зямлёй, у калхозі капцы длінныя)*, 5, 6 *(дайнейшае, цяпер не ўжываецца)*, 9 *(капе́ц круглы, авальны на паверхні)*, 10 *(у капцах бульба не змёрзніць)*, 11, 15, 20 *(бульбу трэба схаваць у капец)*, 21, 24, 25, 25а *(завуць капец — хто дома хавае, а бурт — у калхозі)*, 26, 27, 30 *(капе́ц, бурт —* абодвы словы новыя), 31 (капец круглы), 35 (капец круглы), 36 (капец малы, бурт вялікі), 38, 43 *(капец, бурт у саўхозі)*, 44, 45 *(капец у саўгасе, дома — яма, склеп)*, 46—49, 52 *(капец, бурт — доўгі капец)*, 53, 54, 56, *(капец,* мн. л.— *капцэ́)*, 57, 58—61, 62 (капец круглы), 63—67, 68 *(капе́ц — дома і ў саўхозі)*, 69—71, 73, 74, 76 *(капе́ц — дома, бурт — у калгасе)*, 77, 78, 80, 82 *(капе́ц — бальшы́, круглы, бурт на 2—4 каля́іны)*, 84 (капец круглы), 85, 88, 104—106 *(копцэ́)*, 107 *(хова́лі бульбу ў лёху, у капцыех на зіму)*, 116, 118 (круглы, трад.), 120, 120а, 121 (капец — трад.), 122 *(копцы)*, 123, 124 (капец круглы), 125—130, 135, *капец* 139 (круглы). 140—142 (круглы) *(капе́ц — дома, бурт — у саўхозі). капэ́ц* 79. *копе́ц* 138. *капя́к* 81 *(капя́к — круглы, бурт — доўгі). капа́к* 82 *(капа́к — круглы бурт на адзін комін)*.
*скапе́ц* 40 *(скапе́ц — бальшой бурт)*, 41, 42, 50, 51, 55, 72 *(скапе́ц — у калхозі)*, 75 *(скапе́ц — круглы)*, 99, 110 *(малыя круглыя, дома)*, 112 (дома), 119 *(невялікі капец), скапэ́ц* 93 *(скапэц, а як большы, то пограб 'бурт')*, *скопе́ц* 94, 95 (невялікі капец), 96 (невялікі капец), 102 (невялікі капец), 103 *(ярус — довгасты, мешков сорак, скопец, бурт — велікі)*, 108, 109, 113, 137 *(ско́пе́ц — дома, бурт — у калхо́зе). ско́пыц* 90. *ско́пыць* 131. *скопе́ць* 131. *скіпэ́ць* 92.
*бурт (у калхозе)*, 2, 3 *(бурты́ — цяпер)*, 7, 8 *(бурт бульбы — вялікі капец)*, 8а, 9 *(бурт — доўгі капец, новае слова)*, 10 (нов.), 14, 16 *(для бульбы — доўгі бурт робіцца, а для буракоў круглай формы)*, 18 *(у калхозі бурты)*, 19, 22, 25 *(бурт — у калхозі)*, 29 *(бурт — прадаўгаваты капец, у калхозі;* нов.), 31 (прадаўгаваты), 32, 34, 35 *(бурт — доўгі)*, 36 *(бурт — вялікі)*, 37, 39 *(бурт — вялікі)*, 40 *(бальшой бурт)*, 41 *(бурт — рэдка)*, 42 *(бурт — у калхозі)*, 53, 54, 55 *(бурт —* нов.), 57, 61 (нов.), 66 (пераважна доўгі), 67, 73, 75 (прадаўгаваты), 79 (большы, чым капец, па памеру), 83, 84 (доўгі, нов.), 85, 86 (нов., *у калгасі)*, 88, 89, 91, 95 *(у калхозі)*, 96 (вялікі), 98 *(у калхозе)*, 100 *(у калхозі)*, 102 *(бурт — вялікі)*, 108 (рэдк., нов.), 110 *(доўгі ў калхозі)*, 111, 112 (у калгасе), 115, 117, 118 (доўгі, нов.), 119 *(вялікі ў калхозе)*, 121 *(длінныя ў калхозі)*, 124 (прадаўгаваты), 125, 127, 129, 130, 134 (нов.), 136, 137 *(у калхозе)*, 139 (доўгі, цяпер), 142 *(доўгі, у калхозі)*.
*ако́п* 12, 13, 16 (трад.), 17, 39 *(ако́п — капец)*, *коп* (трад.) 16 *(круглы капец бульбы, буракоў). ко́пка* 8а.
*стог* 1 (стох бульбы), 6 (агульнапашырана), 8а *(бульбу ў стагі хаваюць)*, 9 (стох), 29 (круглы, трад.), *стажо́к*, 8 *(стажок бульбы, бурт бульбы — вялікі)*.
Адзінкавыя: *ку́ча* 7. *кага́т, кага́тчык* 86 *(раньшы круглы дзелалі), кыга́т* 87, *ре́я (рейа — вельмі вялікі скапец)* 95. *мыляр, мыля́рык* (маленькі) 96а. *рэ́жа* 101 *(рэжа длінная). я́рус* 103 *(ярус — довгасты, мешков сорак, скопец — меньшы, круглы), ко́нус* — 123.

## Карта № 225

# ЗАСТАРОНАК У ГУМНЕ

№ 368 «Я. н. запоўнены снапамі збожжа застаронак у гумне: старонка, сціртa, тарпа, торп, стоўп...»
Картаграфуюцца лексічныя варыянты назвы застаронка, які запоўнены снапамі, і ўлічаны фанетычныя, словаўтваральныя і акцэнталагічныя асаблівасці гэтых назваў-слоў.
Як *застаро́нак* картаграфуецца *астаро́нок*. Як *скі́рта* картаграфуецца *скі́рты*. Адным знакам картаграфуецца *клат, кладня́, кладні́к*. Ад картаграфавання адведзены лексемы, якія маюць іншае значэнне або іх значэнне няяснае: *тырпа́, клёшня, галамяно́*, 'частка застаронка паміж сохамі' *або запе́ра*, значэнне якой няяснае.
*старана́* 14, 17, 29, 36, 38, 46, 47, 49, 49а, 53, 57, 59, 61—63, 65, 71—73, 75, 81, 82, 93, 99, 115, 120. *стърънá* 8а, 15, 32, 34, 39, 83. *стърана́* 33, 37. *стырына́* 16, 35, 40, 42—44, 79, 85. *стырана́* 42. *сторона́* 94—95, 97, 102, 103, 107, 108, 122, 131, 132. *стурона́* 92. *стуруна́* 98. *старо́нка* 38. *старані́цы* 18 *(кап зярно ні ляцела)*.
*застаро́нак* 3, 4, 7, 25, 64, 66, 80, 81, 84, 119, 125, 127, 129, 135, 139, 141, 142. *зъстаро́нък* 8а. *зыставо́нык* 84. *засторо́нок* 90, 91, 96, 113, 114, 117, 133, 134, 137, 140. *застору́нок* 132. *застаро́нкі* 126. *астаро́нак* 45.
*пры́старанак* 100, 104.
*прысторо́нок* 101, 106.
*посторо́нок* 106. *пыстаро́нык* 89.
*сціртa* 5, 10, 11, 21, 24, 26, 116.
*сцірта́* 24, 28.
*скірда* 16, 86, 124, 125.
*скірда́* 112, 121.
*скірта* 79, 120а, 128, 129, 136, 138.
*скірта́* 78, 121.
*торп* 18—20, 50, 52а—55, 58, 60, 61.
*тарпа́* 2, 4, 22, 23, 27, 53, 68—70, 74.
*тарпі́на* 51.
*пліта́* 76, 77, 118.
*стоўб, стоўп* 48, 52, 56, 67, 105.
*кане́ц* 8, 16, 26.
*клат* 1. *кладня́* 6. *кладні́к* 19.
Адзінкавыя: *бок* 41. *стох* 88. *засі́к* 108. *засі́ка* 109.
Адведзены: *ток* 31. *тырпа́* (частка застаронка ад сахі да сахі) 44. *клёшня* 69. *галамяно́* 82. *я́рус* 86. *трысце́н* 87. *запе́ра* 110, 111.

## Карта № 226

# ЖЭРДКІ Ў ЁЎНІ

№ 369 «Я. н. жэрдкі ў ёўні, на якія ставілі снапы: цапнікі, каласнікі, пятры...»
На частцы тэрыторыі адсутнічае спецыяльны будынак для сушкі снапоў — *ёўня*. (Лексічныя сінонімы *су́шня, во́сець, асе́ць*, гл. ДАБМ, карта № 233). Для гэтай мэты часта выкарыстоўвалася лазня. Акрамя таго, снапы сушыліся ў гумне, дзе было адведзена спецыяльнае месца і рабілася прыстасаванне. На карце назва месца ў лазні ці іншым будынку і прыстасаванне для сушэння снапоў у іх не паказана. Матэрыялы з гэтых пунктаў прыводзяцца ў індэксе. Знак, які паказвае адсутнасць ёўні (—) ставіўся ў тых выпадках, калі на гэта ёсць указанне.
У 24 пункце адзначаецца, што *цапкамі* прыціскалі, а ставілі на пол. Тут, трэба меркаваць, размова ідзе аб лазні, а не аб ёўні. Невядома аб якім будынку ідзе размова ў адказе 27 і 65 пунктаў. У 65 п. пры адказе на пытанне № 370 (наступная карта), размова ідзе аб лазні. У 26 п. указваецца, што *цапкі* зроблены ў лазні.
У 48, 49а, 65, 97, 100, 102, 105, 110, 113, 130, 139 пп. адводзяцца ад картаграфа-

вання адказы, якія не заўсёды можна растлумачыць, тым больш, што няясна, у якім будынку рэалія знаходзіцца *(казлэ́, пала́ткі, подо́к, цапі́льна); азяро́д,* як іншая рэалія.

У 83 пункце слова *хлеб* разглядаецца як снапы зерневых культур *(цапкі, дзе со́дзяць хлеб).*

У 132—134, 136, 137 пп. адсутнасць адказаў разглядаецца як адсутнасць рэалій — будынкаў для сушкі снапоў. Як *цапкі* картаграфуецца *цапі́льна.*

Фанетычныя і марфалагічныя варыянты слоў на карце не ўлічваюцца.

1 *гра́ткі (снапы́ вешалі на гра́ткі).* 2 *цапкі (цапо́к снапо́ў змалаціў).* 3 *была́ во́сяць, але мы ня помнім, ставілі кругом снапы і сушылі.* 4 *жэ́рткі* (на жэ́рткі ставілі снапы). 5 *цапкі.* 6 *цапы́, цапкі, жэ́рздачкі.* 7 *цапкі, цапо́к.* 8—9 *цапкі.* 10 *снапы́ ў во́сіці падве́швалі на жэ́ркі, дух ішо́ў, снапы́ со́хнуць.* 11 *жэ́рткі (у во́сіці снапы́ ве́шалі на жэ́рткі).* 12, 13 *цапкі.* 14 *цапы́.* 15 *пол, цапкі.* 16 *кылыснікі.* 17 *каласнікі.* 18 *у ла́знях по́лкі паро́блены лён сушыць.* 19 няма, не будавалі ёўні. 20 *гумно́ без су́шні.* 22 *у некато́рых былі перэ́платы і ста́вілі на іх снапы́ кала гумна́; ёсць сахіры — на іх су́шаць картафля́нішча.* 23 *во́сець тут была толькі для сушкі лёну і пянькі, у во́сеці былі на́ры.* 24 *цапкі* — жэрдкі прыціскаць снапы, *пало́к* — на яго ставілі снапы. 25 ток без ёўні. 25а *цапкі.* 26 *цапкі* (у лазні). 27 *пала́ткі з жэ́рдак.* 28, 29 *цапкі.* 30, 31 *цапы́.* 32—37 *цапкі.* 38 *пало́к.* 40 *цапкі* — у ёўні жэрдачкі называліся. 42, 43 *жэ́рдкі.* 44 *цапы.* 45 не было ёўні. 46 *у гумне́ пала́ткі ста́вілі.* 47 ёўні не будаваліся. 48 *казлэ́. (знімі снапэ́ з казло́ў і вынясі іх на двор).* 49 *іх у нас не было.* 49а *жэ́рдкі, азяро́д быў.* 50, 51 не было ёўні. 52 ёўняў не было. 52а *у ла́зні жэ́рткі, по́лкі.* 53 *пала́ткі — жэ́рткі ў гумне́, на якія ста́вілі снапэ́, там пе́чкі не было́.* 54 *пала́ткі.* 55, 56, не было ёвень. 57 ёўні не ведаюць. 58 *гумно́ без пе́чкі, во́сяць дзе лён сушылі, ста́вілі на пало́к.* 59 ёўні не было. 60, 61 *азярод.* 62 *ёўні не было.* 63 *рышта́ванне ў лазні.* 64 *цапкі.* 65 *жэ́рткі.* 66 *не было́ су́шні.* 67 *стаўля́лі на пала́тках (жэ́рткі) у су́шні.* 68 *пало́к рабілі ў ёўні, тады́ жэ́рдачкі — снапы́ стаўля́лі.* 69 *снапы́ ставілі на цапкі (з досак), а пракладвалі цапком (жэ́рдкай).* 70 *цапкі.* 71 *жэ́рдачкі.* 72 *жэ́рткі.* 73—75 *цапкі.* 76 *цапке́.* 77 *на цапкі ставілі снапы ў ёўні.* 78 *жо́рдачкі, цапкі* (часцей). 79 *жо́рдкі.* 80—84 *цапкі.* 85 *кылыснікі.* 86 *цапкі, цапо́к.* 88 *жэ́рдкі.* 89 *цапкі.* 97 *подо́к (?).* 100 *жэ́рткі.* 102 *у одры́не наве́с з жэрдзе́й.* 104 ёўні не было. 105 *жо́рткі ў лазні.* 106 *жэ́рскі, зяро́д.* 110 *жо́ртка (у гумне́ наро́бяць жарто́к і су́шаць таба́к).* 111 *азяро́т.* 113 *жо́ртка.* 114 *не было́ су́шні у гу́мнах.* 115 *лён сушылі, ставілі на пала́ткі.* 116 *азяро́д.* 117 *рёўкі.* 118, 119 *цапкі.* 120 *рёлкі.* 120а, 121 *ро́лкі.* 122 *цопкі.* 123—127 *цапкі.* 128 *пало́к (наса́джуюць жыта на пало́к, што б сохло.* 129 *цапкі.* 130 *во́сяць (паста́вілі снапы́ на во́сяць).* 138 *каля́ гумна́ ста́вілі жіто, положілі на одзёнок.* 139 *цапі́льна* (?). 141 *жэ́рдкі (восяць наста́віць).* 142 *жэ́рдкі.*

## Карта № 227

# НАСАДЗІЦЬ У ЁЎНЮ, У АСЕЦЬ СНАПЫ

№ 370 «Паставіць снапы на жэрдкі: ёўню, асець асадзіць, насадзіць...»

На карце адлюстраваны дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне па закладцы снапоў у ёўню (асець) — спецыяльнага будынку для сушкі снапоў. На частцы тэрыторыі няма спецыяльных будынкаў для сушкі снапоў. Гэта адзначана на карце № 233 ДАБМ. У 26, 63, 65 і 105 пп. знак пастаўлены ў тых выпадках, калі снапы сушылі ў лазні.

Пры картаграфаванні не ўлічваліся граматычныя і словаўтваральныя формы дзеясловаў і іх фанетычныя асаблівасці.

*насадзіць* 1, 6—8, 10, 11, 14, 17, 28, 29, 31, 36, 37, 68, 69, 71, 73—76, 80—82, 86, 106, 116 (?), 118—120, 122—124, 126, 129. *нъсадзіць* 9, 12, 13, 15, 33, 39, 41, 83—85, 89. *нъсаджу́* 34. *нысадзіць* 16, 35, 38, 42—44, 78, 79. *наса́дзім* 40. *наса́джаваць* 77. *наса́джъваць* 5.

*пасадзі́ць* 125. *садзі́ць* 32, 83, 130. *асадзі́ць* 48, 88.

*наста́віць* 2, 4, 21, 58, 70, 110, 121, 127. *настаўля́ем* 120а. *лазню наста́вілі* 105. *настаўля́й* 21. *ста́віць* 22, 30, 63, 72. *ста́вілі* 3, 23, 26, 27. *наста́віць* 24 ( *цапкі),* 65 *у ла́зні наста́віць снапы на жэ́рдачкі,* 125, 142. *пыста́віць* 87.

Адзінкавыя: *накла́сці, зложы́ты* 97. *сцё́ляць* 100. *пове́сіць* 113. *положы́ць* 138.

## Карта № 228

# ПАЛІЦЬ У ЁЎНІ, У АСЕЦІ

№ 372 «Асець, ёўню тапіць, паліць...»

На карце адлюстраваны дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне 'абаграваць, награваць памяшканне, раскладваючы агонь у печы або прыносячы ў памяшканне жар'. Адказы ў асноўным у форме інфінітыва. У наступных пунктах яны прыводзяцца ў іншых граматычных формах: *це́плілі* 3, 18; *це́пляць* 27; *палілі* 110; *па́ляць* 66; *тапілі* 39, 57, 86; *топілі* 122.

Акрамя ёўні, асеці, сушылкі, што звычайна даецца ў адказе, у некаторых пунктах гаворыцца пра награванне лазні. Гэта адзначана ў спісе слоў.

У 21 п. зроблена заўвага інфарматара аб ужыванні слоў: *асе́ць паліць, це́пліць* (па-польску). Як *паліць* картаграфуецца *выпаліць.* Як *це́пліць* — *выцяпліць (выціпліць), аціпліць.*

*тапіць* 1, 7—17, 23, 25а, 28—31, 33—44, 57, 68, 70, 71, 73—75, 77—79, 81, 83—89, 118—120, 122, 123, 125, 126—130.

*паліць* 21, 26 *(баню),* 29 (трад.), 31, 48, 52а (лазню), 54, 58, 60 (лазню), 65 (лазню), 66 (лазню), 67 *(сушню),* 69, 72, 100, 105 (лазню), 110, 111, 115, 117, 120а, 125, 126. *выпаліць* 9.

*це́пліць* 2—6, 8 (трад.), 16, 18 (лазню), 21, 27, 63 (лазню), 64, 69, 75, 80, 82, 124, 127, 139, 141, 142. *цяплі́ць* 121. *выціплі́ць* 24. *выцяплі́ць* 76. *аципліць* 125.

## Карта № 229

# АЗЯРОДЗІЦЬ

№ 373 «Засаджваць снапы ў азярод: азярэдзіць, азяродзіць...»

Пытанне 373 Інструкцыі патрабуе выявіць абазначэнне дзеяння па закладанню снапоў у азярод. Аднак, сама рэалія *(азярод)* не прысутнічае на ўсёй тэрыторыі. Яна вядома ў асноўным сярэдняй зоне беларускіх гаворак, а таксама паўночнай групе гаворак, зрэдку сустракаецца на ўсходзе тэрыторыі, якая вылучаецца полацка-кармянскім пучком ізаглос. У заходняй зоне рэалія, за рэдкім выключэннем, адсутнічае. Тэрыторыя пашырэння рэаліі вызначаецца ў ДАБМ на карце № 234. З карты відаць, што на частцы тэрыторыі лексеме азярод супрацьпастаўляюцца лексічныя варыянты: *пярэ́плат, астро́ўкі, астраўё, дру́кі, байра́к* і інш. Гэтыя лексічныя адпаведнікі (сінонімы) вядомы паўночнай групе гаворак і гаворкам, якія знаходзяцца на тэрыторыі ўсходняга ўзмежжа сярэдняй зоны.

На данай карце картаграфуецца абазначэнне дзеяння па закладанню снапоў у прыстасаванне для сушкі незалежна ад яе назвы. Аднак, паколькі ў пытанні называўся толькі азярод, магчыма адказы не ўсюды прыводзіліся, дзе рэалія, куды закладаліся снапы, мае іншую назву. У гэтым карта няпоўная. У тых выпадках, калі рэалія называецца не *азярод (зярод),* а мае іншы лексічны адпаведнік, злева ад знака ставіцца пачатковая літара варыянта назвы азярод: *астро́ўкі* і яго варыянты — *А, пярэ́плат — П, дру́кі — Д, жэ́гіні — Ж, страўё — С.* У 83, 85, 89 пп. знак на карце пастаўлены, хаця назва рэаліі, у якую закладаліся снапы, не ўказана, а на ўказанай вышэй карце ДАБМ не адзначана прыстасаванне для сушкі снапоў і яго назва.

Граматычныя і словаўтваральныя формы дзеясловаў, якія картаграфуюцца, на карце не паказваюцца. У слове азярэдзіць улічаны словаўтваральныя варыянты: наяўнасць *а* у пачатку слова, а таксама чаргаванне *о—э* ў трэцім *(азярэ́дзіць)* і другім *(зярэ́дзіць)* складах.

Як *зярэ́дзіць* картаграфуецца *зарэ́дзіць, пазерацı́ць.*

Ад картаграфавання адведзена лексема *ты́ркаць,* якую мы адносім да экспрэсіўнай лексікі.

Знак, які ўказвае, што рэаліі няма, ставіўся тады, калі адзначаецца, што яна адсутнічае.

1 *снапы́ ў астраўё кла́лі.* 2 *пярэ́платы нада зарэ́дзіць.* 3 *на пярэ́плат кла́лі бульбо́ўнік сушыць* (злажы́ць у пярэ́плат). 4 *жэ́г'іні (у жэг'іні боп вешалі, гарох ла-*

*жылі).* 5 *удзіваць гарох у пярэплат.* 6 надзіваць віку *(гарох) у дрўкі, у пярэплата.* 7. *класці, лажыць.* 8 *астрыўё (налажылі астрыўё канюшыны).* 9 *удзіваць снапы ў пярэплат.* 10 *на жэрткі і насаджвалі снапы.* 11. *насадзіць снапы на друкі (і пра гарох, боп — друкі).* 13 *клалі ячмень у астроўкі.* 14 *у астроўкі увіраць* (навешваць) *клевір, гарох.* 16 *ува зярот нізаць гарох.* 18 *на жэг'іні кладуць канюшыну, траву сушыць.* 19 *пярэплат (у пярэплаты снапы азярэдзяць.* 20 *развешваць снапы ў пярэплаты, азярэдзіць.* 21 *зарэдзіць.* 22 *у нас перэплаты і снапы ставяць.* 23 *на азярот вешаюць.* 24 *узвугарэдзіць гарох, канюшыну (снапы не ставілі) у азяроды, азгароды.* 25 *азярэдзіць, азярэдзілі гарох, цэрадэлу, канюшыну і цяпер у пераплёты азярэдзяць.* 25а *азярэдзіць.* 26 *зярэдзіць.* 27 *азяродзіць.* 28 *зарэдзіць.* 30 *вазілі і зародзілі на пярэплат, зярэдзіць.* 31 *зярэдзіць.* 32 *азярот, вешалі сушыць траву.* 33 *вешалі на астроўкі.* 34 *нада наўраць пярэплът, ураць снапы на пярэплат.* 35 *былі астроўкі, снапы астромніць, вешыць.* 36 *на стрэўе чапляюць гарох, сушаць бульбоўе.* 37 *азяродзіць.* 38 *на зярот вешаць.* 40 *азяроды былі на гарох, на боп.* 47 *на азярэдо нізаць (але жыта ніколі ў азярэдо не нізалі, ставілі ў дзесяткі, нізалі бульбоўнік, рачыху, лубін, гарох).* 49 *у азярэдах сушылі грэчыху, бульбавеня, снапоў не ставілі.* 54 *азярэдзіць.* 57 *азярэдзіць.* 58 *снапы ў азярот азярэдзіць.* 59 *азярэдзіць.* 61 *азяродзіць.* 63—65 *азярэдзіць.* 66 *азярэдзіць снапэ ў азярод.* 67 *заазярэдзіць снапы (азяродаў даўно няма).* 68 *азярэдзіць* (азярот азярэдзілі). 69 *трэба снапы азярэдзіць.* 70 *азярэдзіць.* 71 *азярэдзіць (наазярэдзіў цэлы азярот).* 72 *азярэдзіць.* 73 *здесь было стрыўё — прымітыўны від азярода: на сукаватыя ствалы ёлкі клалі жэрдкі, стрывіць — насадзіць стрыўё.* 74 *зярэдзіць.* 75 *павешаць на азярод.* 76 *азярэдзіць.* 77 *снапы ў азярод трэба азярэдзіць, снапы тыркаць у азярод.* 83 *насадзіць.* 85 *нысадзіць снапы.* 87 *азяродзіць.* 89 *зыкладаць снапы.* 100 *азярэдзіць.* 101 *озярэдзіць.* 105 *азярот, азярэдзіць.* 106 *озярэдзіць.* 111 *азяродзіць, вешаць снапы.* 112 *пазерацідь жыто.* 115 *азярэдзіць.* 116 *азярэдзіла жыта.* 117 *азярэдзіць.* 118 *азярэдзіць, заазярэдзіць,* 119 *азярэдзіць, азерадзіла.* 120 *азяредзіла снапу.* 120а *зяродзіць, затыкаць.* 121 *зярэдзіць.* 123 *азяродзіць.* 134 *вешаць снапы на строў.* 136 *озеродзіць,* 138 *озерод, (поставіць наўкос снопы ў озерод).* 140 *закладуваць (пазакладувай снапу ў азярод).*

## Карта № 230

# АБІВАЦЬ (ПРА ЖЫТА)

№ 365 «Жыта на насенне аббівалі, калацілі...»

Дзеясловы, што абазначаюць дзеянне па абмалоту зерневых на насенне, картаграфуюцца без уліку формы, у якой яны падаюцца.

У 53 п. зроблена заўвага аб дыферэнцыяцыі абазначэння дзеяння пры абмалоце жыта і лёну: *лён абіваюць, а жыто накалаціць трэба.* Картаграфуецца толькі дзеяслоў, які абазначае абмалот жыта.

У 96 п. дыферэнцыруецца абазначэнне дзеяння па абмалоту снапоў у залежнасці ад прызначэння: *колотылы на насенне, после молотылы, пырымолочувалы.* Пры картаграфаванні ўлічаны толькі дзеяслоў *колотылы.* У 99 п. указваецца, што *жыто малацілі, а на семяно адвейвалі зярно.*

*аббівалі* 1, 4, 7, 10 (даўней), 14, 16, 29, 32, 35, 36, 38, 40—44, 66, 79, 81, 82, 84, 86, 89, 106, 122—124, 135 (рэдка). *абівалі* 2, 5, 6, 8, 13, 20, 21, 25а, 26—31, 33, 34, 37, 49а, 55, 56, 58, 68—71, 73—75, 76 (аб калоду), 77, 80, 87, 101, 110, 116, 120—121, 125 *(пранікам),* 126, 127, 129, 141. *обівалі* 117, 118, 133, 138. *обывалі* 90. *обывалы (об бочку)* 108. *аббіваць* 15, 17, 39. абіваць 11, 22, 23, 50, 52а, 72, 130. *аббіваюць* 85. *абіваюць* (лён) 53. *абабівалі (на два бокі)* 93. *білі (снапы аб драбіну)* 19. *набіваць* 24. *наабіваць* 25. *адбіваць* 88.

*калацілі* 53 (жыто) 54, 57, 59, 61—65, 93, 100 (калі адзін сноп быў), 115, 125. *кълацілі* 9, 12. *колоцілі* 107. *колотылы* 94а, 95 *(не толькі цэпам),* 96, 97, 103. *калоціць* (сноп) 18. *калоцяць* 46 *(жыто) накалаціць* 53. *акалачваць* 142. *околочвалі* 94, 114. *апкалочваць* (сноп) 46.

*малацілі* 31, 49, 51, 52, 54, 60, 67, 76 *(цэпам),* 99, 104, 111, 118, 119, 125 *(цапамі),* 128, 129 *(цапамі),* 135 *(цапамі),* 139, 141, *мылацілі* 42, 78, 79, 89 *(у цапы),* 100 *(калі многа). мълацілі* 83. *молоцілі* 102, 107, 113, 133, 137, 140. *молотылі* 90—92. *молотылы* 95 *(тольки цэпам),* 96а, 108 *(цэпам),* 109, 131, 132. *малаціць* 45, 47, 48, 112, 142 *(цэпам). молоціць* 136. *мулутэтэ* 98. *молоцицца (на штыры бокі)* 93.

Адзінкавыя: *блошкаць* 3. *абсцёбаваці* 14. *кулусуватэ* 98 *обмолочваць цэлый сноп, не развязваючы яго, не выбіваюць усё зерне, калі кулусуюць. колосовалі* 134.

## Карта № 231

# АЧЫШЧАЦЬ АБМАЛОЧАНАЕ ЗЕРНЕ МЯТЛОЙ

№ 374 «Аб працэсе аддзялення дробнай саломы і каласоў ад зерня пасля малацьбы: мятлой вычыняць, націраць...»

На карце адлюстраваны варыянты слоў, якія абазначаюць дзеянне па ачыстцы змалочанага збожжа ад каласоў і саломы. Пры картаграфаванні ўлічаны прыстаўкі ў словах. Усё гэта паказана знакамі. Не ставіцца спецыяльны знак у тых выпадках, калі слова не абазначае канкрэтнае дзеянне. Напрыклад, такія агульныя лексемы, як *ачышчаць.* Матэрыял гл. у індэксе да карты.

Як *змятаць* картаграфуецца *змятляць, аматаць, абметаць, зметаць;* як *сченяць* — *чыніць, чынілі, почынім.* У 121 п. на наш погляд прыведзена экспрэсіўная форма. У 141 спецыяльнай мы лічым толькі лексему *націраць.*

Граматычная форма дзеяслова на карце не ўлічвалася.

Адведзены ад картаграфавання дзеясловы *веіць, каласаваць, выграбаць.*

1 *нады абмясці мятлой.* 2 *нада пераграбсці граблямы каласы, саломку, нада змятляць і мякіну аддзяляць.* 3 *з акалота змецены змяталі.* 4 *змясці мятлой.* 5 *вымітаць мятлой.* 6 *мятлой зчышчаць, змітаць.* 7 *сціраць.* 8 *нада сціраць мятлёй мякіну, каласы // зганяць каласы, мякіну.* 9 *вотраны змітаюць ілі въграбаюць, а тады мятлой спускаюць.* 10 *змітаць мятлой салому і каласкі.* 11 *мятлой вычыняць.* 12 *вычыняць.* 13—15 *сціраць мятлой.* 16 *цыніць.* 17 *змітаць.* 18 *вымятаць мятлой.* 19 *мятлой змясці.* 20 *венікам змесць.* 21 *каласы змятаць.* 22 *мятлой каласкі змятаць,* 23 *каласы зганяць.* 24 *сагнаць мяцёлкай каласкі.* 25, 25а *змятаць.* 26 *вымятаць.* 27 *змятаць.* 28 *мятлой зганяць.* 29 *націраць.* 30 *мятлой націралі.* 31. *націраць.* 32 *мятлой сціраць.* 33 *згъняць салому, късасы.* 34. *згъняць.* 35 *ныціраць.* 36 *націраць.* 37 *мятлой вотрыны змесці.* 38 *ныціраць.* 39 *згыняць, шчышчаць.* 40 *вотрыны сыгнаць, атдзяліць после саломы.* 41 *згъняць саломку мятлой.* 42 *мелыч ету выбіраіш мятлой.* 43 *ныціраць.* 44 *ныціраць мятлой.* 45. *вычыняць.* 46 *у рэшаце вычынялі і змахвалі, у гумне адвявалі веялкай.* 47 *венікам вычыняць, жыто спярша венікам вычыняюць, а после ўжэ веюць.* 48 *зганяць мятлой.* 49 *мятлою змяталі.* 49а *мятлой счыняць.* 51 *амеці мятлой вычынялі.* 52 *мятлой абмятаць.* 52а *змятаць салому.* 53 *выграбаць амеці.* 54 *вычыняць саламянай мятлой.* 55 *выграбаць граблямі.* 56 *мятлой абмяталі.* 57 *мятлой змяталі.* 58 *абметаць, зметаць. каласкі венікам.* 59 *мятлой змятаць.* 60 *мяцёлкаю вычыняць.* 61 *счыняць.* 62 *мятлой вычыняць.* 63 *змяталі.* 64 *змятаць.* 65 *змятаюць.* 66 *падмятаць мятлою.* 67 *мятлой зметалі каласы.* 68 *вычыняць.* 69 *трэба саломку выграпці.* 70 *мятлой абмятаюць.* 71 *змятаць.* 72 *мятлой зметалі.* 73 *націраць.* 74 *зганяць, націраць.* 75 *зганяць.* 76 *мятлой націраць.* 77 *змяталі мятлой і граблямі, а ўвесь працэс называлі сціраць пірог (пірог — змалочана збожжа).* 78 *ныціраць.* 79 *ныціраць, згыняць (работа ручная).* 80 *змітаюць (мятлой).* 81 *мятлой націраць.* 82 *націраць.* 83 *ныціраць мятлой.* 84, 85 *ныціраць.* 86 *мётламі націраюць.* 87 *змітаць мятлой.* 89 *аддзіляць салому.* 90 *колосце выгрыбатэ.* 92 *вычыняты мятлою.* 93 *вычыняці.* 94 *метлой вычыняті.* 94а *шчыняты жыто (граблямы).* 95 *шчыняты (граблямы).* 96 *вычыняты.* 97 *згонеты.* 98 *граблема згрібаемо, метлою честимо.* 99 *мятлой вымятаем.* 100 *мятлою замяталі.* 101 *метлой змесці солому.* 102 *граблямі шчыняці, я ўжэ шчыніў жыто.* 103 *шчыняты граблямы.* 104 *мятлою зметаць.* 105 *шчыняць.* 106 *зметаць мятлою каласкі.* 107 *шчышчаці, колосоваці.* 108 *пэрэвэсты жыто.* 109 *шчыняты.* 110 *шчыняць мятлой.* 111 *абмятаць каласы.* 112 *абмятаць.* 113 *метлою шчініць колос с зернят.* 114 *метлой шчыняць.* 115 *мятлой змятаць.* 116 *метлой вычыняць каласы, салому.* 117 *почынім жыто.* 118 *націраць.* 119 *мятлой зганяюць мякіну, аціру.* 120 *мятлой зганяць колас.* 120а *чынілі мятлой.* 121 *шугалі мятлой па верху зярна.* 122 *мятлой счыняць.* 123 *мятлой змітаць.* 124 *змятаць.* 125 *націраць, шчышчаць.* 126, 127, 129, 130 *націраць.* 131 *шчынеты.* 132 *шчыняты.* 133 *метлой зметаць згоніны.* 134 *шчыняць.* 135 *збіваць каласы.* 136 *шчыніць мятлою.* 137 *трэба з жыта*

*згоняць згоніны.* 139 *мятлой абганяць, каласаваць.* 140 *збіваць.* 141 *мятлой націраць, а потым лёгенька змятаць, зганяюць.* 142 *мятлой націраюць, а потым веяць рукамі.*

## Карта № 232

# КАЛАСАВАЦЬ ЯЧМЕНЬ

№ 375 «Аб працэсе абмалоту, аддзялення зерняў ад восцяў, пераважна ячменю: пойсаваць, пайсаць, каласаваць, пукаць...»

На карце ўлічаны спецыяльныя лексічныя варыянты абазначэння працэсу аддзялення асцюкоў у ячмені. Не картаграфаваліся наступныя запісы: *веяць, сціраць, зганяць, ветрыць, патоўч, перамялываць,* якія называюць іншыя працэсы. Адведзена ад картаграфавання лексема *малаціць,* якая таксама не з'яўляецца спецыяльным тэрмінам, а абазначае агульную назву малацьбы збожжавых. Прычым у асобных пунктах гэта слова адзначана побач з тэрмінам, які абазначае канкрэтны працэс апрацоўкі ячменю.

Граматычная форма слова, яго рэгулярныя фанетычныя асаблівасці пры картаграфаванні не ўлічваліся.

У 136 пункце не ўлічаны адказ *пойсаць.* Хутчэй за ўсё тут зроблены запіс не ад мясцовага жыхара, таму што на прылягаючай тэрыторыі гэта слова нідзе не зафіксавана, а пашырана яно на супрацьлеглым арэале.

*каласаваць* 23, 26, 27 45, 49а—51, 53—72, 76, 99, 100, 104, 105, 110, 111, 115—124, 126, 127, 130, 141. *кылысываць* 43, 85. *колосоваць* 101, 106, 113, 114, 133, 140. *колосоваць* 107, 134. *колосоваці* 94, 102 *(кынчыкі адбіваці). колосоваты* 90, 91, 94а—97, 103, 108, 109, 131, 132. *кулусоватэ* 98. *каласуюць* 77.

*пойсаваць* 3, 5, 8—11, 24, 25а, 28, 29, 47—49, 57. *пойсываць* 7. *поясаваць* 1 *(нады ячмень поясаваць, была такая качулка здзелана),* 25 (традыцыйнае вымаўленне). *пойсаць* 2, 6, 18—21, 52, 136. *пойсаяць* 22. *пойсавалі* 52а.

*пукаць* 14, 15, 17, 39, 79, 88. *пукыць* 44, 84. *апукываць* 83.

*апіхаць* 34—36, 38, 73, 75, 78, 81. *піхаць* 83.

*па мякішу* 13 *(малацілі па мякішу). пу мякішу* 16. *пу мякіту* 12. *пу мякіня* 12.

Адзінкавыя абазначэнні: *бічаваць* 1 *(адбіваць акоту (восці) ад зірна). пабіць* 16 *(вусы пабіць) адбіваць* 17 *(адбіваць ад вось). пухаваць* 74. *бічаваць* 77. *аббіваць вусы* 86. *вусы аддзіляць* 89. *прыбываты остякі* 90. *біць* 112.

Адведзены: *малаціць* 30. *малацілі* 46. *веяць* 31, 128, 139, 142. *веіць* 37, 83, 85. *веюць* 80. *сціраць* 32. *зганяць* 33, 41. *патоўч* 82. *перамялываць* 86. *абмалочваць* 135. *пойсаць* 136. *ветрыць* 138.

## Карта № 233

# РУЧНАЯ ВЕЯЛКА

№ 377 «Я. н. драўляны савок, якім веялі ўручную: веялка, савок, лапатка...»

Картаграфуюцца лексічныя варыянты назвы ручной веялкі без уліку словаўтваральных і фанетычных асаблівасцей слоў. Выключэнне складае лексема *веялка,* дзе паказана змена *л — н* у аснове.

*веялка* 1—3, 5, 7—11, 14, 18—21, 23—27, 30, 31, 36, 45—48, 49а—59, 61, 63—72, 74, 76, 77, 93, 102, 104, 105, 110—113, 115—117, 120, 121, 122, 124—127, 133, 134, 139, 141, 142. *веелка* 94, 114, 137, 140. *веілка* 6, 12, 13, 28, 29, 33—35, 38, 73, 75, 78, 106. *віялка* 92, 94а, 95, 98, 103, 108, 109, 132. *веялачка* 62.

*веянка* 60, 99, 135, 136. веенка 107.

*веяшка* 100.

*лапатка* 17, 37, 80, 118, 123, 125, 129, 130, 133 (рэдка), 141. *лопатка* 138. *лупатка* 43, 88. *лыпатка* 44. *лапатачка* 81, 82, 86, 120а, 128. *лъпатъчка* 39, 41. *лыпатычка* 40, 87, 89. *лыпатычкый* 42. *лыпатачка* 32, 85. *лыпатъчка* 83. *лупатъчка* 84. *лупатычка* 16, 79. *лапата* 119.

*шуфаль* 4. *шухля* 15. *шофля* 91. *шуфеляк* 22. *шуфлік* 53. *шуфельчык* 29. *шупля* 49. *шопля* 90, 96а, 131. *шipля* 97. *шопылька* 96.

*савок* 31, 37, 40, 42, 53, 57, 75, 79, 80, 85, 88, 125.

*лоток* 101.

## Карта № 234

# АДНО ЗЕРНЕ

№ 379 «Я. н. адно зерне: зярнё, зярнюк, зерне...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў аднаго зерня і акцэнталагічныя варыянты слова зерня *(зярно і зерне).*

*зярно* 7, 12—15, 16 *(зяронушка),* 17, 31—34 *(зірнятка),* 35—39, 40 *(зірнятка),* 41—44, 73—75, 77—89, 116, 118, 122, 124, 127, 128, 129 *(зярнятка),* 130. *зерно* 101, 117. *зырно* 91. *зэрно* 92.

*зярнё* 2 *(зернятка),* 3, 18—26, 28, 57 *(зярнётка)* — 59, 64 *(зярнётка),* 70 *(зярнётка).*

*зярня* 45—56, 60—63, 65, 99, 100, 104, 110.

*зэрнюк* 108, 109. *зырнюк* 132.

*зерня* 27, 66—69, 71, 72, 76, 105, 106, 111, 112, 115, 119—121, 123. *зерне* 107, 113, 114, 120а, 133—138, 140, 142. *зэрне* 90, 93—97, 98 *(зэрнятко),* 102, 103. *зэрня* 131.

*зерніта* 1, 6, 8, 8а, 29, 30. *зернета* 4, 5, 9—11, 120а.

*зярёнушка* 16.

*бубка* 125, 126, 128, 141.

## Карта № 235

# АДБОРНАЕ ЗЕРНЕ

№ 378 «Я. н. зерне найвышэйшай якасці, якое адлятае найдалей пры веянні: чало, брыжчык...»

На карце паказана лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў зерня найвышэйшай якасці, якое адлятае найдалей пры веянні.

У н. пп. 94, 107, 113 знак пастаўлены на аснове матэрыялу, які прыводзіцца у дысертацыі Л. П. Выгоннай «Палеская земляробчая лексіка (тыпалагічная і арэальная дыферэнцыяцыя)», 1969, гл. карту на с. 196; у н. пп. 49 і 100 знак *(чало)* пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (5, 1986). Як *пяршак* картаграфуецца *пярвяк,* як *першае — первае,* як *семянное — сяменнае.*

Назвы *адборнае жыта, адборнае насенне* і *адборнае зярно* картаграфуюцца як *адборнае,* назвы *первае зярно, первае жыта, першае жыта* — як *першае,* назвы *буйнае зярно, буйнае жыта, буйнае несенне* — як *буйнае,* назвы *добрае зярно, добрае жыта* — як *добрае,* назвы *крупнае зярно, крупнае жыта* — як *крупнае,* назва *пярвяк* картаграфуецца як *пяршак,* назва *харошае зярно* — як *харошае,* назва *семянное жыта* — як *семянное,* назва *сартавое зярно* — як *сартавое.*

*адборная* 68, 71. *адбірнэ* 90, 96, 97. *адборнае зярно* 31, 36, 54, 57, 61, 64, 80, 88, 104, 113, 115, 119, 141, 142. *адборнае зерне* 120а, *адборнаё зярно* 30. *адборная зярно* 10, 11, 59. *адборныя зярно* 78. *адборная зерне* 68, 71. *адборная зярня* 65. *адборное зерне* 133. *адборна зерня* 46. *атборная зярно* 111. *отборныя зярно* 89. *отборнэ зырно* 91. *одборное насенё* 62. *одборно насенё* 50, 55. *адборная жыта* 4. *адборно жыто* 47. *адбурнэ жыто* 94а. *одбюрнэ жыто* 96а, 108. одбірнэ зірно 97.

*чало* 3, 19 *(чало далёка ляціць),* 20, 37, 39, 48, 49, 51, 53, 58, 60, 74, 75, 82, 100, 114, 123, 126—129. *чыло* 24, 25.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *чалавое зярно* 24. *чылая жыта* 24. *чалное* 74. *чалавое зерне* 123.

*пéрад* 77. *пéрат* 66, 69, 70, 71, 76.
*перадóк* 118, 119, 120. *пірадóк* 38, 73, 75, 81.
*пярэ́дняе* 93, 94. *пярэ́дняя* 2. *пярэ́дняе* 99. *перэ́дне* 107, 113. *пярэ́днее* 134. *пырэ́днёе* 92. *пэрэ́днэ* 131. *пырэ́дне* 90, 95. *пырэ́днё* 96. *пырóдне* 103. *пярэ́дняе жыта* 23.
*перадавóе* 116. *перэдовóе* 117 (*попéрэду попáдае*).
*перэдкóвое* 136. *передкóве* 137.
*брыжчык* 41, 44.
*адбрызык* 84—86. *адбрызък* 83. *адбрызкі* 79.
Утварэнні з коранем галоў-, галов-: *головá* 108, 132. *галóўка* 17. *головыца* 109 (*сáмэ лýччэ*).
*брякі* 12, 14, 32 (*сáмый пéрвый сорт*).
*піршáк* 28. *пірвяк* 35.
*пéршэе* 102. *пéрвае* 29. *пэ́рвэ* 98. *пéрвае зярнó* 67. *пéрвае жыто* 141. *пéршэ жыто* 140.
*бýйнэе* 135. *буйнóя* 29. *бýйнае зярнó* 7. *бýйныя зярнó* 16. *бýйнаё зярня* 56. *зéрне* 45. *бýйное зярнó* 67. *бýйна зярнё* 52а. *бýйна зéрне* 138. *бýйное жыта* 6. *бýйная насéня* 52.
*крýпнае* 8. *крýпная зярнó* 71. *крýпная жыта* 1.
*дóбрае* 125. *дóбрая зярнó* 21, 22, 63, 72. *дóбрье зярнó* 8а, 11. *дóбрая жыта* 8 (*дóбрая жыта на сімянý*). *дóбрэ жыто* 107.
*харóшае* 139. *харóшэ* 94а, 95. *харóшая зярнó* 18, 59, 65. *харóшая зéрня* 121.
*семяннóе жыта* 66. *семеннóе* 101, 110, 122. *сімяннóе* 33. *сіменнóе* 5. *сямéнная* 18.
*сартавóе* 17, 141. *сыртавóе* 87. *сартавóя зярнó* 26, 27, 43, 49а. *сартавóе зéрне* 57.
Адзінкавыя: *сеўбянóя жыта* 2. *лéпшая зярнó* 22. *хлéбніца* 25а (*зярнó далéй адлятáла — хлéбніца*). *насéннаё зярнó* 34. *пéрвый сорт* 40. *сáмая вялікая* 63. *вылыко жыто* 96а. *наліпшэ жéто* 98. *лéпша зярнó* 100. *насéнное, на насéнне* 105. *пóўнае, буйнéйшае жыто на хлеп* 112. *пéрвае на касé* 124. *зярнó* 130. *вáжкае, сáмо бýйнэе* 135.

## Карта № 236

## НАСЕННЕ

№ 380 «Я. н. збожжа, пакінутае на насенне: насенне, семя, семяно...»
На карце паказаны лексіка-граматычныя адрозненні назвы збожжа, пакінутага на насенне, і перасоўванне націску ў слове семяна: *семянá* і *сéміны*.
Назвы *сеўбянóя дабрó* і *сеўбянóе* картаграфуюцца як *сеўбянóе жыта*.
*насéння* 22, 24, 25, 25а, 27—29, 46—49а, 57, 63—69, 80, 99, 100, 104, 105, 110—112, 118, 121, 122, 124, 127, 129. *насéнне* 30, 31, 74, 101, 102, 106, 120, 125, 126, 130, 133, 135—142. *насынне* 90—98, 103, 108, 109, 120а, 131—133. *насéня* 19, 20, 45, 51—54, 58—61. *насéне* 23, 116. *насéнё* 50, 55, 56. *насéнье* 107, 113, 114, 117, 134. *насéньё* 62.
*насéна* 4—6, 8а.
*семянó* 14, 17, 68. 70—73, 76, 77, 82, 115, 118, 119, 122, 127—130, 142. *семінó* 15. *семенó* 9. *сімянó* 26, 32—38, 43, 75, 78—81, 83—89.
*семянá* 1. *сіміна* 7, 8, 10—13, 16, 41, 42, 44.
*сéміны* 39, 40.
*сяўбянóя жыта* 3. *сеўбянóя дабрó* 2. *сеўбянóе* 21.

## Карта № 237

## АМЕЦІ

№ 382 «Я. н. буйныя адходы пры ачыстцы: вотрыны, ветрыны, атора...»
На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў буйных адходаў пры ачыстцы збожжа. Назва *выгрэ́бкі* картаграфуецца як *згрэ́бкі*, назва *абмéці* — як *амéці*, назвы *каласіны, колóсетко* картаграфуюцца як *кóлас*.
У н. п. 48 знак (*абмéці*) пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (1, 1979), на матэрыяле гэтага ж Слоўніка (2, 1980) знак (*згрэ́біны*) пастаўлены ў н. п. 18, знак (*згрэ́бены*) — у н. п. 22; у н. пп. 44 і 83 знак (*атóра*) пастаўлены на аснове матэрыялаў «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (Мн., 1970); у н. п. 79 знак (*атóре*) пастаўлены на аснове «Матэрыялаў да абласнога слоўніка Магілёўшчыны (Мн., 1981); у н. п. 120а знак (*аціры*) пастаўлены на аснове матэрыялаў артыкула С. Некрашэвіча «Да характарыстыкі гаворак Парыцкага раёна» — Запіскі аддзела гуманітарных навук. Працы класа філалогіі, т. 2.— Мн., 1929. С. 217); на аснове матэрыялаў «Беларускага дыялектнага слова» Л. Ф. Шаталавай (Мн., 1975) знак (*згóніны*) пастаўлены ў н. п. 107, знак (*абýраны*) — у н. п. 142.
*вóтрыны* 5, 6, 9—15, 26, 28—31, 36—38, 40—44, 73, 78, 80, 83. *вóтраны* 4. *вóтрiны* 32.
*вóтрына* 1, 2, 7, 8, 16, 17, 33—35, 39. *вóтрьна* 8а. *вóтріна* 39.
*амéці* 49—51, 52а, 54—56, 59—62, 64—67, 99, 100, 104, 105, 110, 111. *амéцці* 112. *омэ́ці* 93, 94, 102. *омэ́цці* 101. *омэ́ты* 94а, 95, 103. *омэ́тэ* 98. *омэ́цы* 106. *умéцця* 24, 25а, 27, 68, 69. *абмéці* 48. *обмэ́ты* 108, 109.
*аціры* 70—72, 74, 76, 120а.
*аціра* 75, 77, 81, 82, 118, 119, 128, 129. *аціря* 87.
*атóра* 44, 83, 84, 86, 89, *атóря* 85, 88, 89. *атóре* 79.
*згóніны* 107, 113, 114, 134. *згóныны* 90—92, 96, 96а, 97, 131, 132.
*згрэ́біны* 3, 18. *згрэ́бены* 22.
*згрэ́пкі* 21, 23. *выгрэ́пкі* 58.
*пазáдкі* 116, 120. *позáдкі* 122, 136. *пазáткі* 57.
*пазáддзе* 130. *пазáддзя* 57, 120а. *позáддзе* 107.
*абýрыны* 124, 126, 127. *абýраны* 142.
*кóлос* 117, 135, 137, 139. *каласы* 25, 52. *каласіны* 19, 20. *колóсетко* 133.
*каласнік* 2 (*давáлі каласнік карóвам*).
Адзінкавыя: *аціярóшкі* 52. *атхóды* 115. *палóва* 121. *кóсці* 123. *околóт* 138 (*привéзлі ўже околóт корóвам*). *полóва* 140. *атхóды* 141.
Адсутнасць назвы: 45, 46, 53, 59.

## Карта № 238

## МЯКІНА

№ 381 «Я. н. дробныя адходы пры веянні: мякіна, смецце, палова...»
На карце паказаны лексічныя адрозненні назваў дробных адходаў пры веянні. У н. пп. 139—142 знак (*палóва*) пастаўлены на аснове адказаў на пытанне № 387 «Інструкцыі..»
*мякіна* 1—89, 99—101, 104, 105, 110—112, 115—119, 120а, 123, 127—130, 135, 140—142. *мекіна* 114, 122, 136, 137. *м'якіна* 109, 113, 114, 133, 134. *м'екіна* 114. *мнякына* 94а, 95, 108, 132. *макіна* 93. *мыкына* 103. *мэкіна* 94, 102, 106, 107.
*палóва* 119—121, 124—127, 129, 139—142. *полóва* 90, 91, 93, 96, 96а, 97, 136, 138. *пулóва* 92, 98.

## Карта № 239

# ПАЗАДДЗЕ

№ 384 «Я. н. адходы з насення траў: пустазелле, зяло, паслед, шушпіца...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў адходаў з насеннем траў. Адным знакам картаграфуюцца ўтварэнні паслéд і апаслéд. Назвы *азáддзя, азáткі, пазáткі* і *азáдлівае зярня́* картаграфуюцца як *пазáддзе.*

На аснове адказаў на пытанне № 382 «Інструкцыі...» знак *(паслéд)* пастаўлены ў н. пп. 46 і 60, на аснове адказаў на пытанне № 381 знак (адпаведна: *паслéд* і *апаслéд)* пастаўлены ў н. пп. 45 і 91, на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (3, 1982) знак *(паслéд)* пастаўлены ў н. п. 56, на аснове матэрыялаў «Беларускага дыялектнага слова» Л. Ф. Шаталавай той жа знак пастаўлены ў н. п. 52.

Адводзяцца ад картаграфавання назвы, якія не маюць дачынення да тэмы дадзенай карты: *гірсá, пацяру́ха ад сéна.*

*зéлле* 3, 7, 9, 17, 21, 28, 43, 86, 133, 142. *зéлля* 6, 8а, 10—12, 14, 15, 24, 32, 33, 35, 36, 39, 41, 43, 44, 78, 81—85, 88, 89, 111. *зéлье* 23, 102, 113, 114, 117, 134, 135, 137. *зéлья* 19. *зéльё* 62. *зéля* 2, 47. *зéле* 94. *зéлё* 56. *зíлле* 90, 94—97, 103, 107—109, 132. *зíле* 98.

*пустазéлле* 88, 101, 116, 125, 130, 136. *пустазéлля* 16, 22, 25а, 30, 31, 34, 37, 42, 73, 79, 80, 85, 87. *пустазéлье* 105.

*зяло́* 26, 27, 57, 63—66, 68—72, 74—77, 81, 118, 119, 120а—124, 127—129.

*паслéт* 45, 46, 48—50, 52, 53—56, 59, 60, 62, 99, 100. *опослíд* 91.

*бузá* 67, 104, 115, 120, 126, 140, 141.

*пазáддзе* 21. *пазáддзя* 1, 38. *пазáткі* 58. *позáткі* 106. *азáддзя* 8, 13. *азáткі* 3, 4, 20. *азáдлівае зярня́* 51 *(азáдлівае зярня́ плахóе, для каня́ ішлó).*

*шу́ма* 6, 25.

*су́шпіца* 111. *су́спіца* 110.

Адзінкавыя: *шмéцця* 29. *мякíна* 40. *бэ́рла* 52. *смéцье* 93. *сóрнасць* 101. *пулóва* 131. *мякіна* 139.

Адведзены: *гірсá* 5, 29. *пацяру́ха ад сéна* 112.

Адсутнасць назвы: 18 *(у мякіну атхóдзіць),* 40 *(усё ў мякіну ідзёць травы якія сіміна́).*

## Карта № 240

# СУБАР

№ 385 «У якім значэнні ўжываецца слова субар...»

Дадзенае пытанне не было абавязковым для збору матэрыялаў, але некаторыя збіральнікі ў сваіх запісах прыводзілі слова субар і яго значэнні. На аснове гэтых адказаў і прыкладаў са слоўнікаў мы склалі карту аб пашырэнні слова субар.

У н. п. 72 знак пастаўлены на аснове матэрыялаў «Беларускага дыялектнага слова» Л. Ф. Шаталавай (Мн., 1975), у н. п. 119, 124, 129 знак пастаўлены на аснове «Матэрыялаў для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны» («Беларуская мова», 1980, вып. 8. С. 174), у н. п. 141 знак пастаўлены на аснове матэрыялаў «Дыялектнага слоўніка Лоеўшчыны» Т. С. Янковай (Мн., 1982). Слова су́барь у значэнні 'высеўкі, вотруб'і' ўжываецца ў гаворках беларуска-рускага пагранічча (гл. П. А. Растаргуеў «Слоўнік народных гаворак Зах. Браншчыны». Мн., 1973).

*су́бар* 72 (адходы збожжа, якое мелюць на корм жывёле), 73 (адходы пры веянні), 81 (адходы зерня), 88 (адходы пры веянні), 119 (сумесь збожжа, мукі), 121 (пры веянні адходы), 124 (сумесь збожжа, мукі), 127 (адходы пры веянні), 128 (адходы збожжа пры веянні), 129 (сумесь збожжа, мукі), 141 а) адходы жыта, проса ячменю; б) мука, атрыманая ад памолу сумесі ячменю і грэчкі. *субъръ* 44 (адходы пры веянні), 83 а) адходы пры веянні; б) дробныя зерні траў. *су́бырь* 85 адходы пры веянні), 87 (камбікорм). *су́барь* 79 (сумесь розных культур).

## Карта № 241

# ПАЛАЦЬ ЗЕРНЕ, КРУПЫ

№ 386 «Апалаць, палаць, палоць...»

Картаграфуецца дзеяслоў палаць у значэнні 'палаць зерне'. Асобным знакам наносяцца на карту формы незакончанага і закончанага трывання.

*палáць* 10, 18, 22, 24, 25а, 26, 28—31, 68—70, 74—77, 82, 114—118, 120а, 122, 124, 128, 129, 135, 140. *пылáць* 14, 17, 32, 33, 35, 37—44, 78, 79, 81, 83, 84, 86, 87, 89, 123. *полáті* 133. *полáть* 134.

*апалáць* 19, 23, 45, 47—55, 57—60, 62, 64—66, 71, 72, 99—101, 105, 106, 110—112, 120, 121, 127, 139, 141. *опалáты* 90, 94а, 95, 103, 108, 109, 131, 132. *ополáты* 96, 96а, 97. *апалáці* 93, 120. *опалáці* 102. *ополáті* 94, 107. *ополáть* 113. *опулáты* 92. *ополáтэ* 98.

*палóць* 1—9, 12, 13, 16.

## Карта № 242

# АПАЛУШКІ

№ 386 «Я. н. начовачкі для ачысткі зерня, круп: паланнікі, апалічы, аполкі...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў начовачак для ачысткі зерня, круп. Адзначаюцца таксама акцэнталагічныя варыянты слова апалушкі: *апáлушкі* і *апалу́шкі.* Адным знакам картаграфуюцца ўтварэнні: *палáнкі* і *апалáнкі, паланачкі* і *апаланачкі, палáннікі* і *апалáнікі.*

*палáнкі* 2, 3, 10, 11, 14, 15, 18, 24, 25а, 26, 29, 31, 33, 36, 69, 73—77, 80, 82, 117—120, 122—124. *пылáнкі* 38, 43, 44, 78, 81. *пълáнкі* 15, 83. *апалáнкі* 19, 20, 58, 116.

*палáначкі* 6, 21, 22, 25, 28, 37, 68, 70. *пылáначкі* 32. *пылáнычкі* 29, 35, 84, 89. *пълáначкі* 30. *апалáначкі* 71.

*палáннікі* 88. *пълáннікі* 34. *палáйнікі* 63. *апалáнікі* 27.

*апáлушкі* 23, 50, 51, 52—57, 59—62, 65—67, 72, 93, 99, 100, 104, 105, 110, 111. *опáлушкі* 90, 91, 94, 96а, 102, 103, *опáлукшы* 94а—98, 131. *пáлушкі* 101, 106.

*апалу́шкі* 45—49, 52, 52а.

*опáлочкы* 108, 109, 132.

*апáлінкі* 64.

*начóвачкі* 1, 4, 7, 8, 115, 120а, 121, 127—129, 135. *начóвьчкі* 5, 12, 13, 39. *начóвычкі* 16, 17, 40—42, 79, 84—87. *нъчóвачкі* 9.

*начóўкі* 107, 112, 117, 125, 126, 130, 134—142. *ночóвкі* 113, 114, 133.

## Карта № 243

# АДХОДЫ ПРЫ ПАЛАННІ

№ 387 «Я. н. адходы пры паланні: палова, палавіння, апаліны, пасейкі...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў адходаў пры паланні і акцэнталагічныя варыянты: *пáланкі, пáламкі* і *палáнкі, палáмкі, ашакí* і *áшакі.* Назва *апáлкі* картаграфуецца як *апáліны,* назва *апóлкі* — як *апóліны,* назва *ашакá* — як *ашакí,* назва *áшака* — як *áшакі,* назвы *пáламкі, пóланкі* картаграфуюцца як *пáланкі,* назвы *апалáнкі, палáмкі* — як *палáнкі,* назвы *мякíнка, мнякíнка, макíна* — як *мякíна,* назвы *пасéйкі, асéўкі* — як *пасéі,* назвы *шакóліны, ашакóлы* — як *шакóлы.* Адводзіцца ад картаграфавання назва *пасéйкі* ў н. п. 9 у сувязі з заўвагай збіральніка: *пасéйкі — калí прасявáюць рэ́шатам.*

У н. п. 4 знак *(ашакá)* пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ, (1, 1979), у н. п. 22, 24 знак (адпаведна *пасéйкі* і *пасéі*) пастаўлены на аснове матэрыялаў

*капаніца* 36, 73—77, 81, 82, 116, 118—129, 137, 139, 141, 142. *къпаніца* 37, 42, 80. *кыпаніца* 38, 78. *копаньіца* 108, 132. *копаніца* 113, 117, 134—136, 140. *капа́ч* 57. *капа́чка* 98. *копа́чка* 106.
*ця́пка* 1, 8, 9, 14, 17, 23, 28, 33, 66. *ца́пка* 4, 21, 35, 129. *тя́пка* 91, 98. *са́пка* 114, 130, 133.
*гра́са* 46. *гра́ска* 63. *гра́цка* 8а. *грасо́ўка* 62. *грацо́ўка* 27.
*капы́л* 7, 13, 14, 16, 32, 39, 40
*га́ка* 50, *га́чка* 19, 20, 51, 53—55, 57, 58, 62, 94, 99, 101, 109. *га́чак* 49а.
*клю́ка* 108. *клю́чка* 103, 131.
*сяка́ч* 48, 105. *сіка́ч* 24.
*о́сыпка* 102. *осыпа́чка* 94а, 96. *асыпа́шка* 104.
Адзінкавыя: *зубы́* 107.
Адсутнасць назвы: 41.

### Карта № 295

## ДРАЎЛЯНЫЯ ВІЛЫ

№ 477 «Я. н. вілы: а) драўляныя з двума рагамі: сахор, рагач, мач...»
Карта лексічная. Адзначаны акцэнталагічныя адрозненні (*вілкі — вілкі́*). Назва *вілочкі* картаграфуецца як *вілы, саха́р, соха́р, саха́рь, сахарэ́* — як *сахо́р, двойня* — як *дво́йні, соховіла* — як *сахавілы.*
*вілы* 1, 3—6, 8—9, 13, 16—20, 22, 24, 28, 37, 38, 40, 45, 47—52а, 54—56, 58, 59, 66, 69, 70, 75, 77, 79, 81, 83, 87—89, 93, 94, 99, 107, 113, 115, 122, 125, 128. *вілочкі* 133.
*вілкі* 2, 7, 8а, 15, 23, 25, 27, 29, 30, 34—37, 39—43, 60—62, 65, 67, 68, 75—77, 81, 85, 86, 97, 104, 112, 114, 117—119, 124, 126, 129, 135, 138—140, 142. *вэ́лкэ* 98.
*вілкі́* 114, 134. *вылкы́* 90, 92, 94а, 95—96а, 103, 108, 109, 131, 132. *вылкі́* 91.
*сахо́р* 57, 59, 63, 64, 71—74, 78, 82, 100, 103, 110, 111, 116, 120а, 121, 123, 127, 139, 141. *саха́р* 82. *соха́р* 106. *саха́рь* 120. *сахарэ́* 46, 53.
*сахавілы* 53. *соховіла* 101.
*дво́йні* 32, 33. *дво́йня* 10, 11.
*двайчакі* 20. *двойчакы́* 90, 103. *двойчякы́* 95, 96.
*рага́ч* 26, 127, 140.
*мач* 136, 137.
Адзінкавыя: *рагу́лі* 14. *раздо́р* 31. *патраса́нкі, по́трасні* 80. *падава́льніцы* 86.
Адсутнасць назвы: 12, 21, 44, 130.

### Карта № 296

## ДРАЎЛЯНЫЯ ВІЛЫ, АКАВАНЫЯ ЖАЛЕЗАМ

№ 477 «Я. н. вілы: в) акованыя жалезам для капання гною: сахавілы...»
Паказаны лексічныя і акцэнталагічныя адрозненні (акцэнталагічныя *вілкі — вілкі́*). Назва *саховы́лы* картаграфуецца як *соховіла, сахарэ, сахары́* — як *сахо́р.* Адводзяцца ад картаграфавання назвы *ска́пывіч, ско́піч, крук, крюк, кручо́к,* бо абазначаюць іншую рэалію (гл. пытанне № 478 Інструкцыі...).
*вілы* 5, 9, 14, 17, 18, 26, 31, 34, 49а, 50, 52, 55, 79, 83, 87, 93, 120, 125, 128.
*вілкі* 25, 25а, 27, 39—42, 64, 70, 74, 78, 86, 106, 110, 113, 127, 141, 142. *вэ́лкэ* 98.
*вілкі́* 102, 134. *вылкі́* 91. *вылкы́* 95, 96, 103, 109.
*сахо́р* 60, 61, 64, 66, 71, 72, 77, 105, 115, 118, 119, *сахарэ́* 54. *сахары́* 139.
*соховіла* 101, 108, 109. соховы́лы 94а.
*мач* 114, 133, 135, 138.
*дво́йні* 7, 13, 33.
Адзінкавыя: *расахавілы* 23. *двухла́пка* 99. *чацвярнікé* 99.
Адсутнасць назвы 1—4, 6, 8, 8а, 12, 15, 16, 19—22, 24, 29, 30, 32, 35—38, 43—45, 47, 49, 52а, 53, 56—59, 62, 63, 65, 67, 68, 75, 80—82, 85, 90, 92, 94, 96а, 97, 100, 104, 111, 112, 116, 117, 121—124, 126, 130—132, 136, 137, 140.
Адведзены: *крук* 10, 11, 129. *крюк* 89. *кручо́к* 69. *ска́пывіч* 88. *ско́піч* 129.

### Карта № 297

## ЖАЛЕЗНЫЯ ВІЛЫ

№ 477 «Я. н. вілы: б) жалезныя: вілы, вілкі...»
Паказаны лексічныя адрозненні. У назвах *вілкі — вілкі́* — акцэнталагічныя. Як *сахо́р* картаграфуюцца назвы *сахарэ́, сохары́,* як *вілы — віла.* Адводзіцца ад картаграфавання найменне *дра́бкі,* бо абазначае іншую рэалію (матыку з зубцамі).
*вілкі* 2, 6, 8а, 11, 12, 15, 16, 21, 23, 25а, 27, 29, 30, 34—37, 39—44, 49, 50, 53, 57, 59, 60, 64, 66, 70, 73—78, 80—82, 84—86, 106, 111—113, 115, 116, 119, 120а, 121, 123, 124, 126, 127, 130, 135, 136, 139, 141, 142. *вылкы* 131. *вэ́лкэ* 98.
*вілкі́* 102, 107, 114, 133, 138. *вылкі́* 91. *вылкы́* 92, 94а — 96, 103, 108, 109, 132.
*вілы* 1—5, 8—10, 14, 17—20, 22, 24, 26, 28, 31—33, 45—47, 49а, 51—52а, 54, 55, 61, 63, 69, 71, 79, 83, 87, 89, 93, 94, 99, 100, 107, 118, 120, 122, 125, 128, 140. *віла* 101.
*сахо́р* 58, 62, 64, 67, 68, 71, 72, 76, 104, 105. *сахарэ́* 54. *сохары́* 90.
*дво́йні* 1, 7, 8, 13, 29.
*мач* 117, 134, 137.
Адзінкавыя: *чацвярнікé* 48. *кускі* 97. *козлэ́* 98.
Адсутнасць назвы: 96а
Адведзены: *дра́бкі* 56.

### Карта № 298

## ПРЫЛАДА, ЯКОЙ СКІДАЮЦЬ ГНОЙ З ВОЗА

№ 478 «Я. н. прыстасаванне для скідання гною з воза: скопач, скапывыч, скапач, згрэбач крук...»
На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя варыянты назвы прылады, якой скідаюць гной з воза. Назва *капа́ч (кыпа́ч)* картаграфуецца як *ска́пач, зграба́ч, сагрэ́бач* — як *згрэ́бач, вылкы́* — як *вілкі.* Не ўлічваюцца граматычныя формы пры картаграфаванні назваў *крук і крукі.*
*крук* 3, 4, 6, 10, 11, 19—21, 24—27, 31, 37, 49а, 53, 57—59, 61, 66, 68, 71, 92, 110, 113, 116, 119, 123, 127, 129, 138. крюк 12, 13, 16, 17, 84—86, 88, 89, 120. *крукі* 8, 23, 52.
*кручо́к* 1, 5, 7, 8а, 9, 22, 28, 62, 63, 65, 69, 120а, 134, 142.
*ска́пач* 36, 37. ска́пыч 14, 15, 17, 29, 33—35, 38—41, 73, 80. *капа́ч* 70, 121. *кыпа́ч* 78.
*ско́пач* 2, 74, 81, 82.
*ско́піч* 77, 118, 124, 129, 130.
*ска́павіч* 30, 75, *ска́пувіч* 44. *ска́пывіч* 42, 79. *ска́пъвъч* 41.
*вілы* 47, 49а — 51, 52а (*кручкава́тыя*), 55, 87 (*наво́зныя*), 93, 94, 99, 125.
*вілкі* 64, 102, 106, 107, 111, 112, 114, 122, 127, 128, 135, 138, 141. *вылкы́* 96, 108, 109, 132.
*згрэ́бач* 67, 110, 117, 135, 139. *сагрэ́бач* 135. *зграба́ч* 46.
*згрэ́біч* 105, 126.
*драпа́ч* 60, 137.
*драпа́к* 135. *дра́пкі* 56.
*сцяга́ч* 62, 104.
*клю́ка* 103, 140.
*клю́чка* 90, 103.
*соховілы* 94а, 101.
*сахо́р* 111, 115.
*мач* 136, 138
*рага́ч* 127, 140
Адзінкавыя: *капыру́ля* 32. *ска́пыш* 43. *чацвярнікі* 48. *баго́р* 83. *цапы́* 91. *маты́ка* 100. *ро́жкі* 115.
Адсутнасць назвы: 18, 45, 49, 54, 76, 96а, 97, 98, 131.

## Карта № 299

# ЦУРКА ДЛЯ ВЯЗАННЯ СНАПОЎ

№ 480 «Я. н. прылада, якой карыстаюцца пры вязанні снапоў: кнебель, брызгуль...»
Карта лексічная. Назва *гныняль* картаграфуецца, як *кныцяль, крымбель* як *клымбэль*.
Адводзіцца ад картаграфавання назва *брызгуль*, якая абазначае калаўроцік, які сціскае вяроўку, што прывязваюць цяля, а таксама *кнэбель* (н. п. 9) у значэнні палкі, якая закручвае вяроўку, якой звязваюць фуру дроў. Не картаграфуецца і назва *кнэбель* (н. п. 99), калі яна мае іншую семантычную афарбоўку: абазначае прыладу, якая прымяняецца пры аббіванні снапоў. Таксама адводзяцца ад картаграфавання назвы *вязьмо, перавясло* (абазначаюць саламяны жгут для звязвання снапоў), *тэбель* (ад свярдла).
Наогул, на значнай тэрыторыі Беларусі, за выключэннем Палесся і часткова прылягаючых да яго тэрыторый, такой прыладай не карысталіся (згодна звестак інфарматараў). Адпаведна адсутнічае і назва такой рэаліі.
*цурка* 62, 82, 104, 105, 107, 108, 110, 112, 114, 117, 120—122, 124, 126, 127, 129, 130, 132—135, 137—140.
*кнэбель* 46, 97. *кнэбіль* 5. *кныбель* 91. *кныбіль* 41. *кныбыль* 90. *кныбэль* 96, 103.
*кныпяль* 50. *кныпэль* 108, 109. *гныпяль* 55.
*клымбэль* 93. *крымбель* 94.
*закрутка* 2, 71, 108.
*закруцень* 96, 96а.
*кіёк* 52. *кыёк* 109.
Адзінкавыя: *шпіль* 45. *шпень* 49. *заварацень* 51. *калочак* 56. *цырбулка* 65. *крутка* 67. *брысгуль* 74, *събачка* 86. *клімб* 95. *дэрэво* 98. *крампадло* 99. *кручолка* 100.
Адсутнасць назвы: 1, 3, 4, 6—8а, 10—26, 28, 30, 32, 40, 42—44, 49а, 52—54, 57—59, 61, 63, 64, 66, 68, 70, 72, 73, 75—81, 83—85, 88—89, 92, 101, 106, 111, 116, 118, 119, 123, 125, 129, 131, 136.
Адведзены: *кнэбель* 9, 29. *брызгуль* 27. *вязьмо* 31, 87. *перавесло* 47, 48. *перавясло* 60, 128, 141. *тэбель* 94а.

## Карта № 300

# РАБІЦЬ

№ 486 «Выконваць якую-небудзь работу на заводзе, у калгасе: рабіць, працаваць...»
Паказаны лексічныя адпаведнікі дзеяслова *рабіць*. У назвах *рабіць* і *робіць* адзначаецца месца націску.
*рабіць* 2, 3, 6, 8, 18—27, 30, 37, 43, 45—56, 59—66, 68—70, 72, 74, 75, 77, 81, 82, 90—106, 108—118, 120а, 121, 127, 131—138, 140.
*робіць* 1, 4, 8а, 9—11, 16, 29, 31, 32, 57, 58, 107, 122.
*работаць* 1, 5, 7—8а, 12—17, 28, 33—44, 67, 70—73, 76, 78—89, 119, 120, 123—130, 139—142
*працаваць* 9, 11, 21, 35, 46, 50, 53, 67, 71, 75, 81, 83—85, 88, 93, 102, 103, 108, 109, 118, 124, 127, 142

## Карта № 301

# ЛАДЗІЦЬ

№ 485 «Якімі словамі абазначаюць працэс рамонту: ладзіць, строіць, правіць, рамантаваць...»
Пры картаграфаванні дзеясловаў граматычныя формы не ўлічваюцца.
*ладзіць* 8а, 10, 11, 16, 29, 33, 35, 40—42, 53, 54, 59, 67, 75, 76, 79—84, 86, 88, 99, 101, 105, 110, 115, 118, 124, 127—130, 133, 136. *ладыты* 103, 109, 132, *ладзіці* 93, 94. *ладытэ* 98. *паладзіць* 25, 37, 73, 77, 120а. *поладыты* 97, 108, 109. *поладзіці* 102. *пуладыты* 92. *пыладзіць* 43. *падладзіць* 73, 104. *подладзіць* 107. *наладзіць* 32, 63. *ныладзіць* 85.
*строіць* 3, 8а, 10, 18, 37, 45, 46, 49а, 54, 59, 64, 65, 67, 68, 70—72, 74, 76, 87, 88, 114—116, 118, 119, 120а, 121, 126, 127, 129, 134, 136, 138. *пастроіць* 49, 51, 66, 69, 112, 122, 124, 135, 137, 139. *падстроіць* 104. *патстроіць* 75.
*правіць* 5, 7, 8а, 16, 21—23, 25а — 27, 30, 39, 44, 45, 47, 48, 50, 52а — 56, 58, 60—62, 79, 82, 83, 100, 114. *паправіць* 2, 4, 6, 46, 52, 57, 129. *пуправіць* 32, 38, 43. *пупраўляць* 35, 84. *направіць* 20, 24.
*чыніць* 31, 34, 70, 79. *пачыніць* 1, 8, 38, 43, 69, 78, 86, 87, 129, *пъчыніць* 12. *пъчъніць* 15. *пычыняць* 84. *пъчыняць* 13, 35. *подчыніть* 131. *пыдчыніць* 87.
*рамантаваць* 28, 52, 59 (нов.), 74, 80, 88, 119 (нов.). *ръмънтъваць* 8а. *раманціраваць* 17, 26 (нов.), 29, 36, 37, 53, 67, 75 (нов.), 82, 86 (нов.), 106, 117, 120, 123, 124, 129, 142. *раманцірувацъ* 76. *реманціраваць* 14. *ріманцірувыць* 84. *ріманцірываць* 41. *ріманцірывыць* 16, 44. *рыманцірываць* 43. *рыманцірывыць* 40, 42. *рымонтіруваты* (нов.) 95. *ръманціръвъць* 8а. *рэманціраваць* 113. *рэманцірэваць* 9. *атраманціраваць* 19, 32. *атріманцірывыць* 85.
*лапіць* 50. *пылапіць* 43.
Адзінкавыя: латаць 111.
Адсутнасць лаксемы: 96а, 125.

## Карта № 302

# ВОЗ

№ 2301 «Я. н. сялянская чатырохколавая павозка: воз, калёсы, цялега...»
На карце адлюстраваны лексічныя варыянты павозкі, а таксама марфалагічны варыянт слова калёсы (калёса). Фанетычныя адрозненні пад увагу не прымаліся. Ад картаграфавання адводзяцца словы, якія не ўказваюць на агульную назву воза, а абазначаюць асобныя яе разнавіднасці (для перавозкі леса, збожжа, снапоў і інш.: *брыка* 6. *дрогі* 16, 17. *каламашка* 66. *караван* 6. *крівалы* 83. *мыжара* 83. панарат 6. *рыскаты* 40. *тарантас* 6. *хадок* 87. *хургон* 40.
*калёсы* 1—18, 21—26, 28—35, 37, 38, 40—42, 44, 53, 59, 64, 69, 70, 73, 75—84, 86, 88, 89, 104, 115, 118, 119, 123—125, 127, 128, 130, 139, 142.
*калёса* 46, 50, 53—57, 61—63, 65—68, 71, 72, 106, 107, 110—112, 116, 120а.
*воз* 11, 23, 45—48, 49а, 50, 52, 52а, 55, 58, 59, 62, 94, 99—101, 104, 111, 113, 114, 117, 121, 122, 126, 127, 130, 131, 133, 136—140, 142. *вôз* 49, 51, 93, 105, 134, 135. віз 91, 92, 97, 98, 109, 131. *віюз* 90, 96, 103, 108. вуз 94а, 102, 132, 141. *выз* 95, 102. вез 102.
*цялега* 36, 42, 43, 83, 85, 87, 125, 129. *цілега* 39.
Адзінкавыя: *колы* 23. *павозка* 111.
Адведзены: *брыка* 6. *дрогі* 16, 17. *каламашка* 66. *караван* 6. *крівалы* 83. *мыжара* 83. *панарат* 6. *рыскаты* 40. *тарантас* 6. *хадок* 87. *хурго* 40.
Адсутнасць назвы: 60.

## Карта № 303

# КОЛА Ў ВОЗЕ

№ 2306 «Я. н. кола ў возе: калясо, кола, каток...»
На карце проціпастаўлены лексічныя назвы кола ў возе. Лексема *калясо* 50 картаграфуецца такім жа знакам як *калясо, колёсо* 114 — як *колесо*. Фанетычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся.
*калясо* 1, 2, 3, 8, 9, 14, 21, 24, 25, 31, 37, 45, 46, 50, 55, 60, 67, 68, 71, 72, 74, 76, 80, 86, 88, 99, 105, 110, 115, 117, 120, 123, 125, 126, 129, 130, 139, 142. *кълясо* 12, 15, 33, 34. *калясо* 93. *калясо* 50. *калесо* 127, 141. *колесо* 94, 101, 137, 140. *колысо* 92, 96а. *кôлісо* 90. *кылясо* 40, 83, 85, 87, 89. *кулысо* 92. *кулісо* 91.
*колесо* 94, 94а, 98 (*куліса* — мн. л.), 102, 106—109, 112, 113, 129, 133—136, 138. *колысо* 95, 96, 97, 131, 132. *колеса* 129. *колясо* 49. *колыесо* 103. *колёсо* 114.
*кола* 4—7, 8а, 10, 11, 18—20, 22—25, 25а — 30, 34, 48, 52 (*калёсы* — мн. л.) 52а, 54, 57—59, 63—65, 66 (*у калёсах*), 67, 69, 70, 116. *коло* 47, 51, 53, 54, 56, 61, 62, 100, 111, 140.
*каток* 13, 15—17, 32, 35 (*ні ў кола, ні ў мяла*), 36, 38—44, 73, 75, 77—82, 84 (*ні ў кола, ні ў мяла*), 85, 87—89, 118, 119, 120а 121, 124, 125, 128, 129, 142. *каток* 82, 127. *коток* 122.

## Карта № 304

# КАЛОДКА Ў КОЛЕ

№ 2312 «Я. н. круглая частка кола, якая аблягае восі: калодка, трубка, ступіца...»

На карце адлюстраваны лексічныя і словаўтваральныя варыянты назвы калодкі ў коле. Фанетычныя адрозненні пад увагу не прымаліся. Адводзяцца ад картаграфавання словы *абот* 33 і *букса* 133, якія абазначаюць іншыя рэаліі.

*калóдка* 45, 47, 48, 57, 59, 92, 96а, 115, 117, 120, 122, 134, 137—142. *калотка* 18—23, 25, 26, 32, 46, 49а — 56, 58, 62—64, 68, 69, 71, 99, 100. *колотка* 94. *калôтка* 49, 60, 61, 65, 72, 93, 105, 110. *калôдка* 67, 104, 135. *колóдтка* 114. *колы́дка* 95. *колу́тка* 94а. *коли́тка* 96.

*калóдзіца* 101, 102, 106, 107, 113, 133. *колóдыця* 91, 97. *кôлодыця* 90. *кулóдиця* 98.

*сту́піца* 1, 8, 10, 11, 14, 16, 27, 29, 30, 34—38, 40—44, 71, 73—79, 81—89, 118, 121, 123, 124, 126, 129, 130. *сту́пыца* 131

*тру́бка* 28, 80, 119, 120а, 127, 128, 136, 140. *тру́бпка* 70. *тру́пка* 1—9, 12, 13, 24, 29, 31, 35, 39, 74, 76, 116, 125.

*тру́біца* 15, 17. *тру́быца* 108.

Адзінкавыя: *кацёлка* 66.

Адведзены: *абот* 33. *букса* 133.

## Карта № 305

# ЗВАНЧАК У КОЛЕ

№ 2314 «Я. н. частка (сектар) кола з некалькімі спіцамі: званчак, звона...»

На карце пададзены лексічныя і словаўтваральныя варыянты званчака кола. Таксама адлюстраваны суфіксальныя варыянты назоўнікаў звон (звяно) і часць (частка). Назва *звóнік* картаграфуецца як *звон*; *званчáтка* — як *венчáк*.

*звянó* 1, 2, 12, 16—19, 22, 24, 25а, 27, 28, 37, 46, 51, 52а — 54, 60, 62, 68, 74, 77, 89, 106, 120, 122—124.

*звон* 3, 5, 6, 9, 14, 41, 50, 55, 136. *звôн* 93. *звóнік* 4.

*званчáк* 20, 23, 25, 26, 31, 45, 47, 49, 50, 52, 56, 57, 59, 61, 65, 69, 99—101, 110, 115—117. *звончáк* 94, 94а, 108, 132, 133. *звончя́к* 103.

*звоня́к* 90, 95, 96, 96а. *звонéк* 97, 131. *звуня́к* 92. *звунéк* 98.

*венчáк* 67. *званчáтка* 58.

*кусóк* 30, 35, 66, 71, 75, 81, 84, 102, 107, 111, 114, 134, 137.

*кавáлак* 102, 118, 127, 140.

*сéктар* 83, 126.

*часць* 78, 86, 113.

*чáстка* 79, 129.

Адзінкавыя: *кляк* 91. *стóчка* 109.

Адсутнасць назвы: 7, 9—11, 13, 21, 29, 32—34, 36, 38—40, 42—44, 48, 63, 70, 72, 73, 76, 80, 82, 85, 87, 88, 104, 105, 119, 120а, 121, 125, 128, 130, 135, 138, 139, 141, 142.

## Карта № 306

# ЗАГВОЗДКА

№ 2315 «Я. н. шпянёк, якім замацоўваецца кола на восі: загваздка, загвоздка...»

На карце паказваюцца супрацьпастаўленні назваў загвоздкі, а таксама марфалагічныя і акцэнталагічныя варыянты слоў. Лексемы *зáґвастка* (з узрыўным г) 52, *зáгвызда* 44, *зáгластка* 58 і *зáўвостка* 133 картаграфуюцца тым жа знакам, як і *зáгвaздка*; *шварaнёк* 45 — як *швóран*. Фанетычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся. Адведзены ад картаграфавання назвы, якія не адпавядаюць тэме карты: *гáйка* 142. *му́тра* 22, 49. *óська* 96а. *шáйба* 139.

*зáгваздка* 1—11, 13—21, 23—26, 43, 47, 48, 50, 53, 55, 56, 59, 61—87, 98—102, 105—108, 110, 112—115, 117, 119—122, 124, 126—130, 132, 134—141. *зáґвастка* 52. *зáгвыздка* 85. *зáгвызда* 44. *зáгластка* 58. *зáўвостка* 133.

*зáгвазка* 54, 57, 120а, 123, 142.

*загвóздка* 12, 88, 89, 116, 118, 125.

*зáтычка* 51, 62, 90, 91, 93—97, 103, 109, 129, 130.

*зáтыка* 60, 104.

*швóрін* 79. *шваранёк* 45.

Адзінкавыя: *колóчак* 140. *лёнка* 46. *пянóк* 92. *пярэ́тачка* 52а. *чыкá* 85. *шняп* 46. *шплін* 131. *штыль* 106.

Адведзены: *гáйка* 142. *му́тра* 22, 49. *шáйба* 139.

## Карта № 307

# ШВОРАН У ВОЗЕ

№ 2317 «Я. н. шворан у возе: шворан, шкворань...»

На карце картаграфуецца проціпастаўленне па цвёрдасці і мяккасці асноў лексемы шворан — шворань, а таксама спалучэнне зычных *шкв-* і *шм-* у корані. Фанетычныя асаблівасці пад увагу не прымаліся.

*швóран* 2—6, 9—11, 18, 19, 21, 22, 37, 38, 46, 49, 52а, 54—63, 65, 67, 70—73, 75, 76, 80, 82, 100, 110—112, 115, 116, 118, 119, 123—127, 130. *швóрън* 43. *швóрен* 14, 17, 101, 120. *швóрін* 12, 16, 39, 44, 79. *швóрын* 7, 8а, 15, 35, 66, 78, 93. *швóрэн* 81. *шву́ран* 64.

*швóрань* 1, 20, 36, 45, 47—49а, 50—53, 68, 69, 74, 77, 88, 99, 104—106, 120а — 122, 128, 129, 135—142. *швóрень* 92, 94—96, 98, 102, 103, 107—109, 113, 117, 132, 133. *швóрінь* 13, 41, 89. *швóрынь* 40, 90, 91, 97. *шву́рень* 94а. *швóрэнь* 97, 112, 114, 134, 135.

*шквóрін* 83, 85.

*шквóрэнь* 131. *шквóрінь* 87. *шквóрынь* 96а.

*шмóрын* 42. *шмóрін* 84.

*шмóрень* 86.

## Карта № 308

# ВУЗГАЛАЎЕ Ў ВОЗЕ (СУФІКСАЛЬНЫЯ ЎТВАРЭННІ)

№ 2318 «Я. н. частка воза, якая накладваецца на пярэднюю вось: вузавалак...»

На карце паказваецца супрацьпастаўленне назваў вузгалаўя. Кожнай назве адпавядае свой знак. Аднакаранёвыя словы дыферэнцыруюцца ў залежнасці ад суфікса, г. зн. розным суфіксальным дэрыватам адпавядаюць розныя знакі. Пад увагу не прымаецца характар прэфікса і фанетычная варыятыўнасць кораня. Суфіксы *-ак-* і *-ок-* у словах *суголóвак, су́волок, суволовок, озоловок, зголóвок, згуловóк* пададзены аднолькава, бо ў адзначаных назвах суфікс *-ок-* з'яўляецца варыянтам суфікса *-ак-*, што звязана з фанетычнымі асаблівасцямі брэсцкіх гаворак. Акцэнталагічная варыятыўнасць слоў *су́головак* і *паду́шка* на карце не адзначаецца.

*ву́згалаўя* 63—65, 68, 70, 71, 105. *вузгалáўе* 67, 110. *вузгалавье* 100. *вызгалóўе* 119. *вузгалóўя* 26. *вузгалóўе* 61, 62. *вузалáўё* 60. *вузавальё* 53. *узгалóўе* 31, 33, 36, 37, 74. *узгалóўя* 29, 30, 75, 78.

*узгалавáшка* 77, 116, 120, 121, 127. *згалавáшка* 117, 122, 127, 136, 142. *галавашка* 120а, 139. *суголовашка* 140. *суговашка* 140.

*вузвалак* 7, 38, 47, 54—56. *вузавалак* 45, 48, 49а, 104, 125. *вузалавак* 52а. *вузгалавак* 72. *зголóвок* 91, 92, 96а, 131. *згалóвак* 93, 96. *згóлавак* 99. *зголóвак* 90. *згуловóк* 98. *озоловок* 94. *суголóвок* 103. *су́голoвок* 94а, 102. *суголовóк* 97. *су́волок* 108, 109, 132. *суволовок* 95.

*вузгалавень* 112. *вузголовень* 107, 113. *вузґалавень* 69. *вузалавень* 59.

*паду́шка* 4, 12, 14, 17, 21, 24, 32, 43, 47, 58, 66, 80, 83—87, 116, 123, 129. *пóдушка* 50, 52, 101.

*перадóк* 46, 57, 81, 82, 106, 111, 124, 126, 129, 139, **141**. *пірадок* 16, 27, 35, 41, 42, 79, 89. *передок* 94, 113. *пэрадок* 112.
*крэ́сла* 2, 3, 7—11, 18—20, 25, 25а. *кресла* 22.
*оплень* 134, 137. *оплэнь* 114. *оплена* 138.
Адзінкавыя: *згалаваха* 141. *згалавáшак* 142. *падасёнак* 130. *падýшачка* 1. *пънърáт* 15. патклатка 129. *пярод* 46. *узгалавáшша* 28.
Адсутнасць назвы: 5, 13, 23, 34, 39, 40, 44, 73, 88, 128, 136.

### Карта № 309

## ВУЗГАЛАЎЕ Ў ВОЗЕ (ПРЭФІКСАЛЬНЫЯ ЎТВАРЭННІ)

№ 2318 «Я. н. частка воза, якая накладваецца на пярэднюю вось: вузавалак...»
Розныя назвы вузгалаўя ў возе на карце адзначаюцца рознымі знакамі. Асноўная ўвага ўдзяляецца прэфіксальнаму вар'іраванню: адна і тая ж прыстаўка слоў мае аднолькавае абазначэнне. Суфіксы пры гэтым не ўлічваюцца (гл. карту № 308). На карце таксама не адзначаюцца фанетычныя і акцэнталагічныя варыянты слоў.
*вýзгалаўе* 67, 110. *вýзгалаўя* 63—65, 68, 70, 71, 105. *вýзгалавья* 100. *вýзгалоўе* 61, 62. *вýзгалоўя* 26. *вызгалоўе* 119. *вýзавальё* 53. *вузгалаво* 115. *вýзавало* 53. *вýзгалавень* 112. *вýзголовень* 107, 113. *вузгалавень* 69. *вузалавень* 59. *вýзгалавак* 72. *вýзвалак* 38, 47, 54—56. *вýзавалак* 45, 48, 49а, 104, 125. *вýзалавак* 52а.
*узгалавашка* 77, 116, 120, 121, 127. *узгалавáшша* 28. *узгалóўе* 31, 33, 36, 37, 74. *узгалóўя* 29, 30, 75, 78. *узгалавáк* 49. *ýзавалак* 51.
*сугалоўя* 76, 118. *суголóвок* 103. *сýголовок* 94а, 102. *суголовóк* 97. *сýволок* 108, 109, 132. *суволовок* 95. *суголовáшка* 140. *суговáшка* 140.
*згалóвак* 93, 96. *зголóвок* 91, 92, 96а, 131. *зголóвак* 90. *згулóвок* 98. *зго́лавак* 99. *згалавашка* 117, 122, 127, 136, 142. *згалаваха* 141. *згалавашак* 142.
*галавáшка* 120а, 139.
*падýшка* 4, 12, 14, 17, 21, 24, 32, 43, 47, 58, 66, 80, 81, 83—87, 116, 123, 129. *пóдушка* 50, 52, 101.
*перадóк* 46, 57, 81, 82, 111, 124, 126, 129, 139, 141. *передóк* 94, 133. *пірадóк* 79, 89. *парадóк* 106. *пэрадóк* 112.
*крэ́сла* 2, 3, 6, 18—20, 25, 25а. *крéсла* 22.
*оплéнь* 134, 137. *оплэ́нь* 114. *оплéна* 138.
Адзінкавыя: *озоловок* 94. *падасёнак* 130. *пънърáт* 15. патклатка 129. *пярод* 46.
Адсутнасць назвы: 5, 13, 23, 34, 39, 40, 44, 73, 88, 128, 136.

### Карта № 310

## РУЧКІ Ў ПАДУШЦЫ ВОЗА

№ 2319 «Я. н. планкі, да якіх прымацоўваюцца драбіны воза: шчаблы, друкі...»
На карце супрацьпастаўлены назвы ручак у падушцы воза і іх акцэнталагічныя варыянты. Адведзены ад картаграфавання назвы, якія не адпавядаюць тэме карты: *аглабíны* 61. *глабíны* 101. *грáткі* 5, 17, 123. *драбíнка* 120. *жóрткі* 38, 39, 44, 84. *ляжáйкі* 23, 36, 52. *нáмаражні* 1. *падýшка* 89. Лексема *блáнка* 127 картаграфуецца як *плáнкі; білкі* 57 — як *білы; друк* 136 — як *дрýкі; ляскі* 74 — як *лёсткі.*
*рýчкі* 2—4, 6—8, 9—11, 18—22, 24—27, 29—31, 34, 35, 46, 47, 49, 49а, 51—52а, 54, 56, 59, 60, 62, 65, 66, 69, 71, 72, 75, 77, 80—82, 85—87, 94, 97, 99, 105, 107, 111, 112, 116, 119, 120а, 121, 122, 125, 126, 129, 135, 138, 139.
*ручкí* 50, 55, 90, 93, 94а — 96а, 98, 103, 108, 109, 114, 131—133, 137.
*плáнкі* 32, 33, 37, 43, 73, 78, 79, 142. *бла́нка* 127.
*білы* 63, 64, 76, 126, 140, 142. *білкі* 57.
*дрýкі* 106. *друк* 136.
*друкí* 40, 41, 83.

*пабóсні* 118. *пабóцні* 28.
*брускí* 15, 127.
*лёсткі* 67, 104, 110, 137. *ля́скі* 74.
*дзядóк* 12, 13.
*лю́шні* 91, 92.
Адзінкавыя: *дрáбці, драпчíна* 113. *кáлкі* 7. *кляпчы́нкі* 141. *нарýчыцы* 130. *паплёсткі* 45.
Адсутнасць назвы: 8а, 16, 53, 68, 70, 88, 100, 102, 115, 124, 128, 134.
Адведзены: *аглабíны* 61. *глабíны* 101. *грáткі* 5, 17, 123. *драбíнка* 120. *жóрткі* 38, 39, 44, 84. *ляжáйкі* 23, 36, 52. *нáмаражні* 1. *падýшка* 89.

### Карта № 311

## ТРАЙНЯ Ў ВОЗЕ

№ 2323 «Я. н. доўгі брус, які злучае пярэднюю і заднюю часткі воза: трайня, трайніла...»
На карце паказана лексічнае, акцэнталагічнае і марфалагічнае (суфіксальнае) супрацьпастаўленне назваў трайні ў возе. Лексема *траніло* 46, 49а картаграфуецца як *трайніла; свынятло* 109 — як *сінятла; свердлішчэ* 101 — як *свéрдла.* Ад картаграфавання адведзены словы *грякі* 14 і *хвост* 87, якія абазначаюць іншыя рэаліі.
*трайня́* 1—3, 6, 7, 8а — 13, 15—17, 19, 23, 24, 26, 27—44, 53, 54, 56, 57, 61—78, 81—86, 89, 100, 104, 105, 110—112, 115—120, 122—124, 126, 127, 129, 130, 135, 136, 139, 141, 142. *тройня́* 102. *трыйня* 80, 87.
*трóйня* 106, 107, 123.
*трайнíла* 46, 49а, 50, 52, 52а, 79, 88, 93, 99. *транíло* 46, 49а.
*развóра* 95, 97, 98, 102, 103, 108, 137, 138. *рузвóра* 92.
*развóрка* 45, 49, 51, 55, 90, 91, 93, 96, 97, 131.
*дышаль* 18, 22, 24, 25, 31, 48, 53, 58, 60, 94, 120а, 122, 126, 132, 135, 140.
дышла: *дышло* 125.
*дышлó* 121.
*правíло* 114, 133, 134.
*сыня́тло* 95. *сынэ́тло* 97. *свыня́тло* 109.
*жэ́рдка* 20, 47.
*дронк* 21, 59.
*свéрдло* 96. *свердлíшчэ* 101.
*падгэ́рац* 80. *падгéйсцер* 128, 141.
Адзінкавыя: *карытка* 20. *кол* 54. *развот* 4. *рубéль* 129.
Адведзены: *грякі* 14. *хвост* 87.

### Карта № 312

## ПАСТРОНКІ

№ 2329 «Я. н. пастронкі: пастронкі, пастромкі, гужы...»
На карце паказана лексічнае і марфалагічнае супрацьпастаўленне назваў пастронак. Цяжкасць картаграфавання гэтай рэаліі заключалася ў недакладнасці пытання праграмы, а таму ў адказах адзначаўся як дыферэнцыяльны падыход да паралельных назваў, так і недыферэнцыяльны. Пры картаграфаванні ўлічваліся ўсе адказы. У тых пунктах, дзе на карце нанесены дзве-тры назвы (*гуж, пастронкі*), звычайна *гуж* выкарыстоўваецца ў хамуце пры запраганні каня ў падводу, *пастронкі* і *цягі* — пры аранні, баранаванні поля (акрамя адказу ў н. п. 52а, дзе *пастронкі* выкарыстоўваюцца пры запраганні ў падводу, *гужы* — пры аранні). Лексема *стрóмкі* 85 картаграфуецца як *пастрóнкі; гýжкі* 40 — як *гужы; ужы* 19, 20, *ýжва* 20, 52 — як *вужы; цягі* 128 — як *цягі.*
*пастрóнкі* 3, 8, 10, 14, 17, 18, 21—23, 25а — 27, 29—35, 45—57, 59—72, 74, 75, 81—84, 87, 90, 91, 94—103, 105—108, 117, 119, 120, 123, 124, 131—133, 135. *пастрíнкі* 93. *пастрýнык* 78. *пустрóнкы* 92. *пастрóмкі* 9, 65, 85. *патстрóнкі* 29. *стрóмкі* 85.
*пастарóнкі* 96а, 120а, 121, 126—130, 134, 136—142.
*гужы́* 1, 3—13, 15, 16, 25, 25а, 32, 34—36, 39—45, 52а, 53, 58, 61, 67, 71, 73, 75, 76, 79—82, 84, 88, 89, 104, 118, 122, 124, 125, 128, 139, 141, 142. *гужкі* 40.

*вужы* 46. *ужы* 19, 20. *ўжва* 20, 52.
*цягі* 37, 75, 77, 81, 82, 89, 118, 119, 123, 124. *цягі* 128.
*цяжкі* 85, 86, 87.
Адзінкавыя: *шлеі раменныя із вяровак* 2. *нáтчапкі* 28.

**Карта № 313**

## ГАЛОЎКІ Ў ПАЛАЗАХ

№ 2334 «Я. н. загнутая частка палазоў: скорсы, галоўкі...»
На карце адлюстравана лексічнае і марфалагічнае супрацьпастаўленне назваў загнутай часткі палазоў. Словазлучэнні *гнутыя полазы* 141 і *палазы-гнёнікі* 57 картаграфуюцца як *палазы; зголóвкы* 96а — як *галóўкі; скóрчень* 132, *вýскоротні* 133 — як *скóрчні; ніс* 92 — як *насы́*. Адводзяцца ад картаграфавання назвы *вя́ззе* 129 і *уя́ззе* 142, якія абазначаюць іншую рэалію.
*галóўкі* 1, 4—17, 23—44, 46, 49, 54, 57, 59, 60, 62—73, 75—87, 89, 90, 104, 105, 110—128, 130, 139, 140, 142. *голóўкі* 134, 137, 138, 140. *галóўкі* 135. *зголóвкы* 96а.
*галаўкі* 49а, 51. *галаўкé* 50, 61. *голоўкы́* 96а.
*скóрсы* 94а, 96, 97, 131. *скорсê* 98.
*скóрчні* 95, 101, 132. *скóршні* 55, 56, 93, 99, 100, 102, 103, 106, 108. *скóрсні* 109. *скóрчень* 132. *вýскоротні* 133.
*ускóрсы* 25. *ускóрцы* 2, 21.
*насы́* 47, 94. ніс 92.
*ŏохты* 19, 20, 52, 58.
*палазы́* 3, 22, 52а, 139. *палазэ́* 48, 53. *палазы́-гнёнікі* 57. *палóзы* 18. *палóзья* 91. *гнýтыя пóлазы* 141.
Адзінкавыя: *абгані* 74. *ключка* 45. *перадóк* 58. *передкі* 107.
Адведзены: *вя́ззе* 129. *уя́ззе* 142.

**Карта № 314**

## ВЯЗЫ (У САНЯХ)

№ 2336 «Я. н. сувязь загнутых частак палазоў: вяз, попupрадзень, іцьвіна...»
На карце адлюстраваны лексічныя і словаўтваральныя назвы вяза ў санях. Акцэнталагічны варыянт *пóпередня* 113 картаграфуецца як *папераднá; передня́* 23 — як *пярэ́дніца; вя́ззя* 30, 32 — як *вязь; ліцьвіна* 124, 142 і *літвіна* 118 — як *віцьвіна; паперэ́чына* 1 — як *пярэ́чка; устýжына* 12 — як *устýжжа; вы́стегла* 134 — як *сцягліна*. Ад картаграфавання адведзена назва *нáморожня* 92 у сувязі з тым, што абазначае іншую рэалію.
*вяз* 1—4, 6—8, 14, 15, 36, 37, 40, 43, 47, 49, 50, 52—57, 59, 62—72, 74, 77, 79, 82, 83, 87, 89, 93, 99, 101, 104—106, 111, 115—117, 119, 120а, 121—123, 125, 126, 128, 129, 131, 138, 139, 141. *вяс* 18—27, 29, 33. *вязы́* 19—22, 28, 31, 33. *уйяз* 94, 109. *уяз* 139, 142. *віаз* 96, 102, 103, 107, 108, 133, 140. *віез* 98.
*вязь* 10, 11, 26, 78, 110. *вязі* 18. *вя́ззя* 30, 32.
*вязóк* 39, 44, 46, 73, 80, 86, 90, 97.
*пярэ́дніца* 58, 60, 112. *перéдніца* 100. *перадня́* 23.
папераднá: *попередня́* 94а. *попырыдня́* 95. *пóпередня* 113. *пóпырыдня* 132.
*пóпырыдзень* 96. *пóпэрэдзень* 114. *пóпередзень* 137.
*передóк* 107.
*віцьвіна* 15. *іцьвіна* 34, 40—42, 76, 127, 130. *йіцьвіна* 13, 29, 35, 75, 81, 84. *ліцьвіна* 124, 142. *літвіна* 118. *віціна* 136.
*пярэ́чка* 9. *паперэ́чына* 1.
*сцягліна* 120. *вы́стегла* 134.
*устýжжа* 16. *устýжына* 12.

Адзінкавыя назвы: *баранэ* 46. *вýсцузьні* 61. *вя́тліна* 85. *лісíца* 6. *надолобні* 96а. *нáдупкі* 52. *нáклескі* 51. *плáнка* 41. *плáшка* 45. *пóдушка* 45. *распóрка* 17.
Адсутнасць назвы 5, 8а, 38, 48, 88, 91.
Адведзены: 92.

**Карта № 315**

## НАМАРАЖНІ (У САНЯХ)

№ 2339 «Я. н. бакавыя планкі, якія набіваюцца на капылы: надалапкі, намаражні, намарзні...»
На карце адлюстраваны лексічныя і марфалагічныя назвы намаражняў у санях. Лексема *намържніна* 12 картаграфуецца як *нáмаржні; надолонкі* 94 — як *нáдалабкі; нáдубкі* 57, *надóвбні* 96 — як *нáдаўбкі; нáкліцка* 89, *наклíскі* 39, *нáклышкі* 141 — як *нáклестка*.
*нáмаржні* 7, 10, 11, 43, 65, 68, 70, 73, 75, 125. *нáмържніна* 12.
*нáмаражні* 1, 2, 4, 6, 8, 9, 14, 16, 20, 23, 26, 28—31, 36—38, 51, 66, 71, 74, 77, 96а, 107, 113, 114, 120а, 121, 123, 124, 130—135, 138—140. *нáмеражні* 142. *наморожні* 117. *нáмуружны* 92. *нáмаражыны* 21.
*нáмарзні* 5, 15, 24, 25а, 32—34, 40, 42, 44, 46, 47, 60, 63, 64, 69, 72, 78—82, 85, 99, 110, 111, 115, 118, 127.
*нáмаразні* 18, 19, 22, 25, 35, 49, 54, 58, 59, 62, 67, 76, 98, 108, 116, 119, 120, 122, 128, 129, 142.
*надалóбы* 94а, 100—102
*нáдалапкі* 50, 53, 55, 56, 61, 62, 90, 104—106. *надолонкі* 94.
*нáдолобні* 95, 97, 103
*нáдаўбкі* 48, 52а. *нáдубкі* 57. *надóвбні* 96
*нáклестка* 17, 84, 86. *нáкліцка* 89. *наклíскі* 39. *нáклышкі* 141.
Адзінкавыя: *аблóжыны* 27. *брýсся* 87. *глаёўкі* 45. *іцьвіны* 83. *нáбалаткі* 93. *нáберажні* 126. *нáбылкі* 91.
Адсутнасць назвы: 8а, 41, 88, 112, 136, 137.

**Карта № 316**

## ЗАВАРАЦЕНЬ (У САНЯХ)

№ 2340 «Я. н. вяроўка ці скручаны дубец, чым прымацоўваецца аглобля да саней: заверцень, заваратня, заверта...»
На карце супрацьпастаўлены лексічныя і марфалагічныя варыянты назвы заваратня ў санях. Словы *зáўрацень* 111, *зáвацень* 69 картаграфуюцца як *зáверацень; зáвірціна* 8 — як *зáверцень; зáвятня* 129 — як *зáвертня*; *зáвяртак* 121 — як *зáвертка; увярцéнь* 24, *ýвяртні* 24 — як *увёртак; зáкрутка* 4, 122 — як *зáкрутня; вýкрутні* 59, *акрутні* 8а — як *ýкрутня; драціна* 94 — як *дрот; вужвы́на* 108, *вужóвачка* 99, *ýжва* 99 — як *вужы́шча*. Фанетычныя адрозненні пад увагу не прымаліся. Ад картаграфавання адведзены назвы, якія не адпавядаюць тэме карты: *акóўка* 130. *вотóса* 138. *іншыя спосабы* 132. *не прывязваюць* 102
*зáверта* 36, 37, 42, 73, 77, 80, 82, 86, 89, 118, 123, 124, 126. *зáвярта* 76, 120а. *зáвірта* 29, 33, 35, 41, 43, 75, 78, 79, 83—85, 87, *зáверты* 119, 125. *зáвярты* 40.
*зáверацень* 71, 104, 133. *зáварацень* 30, 65, 67, 69, 110. *зáвърціні* 34. *зáвярацень* 56, 63, 66. *зáвярацянь* 60. *зáвярэцень* 62. *зáверецень* 113. *зáўрацень* 111. *зáвацень* 69.
*зáверцень* 7, 31, 116, 117, 125, 139, 142. *зáвярцень* 68, 72, 115. *зáвэрцень* 114, 138. *зáвірцінь* 44. *зáвірціна* 8.
*зáверт* 14, 17, 32, 120. *зáвірт* 12, 16, 39. *зáвярт* 13. *зáверць* 74. *зáвірть* 5.
*зáвертня* 118, 128, 134. *зáвертні* 107, 140, 141. *зáвятня* 129.
*зáваратня* 50, 61, 112. *зáваратні* 100, 105. *зáвератні* 70. *зáвяратні* 60, 64.
*зáвертка* 86, 127. *зáверткі* 86. *зáвяртак* 121. *завёрткі* 101.
*увёртак* 1, 7. *увярцéнь* 24. *ýвяртні* 24.
*акруцéнь* 2, 5, 6, 8а, 22, 23. *акрутні* 57. *укрутні* 3. *укруцéнь* 21, 58.

*закруцень* 28. *закрутень* 109. *закрутні* 20.
*закрутня* 20, 54. *закрутка* 4, 122.
*ўкрутня* 19, 25. *укрутні* 26. *укрутні* 27. *укрутні* 3. *вýкрутні* 59. *акрутні* 8а.
*вярóўка* 10, 11, 18, 45, 49, 90, 93. *вырóвка* 92.
*дрот* 45, 49а, 51, 90, 96, 98. *драціна* 94. *дротына* 95.
*матуз* 103. *мотýз* 95.
*грывянка* 47. *ґрывянка* 52.
*вужышчэ* 106. *вужвына* 108. *вужóвачка* 99. *ýжва* 99.
*калач* 135, 140.
*крук* 46, 93.
Адзінкавыя: *вулокей* 98. *голóвка* 96а. *дубец* 136. *жэлезный хомутык* 131. *завязка* 97.
Адсутнасць назвы: 38, 48, 55, 88.
Адведзены: *акóўка* 130. *вотóса* 138. *іншыя спосабы* 132. *не прывязваюць* 102.

## Карта № 317

# ПАДСАНКІ

№ 2342 «Я. н. маленькія санкі, якія выкарыстоўваюцца пры перавозцы бярвенняў: крывухі, сучкі, падсанкі...»

На карце картаграфаваліся назвы санак для перавозкі бярвенняў.

Як *падсанкі* картаграфуюцца *пытсанкі*, як *паўсанкі* — *пувсáночкы*. Адсылачным знакам не абазначаны нас. пп. 1, 2, 31, 88, 97, 115 па прычыне адсутнасці матэрыялу ў запісах збіральнікаў.

*падсанкі* 14, 28, 30, 33, 35, 66, 67, 80, 86, 105, 116, 118, 120а, 123, 125, 126, 128, 129, 135 (запрагаць), 139, 142. *пъдсанкі* 41. *пыдсанкі* 42, 43, 44, 89, 107. *подсанкі* 114. *пôдсанкі* 90, 134. *пот$^{д}$санкі* 96 (часцей). *под$^{т}$санкі* 113. *пудсанкі* 136 (часцей), 137, 138, 140. *пудсанкы* 108 (рэд.), 132 (*колóду прывéзты*). *пут$^{д}$санкы* 95, 103. *путсанке* 98. *патсанкі* 4, 6, 8—11, 17, 24, 26, 29, 72, 76, 81, 82, 110, 111, 118, 119, 124, 125, 127. *пътсанкі* 5, 8а, 12, 13, 15, 32, 34, 39. *пытсанкі* 16, 40, 83, 84, 87. *пытсанычкі* 35.

*санкі* 46, 57, 60, 74, 135 (*вручнýю вазíць*) 136. *санкы* 94а. *санькі* 38.

*саначкі* 141. *санъчкі* 41. *санычкі* 7. *саночкі* 94. *саночкы* 109.

*паўсанкі* 3. *поўсанкі* 133. *повсанкы* 108. *пувсанкы* 92. *пувсáночкы* 131.

*сýчка* 47—51, 53, 55, 58, 66—68, 90, 91, 93, 96а, 98, 101, 102, 104, 111, 133 (трад.).

*сýчкі* 45, 49а, 51, 52, 52а, 54, 56, 62, 65, 69, 99, 100, 106.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *патсýчкі* 112.

*кáры* 28, 30, 36, 37, 63, 70, 73 (зімой), 75, 117, 120, 121—123.

*кáркі* 63, 64.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *поўкáркі* 61.

*казá* 19, 23, 25, 25а, 26, 27, 57 (маленькая), 59.

*крывýлі* 20, 52, 73) (летам), 78. *крівýлі* 79.

*патстáўка* 71, 75.

*падстанóўкі* 73, 77.

*самôтýжкі* 90. *самутýжкê* 98.

Адзінкавыя: *сабачýкі* 18. *караўкі* 22. *кріваліны* 85. *салáгі* 123. *рóспускі* 130. *грынджóла* 139.

## Карта № 318

# АБРОЦЬ

№ 2345 «Я. н. аброць: абрыця, вобруць, аброць...»

На карце пададзены лексічныя супрацьпастаўленні назваў аброці. Пры картаграфаванні лексем знайшлі сваё адлюстраванне некаторыя фанетычныя з'явы, як наяўнасць-адсутнасць прыстаўных зычных *в, г,* улічаны акцэнталагічныя варыянты назваў *абрóць, óбруць*.

Як *вóбруць* картаграфуецца назва *вóбраць, гóбруць*, як *гуздзéчка* — *гнуздзéчка*, як *нуздэ́чка* — *муздэ́чка*, як *уздэ́чка* — *оздэ́чка, уздзéчка*.

*абрóць* 1, 3—22, 24 — 25а, 28—45, 60, 66—68, 70—88, 93, 94а (рэдка), 104, 111—112, 115—116, 118—121, 123—130, 133, 137, 139, 141—142.

*обрóць* 113, 114, 117, 136, 140. *обрóть* 108, 134, 135. *обрôць* 110. *обрыт* 94а, 95.

*óбраць* 20. *óбруць* 45, 46, 51. *óбрыць* 101, 105, 106. *обрыець* 107.

*броць* 84, 122, 140.

*вóбруць* 47, 49а, 50, 52 (*верaўчáная*), 52а, 53, 54, 55, 56, 57, 60, 61, 62, 65, 136. *вóбраць* 23, 26—27, 63, 69—70, 99, 100. *вóбрыць* 58—59, 64, 104. *вобрóць* 138. *гóбруць* 49.

*уздэ́чка* 20, 51 (рамéнная), 52 (*верaўчáная і скурацяна*), 90, 91, 92, 94, 97. *уздéчка* 90, 94а, 96, 96а (*веровчáна*) 103, 133. *уздзэ́чка* 40, 113. *оздéчка* 109.

*вуздэ́чка* 48, 98, 139. *вуздéчка* 108, 132, 133.

*гуздéчка* 102. *гнуздзéчка* 134.

*нуздэ́чка* 141. *муздэ́чка* 135.

Адзінкавыя: *абрыця* 2. *абрóтка* 17. *абрóсця* 131.

## Карта № 319

# НАДЗЕЦЬ АБРОЦЬ

№ 2349 «Аброць каню накласці, надзець...»

На карце пададзены лексемы, якія абазначаюць працэс надзявання аброці на каня. Асабовыя дзеяслоўныя формы *надзяваюць, надзіваюць, надзеў, адзець* падаюцца як інфінітыў *надзець*.

Як *злажыць* картаграфуецца *ўзлажыць*, як *класці* — *кладзецца*, як *накласць* — *накладáць*. Матэрыял: *узяць на цýглі* 102, *загнуздáты* (каня) 134 — адводзіцца ад картаграфавання, бо не адпавядае тэме карты.

*надзéць* 1—3, 5—17, 21, 24—33, 35—44, 47, 48, 55, 61, 63—65, 67—84, 86—89, 99, 104, 111, 115—124, 126—130, 135—142. *надзêць* 60. *надзіваюць* 85. *надзяваюць* 110. *надзéў* 34. *адзéць* 4, 125.

*налажыць* 19, 20, 52, 56, 104. *налажыці* 93. *наложыць* 101, 102, 107, 113, 114, 133. *наложыты* 92, 95—97, 103, 108, 131. *наложыты* 90. *налужêтê* 98.

*злажыць* 50, 61. *зложыты* 94а. *узлажыць* 57, 105.

*наклáсці* 6 (раней), 18, 22, 49а, 51, 54, 59, 62, 65, 100, 106, 133, 134. *наклáсць* 49. *наклáсц$^{т}$і* 94. *наклáсты* 91, 132. *накладáць* 45, 46, 58.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *склáсці* 47.

*клáсці* 53. *кладзецца* 52а.

*забрытáць* 4, 41. *забратáць* 81.

Адзінкавыя: *браць на вóбрыць* 23. *взяты на уздэ́чку* 96.

## Карта № 320

# ЗАБРЫТАЦЬ КАНЯ

№ 2360 «Каня забрытаць»

На карце адлюстроўваецца геаграфія распаўсюджвання лексемы *забрытáць*.

З-за неадпаведнасці тэме карты адводзіцца ад картаграфавання матэрыял нас. пп. 17, 18, 21, 22, 25а, 27, 45, 46, 47, 48, 49, 54, 55, 56, 57, 62, 63, 65, 67, 69, 72, 93, 100, 103, 105, 111, 115, 118, 120, 121, 130, 134, 136, 137, 139, 141, 142.

Іншыя супрацьпастаўленыя лексемы дзеяслову *забрытáць: надзéць абрóць (вуздэ́чку), наклáсці абрóць (вуздэ́чку), налажыць абрóць (вуздэ́чку), злажыць (вóбрыць), взяты на óбрыць* — не дэферэнцыруюцца і падаюцца адным адсылачным знакам, паколькі дзеяслову, што абазначае працэс надзявання аброці на каня прысвечана асобная карта.

*забрытáць* 2, 3, 10, 11, 14, 28, 30, 31, 36, 37, 38, 70, 73, 74, 75, 77, 80, 82, 88, 106, 122, 123, 124, 125. *забратáць* 1, 6, 8, 29, 33, 81. *зъбрытáць* 13, 15. *зъбратáць* 9. *зыбрытáць* 7, 16, 35,

40, 78, 79, 83, 84, 85, 86, 87, 89. *зъбрътáць* 8а, 12, 34, 39, 41, 42, 43, 44. *зобрытáць* 101. *брытóўся конь* 49а.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго кораня: *абратáць* 61. *набрытáць* 68.

*надзéць аброць* 24, 25, 66, 112, 117, 119, 120а. *надзéць обрóць* 117, 140. *адзéць абрóць* 4. *наклáсці вóбрыць* 58. *наклáсці óбруць* 51. *наклáсты вуздэ́чку* 132.

*налажы́ць уздэ́чку* 52. *налóжыць гуздэ́чку* 102. *наложы́ць óбрыець.* 107. *наложы́ць обрóць* 114. *наложíць обрôць* 113. *наложы́тчі уздэ́чку* 94а. *наложы́ты уздэ́чку* 92, 96а. *наложы́ты оздэ́чку* 109.

*злажы́ць вóбрыць* 59. *зложы́ты óбрыть* 94а.

*взя́ты на обры́ць* 95. *взя́ты на уздэ́чку* 96. *узя́ў на вóбрыць* 23. *браць на вóбрыць* 23.

Адведзены: *каня замуздáць* 17. *запрагáць каня́* 18, 45, 48, 57, 65, 67, 72. *запрахчы́* 105. *каня́ запрэ́гчы* 121. *запрóгчы* 130. *каня́ спýтаць* 21, 27, 46, 47, 49, 50, 55, 65, 139, 141, 142. *злавíць, паймáць каня́* 111. *зачапíць каня́* 118. *зацугля́ць* 22. *закéлзаць, зацугля́ць* 25а, 54, 100. *зацугля́ць* 63, 69. *загнуздáць* 115, 120, 134, 137. *загмуздáць* 136. *закéлзаць* 56. *закілзáць* 62. *закелзáці* 93. *закылзáты* 103.

## Карта № 321

# ЦУГЛІ

№ 2351 «Я. н. прыстасаванне ў аброці для келзання каня: цуглі, келзанне, грудзіла, вандзіла...»

На карце адлюстравана геаграфія распаўсюджвання назвы прыстасавання ў аброці для келзання каня.

Пры картаграфаванні ўлічваліся акцэнталагічныя варыянты аднаго і тога ж наймення. Адзначаны таксама некаторыя фанетычныя, у тым ліку характар вымаўлення зычнага гука *г*, замена *дз* на *ц*, і граматычныя, як напрыклад, лікавае супастаўленне лексем, адрозненні.

Як *цýглі* картаграфуецца *цýглы, гýглі, цýвлі*, як *цýглі — цýглы, дзýглі*, як *грудзіла — гнуздзіла, грудзіла*, як *грýздзіла — груздзідла*, як *вандзідла — вандзідлы*, як *вýдзіла — вýнджэла*, як *кéлзы — кéлза, кéнзло, кéнзле*, як *зáкелзы — зáкелзкі*.

Адводзіцца ад картаграфавання *уздзéчка с цýглямі* 1. *уздзéчка* 124. *нуздзéчка* 120а, 124. *муздзéчка* 86, 119, 124. *пýга* 88. з-за неадпаведнасці картаграфуемай рэаліі.

*цýглі* 1, 7, 10, 11, 25а, 28, 30, 31, 34, 37, 50, 52, 53, 54, 61, 70, 75, 76, 78, 79, 80, 112, 114, 115, 117, 118, 120, 121, 122, 127, 136, 137, 138, 139, 141, 142. цýглы 2, 8, 133. чýлі 117.

*цýвлі* 137, 140.

*цýглі* 3, 4, 5, 18, 20, 21, 22, 25—27, 29, 33, 35—36, 38, 49, 52а, 55, 57, 59, 60, 62—69, 71—73, 75, 77, 104—105, 110—111, 113, 115. *цýглы* 6, 8а, 9, 24. *дзýглі* 117, 135.

*груздзіла* 83, 89, 123, 125, 126. *гнуздзіла* 130. *грудзіла* 87.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *груздзíльно* 128. *груздзéль* 14.

*грýздзіла* 12, 39, 40, 41, 42, 43, 44, 84. *грýздзела* 82. *груздзідла* 15.

*груздзілá* 1, 2, 32. *груздзéла* 17.

*груздзілы* 16, 81, 129.

*вандзідла* 23, 45, 48, 49а, 54, 58. *вандзідло* 46, 47, 51, 53, 56. *вяндзідло* 99. *вэ$^{а}$ндзідла* 93. *ванзідлы* 19.

*вянцы́дло* 91. *венцідла* 94. *вынцідла* 95. *вынцы$^{э}$дла* 90. *вынцы́дла* 92, 96. *венцéдла* 96а.

*муштýк* 85, 90.

*муштукí* 92, 97, 99.

*вýдзіла* 102. *вýділа* 94а. *вýдело* 109. *вýдыла* 132. *вýнджэла* 131.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *вýдельна* 109.

*кéлзы* 99. *кэ́лзы* 101. *кэ́льзы* 97. *кáлзы* 106. *кéлза* 100. *кéнзло* 90. *кéнзлê* 98.

Адзінкавыя: *кéлзанне* 116. *зáгнуздкі* 134.

## Карта № 322

# ЗАКЕЛЗАЦЬ

№ 2352 «Каня закелзаць, абмуздаць, замуздаць, закілзаць, зацугляць...»

Тэмай карты з'яўляецца лексічнае супрацьпастаўленне дзеясловаў, якія абазначаюць працэс надзявання аброці на каня.

Адводзіцца ад картаграфавання *спýтаць* 88, бо не адпавядае тэме карты.

*закілзáць* 2, 4, 5, 6, 10, 11, 21, 23, 26, 27, 57, 60, 61, 65, 68, 71, 116. *зъкілзáць* 80. *зыкілзáць* 29, 79. *закілзáты* 97. *закылзáты* 95 (рэдк.), 103.

*закелзáць* 3, 25а, 28, 30, 37, 45, 46, 47, 52, 54, 64, 99, 100, 104, 106. *закэлзáць* 101. *заколзáць* 102. *закалзáць* 106. *закялзáць* 19, 63. *закёлзáты* 108. *закензлáты* 90, 96. *закензлâтé* 98. *закэнзлáты* 92.

*закéлзаць* 18, 20, 48, 49, 53, 56, 58, 114. *закéрзаць* 55. *закéлзаты* 95, 96а, 109. *закéлзаты* 91. *кéлзаць* 52а. *кéлзаці* 93. *кéнзлаты* 94. *закéнзлаці* 94.

*загéлзаць* 49а, 50, 51, 113, 133. *загéлзаты* 133. *загелзáць* 135. *загелцáты* 94а.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *укéлзаць* 94а.

*замуздáць* 1, 7, 8, 14, 17, 24, 32, 33, 36, 67, 68, 69, 73, 75, 76, 81, 82, 86, 105, 118, 119, 124, 125, 128. *зъмуздáць* 8а, 12, 13, 15, 39, 41, 42, 86, 112. *зымуздáць* 44, 83, 85, 89. *зумуздáць* 16, 35, 43. *зувуздáць* 84. *завуздáты* 94а (рэдка). *зыгмуздáць* 78. *муздáць* 7.

*зануздáць* 77, 120а, 121, 123, 126, 127, 129, 130, 139, 140, 141, 142. *зъ$^{а}$нуздáць* 9. *зынуздáць* 29, 87. *зануздáты* 108 (рэдка), 131. *занозда́ты* 109. *загнуздáць* 38, 80, 110, 111, 120, 133, 137, 138. *занужда́ць* 117.

*зацугля́ць* 22, 25, 31, 34, 55 (новае), 70, 75, 80, 111, 115, 116, 136. *зацуглíць* 37, 74.

*зацугля́ць* 4, 24, 25а, 67 (больш часта), 69, 72. *зацуглявáць* 66.

## Карта № 323

# ЛЯМЕЦ У ХАМУЦЕ

№ 2356 «Я. н. войлачная частка хамута: войлак, вайлак, лямец...»

На карце адлюстроўваюцца розныя назвы войлачнай часткі хамута.

Пры картаграфаванні аднолькавых найменняў паказаны іх акцэнталагічныя адрозненні, таксама адлюстравана фанетычнае супрацьпастаўленне па цвёрдасці-мяккасці зычных *ц: ц'* у назве *ля́мец — ля́мець*. Як *вóйлак* картаграфуюцца назвы *вóялак, вóлак*.

*лямéц* 7, 21, 23, 25а, 31, 36, 45, 46, 47, 49а, 51, 53, 57, 61, 62, 67 (трад.), 80, 82, 86, 94, 94а — 96а, 99, 101—104 (трад.), 107—109, 113, 114, 116, 118, 119, 120а, 122, 124, 125, 127—130, 138. *ля́мяц* 18, 19, 20, 27, 48—50, 52а, 54—56, 63—65, 68, 70—72, 76, 77, 100, 105, 121, 126. *ля́міц* 26, 30, 33, 34, 37—44, 73, 75, 78, 79, 81, 83—85, 87, 89, 123. *ля́мец* 132—136, 138—142. *лямэ$^{а}$ц* 93. *лéмец* 98.

*ля́маць* 69. *ля́мы$^{е}$ц* 90. *ля́мыць* 91. *лéмэць* 97, 131. *лéмыць* 92.

*вóйлак* 1, 3, 9, 10, 11, 14, 25, 28, 32, 59, 67 (новае), 74, 104, 112, 120, 122, 137. *вóйлък* 12, 13, 15. *вóйлык* 16. *вóйлок* 106. *вóялак* 17. *вôлак* 60.

*вайлáк* 2, 4, 6—8, 22, 52. *въйлáк* 5. *выйлáк* 8а, 29.

*хамуцíна* 21, 24, 105, 111.

*патнíк* 110. *пóтнік* 140.

Адзінкавыя: *патклáтка з вайлáка* 58. *кáпа* 115. *бакавíна* 120.

## Карта № 324

# НАДЗЕЦЬ (УСКЛАСЦІ) ХАМУТ КАНЮ

№ 2358 «Хамут каню трэба надзець, налажыць, ускласці, захамутаць...»

На карце адлюстраваны лексічныя і словаўтваральныя варыянты лексем надзявання

хамута на шыю каню. Фанетычныя адрозненні пад увагу не прымаліся. Незакончанае трыванне дзеяслова *накладáць* картаграфуецца як закончанае *наклáсці*.

*надзéць* 1—17, 21, 23—43, 44, 47, 48, 56, 61, 66—84, 86—89, 101, 104, 105, 110—112, 116—122, 124, 127—130, 135—137, 139—142.

*адзéць* 57, 64, 115, 125, 126, 138.

*уздзéць* 8а.

*налажы́ць* 18, 19, 45, 52, 54, 60, 104, 107, 114, 133. *наложы́ты* 90, 95—97, 103, 108, 109, 131. *налужы́ты* 92. *налажы́ці* 93, 94. *наложíць* 113. *налужéтê* 98.

*узлажы́ць* 57, 59, 105.

*злажы́ць* 50, 55, 99. *зложы́ты* 94а, 95.

*наклáсці* 6, 20, 49а, 62, 100, 102, 106, 134. *наклáсты* 132. *накладáць* 22, 45, 49, 51. *накладáты* 81.

*клáсці* 52а, 53.

*усклáсці* 65, 95.

*склáсці* 47.

*захамутáць* 43, 116. *зъхумутáць* 85.

*нахамутáць* 106.

Адзінкавыя: *насýнуты* 109. *нацягáць* 46.

## Карта № 325

# СУПОНЯ

№ 2359 «Я. н. раменчык, якім сцягваюць клешчы хамута: сыпоня, супоня, акруцень, акруцель...»

На карце супрацьпастаўляюцца словаўтваральныя і фанетычныя нерэгулярныя асаблівасці назвы супоні. Такім жа знакам як *сыпóнь* падаецца на карце назва *цыпóнь* 8. Адказ *седéлко* 97 не адпавядае тэме карты і таму на карту не нанесены.

*супóня* 2, 5, 6, 10, 11, 15, 16, 21, 24—28, 30—33, 35, 37—38, 42, 44, 47, 50, 51, 52а, 54, 59—66, 68—83, 85, 88—96а, 98—110, 113, 114, 116—124, 126—135, 137, 139—142.

*сыпóня* 55, 67, 80, 115, 120а.

*супóнь* 3, 4, 12—14, 17—20, 22, 23, 29, 34, 36, 39—41, 43. 49, 49а, 52, 56—58, 89, 111, 112, 136—138.

*сыпóнь* 53. *цыпóнь* 8.

*супóнька* 2, 84, 86, 87.

*цупóнь* 1, 7, 8а, 9.

Адзінкавыя: *сýрэмець* 48. *сцяшка* 125.

## Карта № 326

# СЯДЗЁЛКА

№ 2360 Я. н. сядзёлка: кульбачка, кульбака, падсядзёлак, сядзёлка...»

На карце адлюстраваны лексічныя і словаўтваральныя варыянты сядзёлкі. Фанетычныя асаблівасці пры картаграфаванні не ўлічваліся. Як *кульбáчка* падаецца на карце *кýльбачка* 60, 137, як *патсядзéльнік* — *перасядзéльнік* 139. Адказы, якія не адпавядаюць тэме карты, на карту не нанесены: *попрýга, пудбрýшнык* 108. Назва *чэрэсседéльнік* 134 з'яўляецца русізмам і таксама адведзена ад картаграфавання.

*сядзёлка* 1, 7—17, 26, 29—44, 49, 55, 57, 59, 61, 63, 67, 69, 71, 73—89, 96а, 99, 110, 116, 118—130, 135, 139—142. *сíдёлка* 95 (нов.). 98, 131. *сíдёлко* 96. *седзёлко* 94. сіделко 90, 91. *сыделко* 92. *сыдёлка* 132. *сэдзёлко* 97, 114. *сядёлко* 115.

*сядзёлак* 6, 18. *седзёлок* 114, 138.

*патсядзёлка* 51, 68.

*падсядзёлак* 22, 28, 47, 48, 104, 105. *патсядзёлак* 57, 62. *патсядзёлък* 5. *пътсядзёлак* 8а. *патсядзёлко* 93, 133. *пацсядзёлак* 21, 50. *пудседзелок* 109, 136.

*патсядзéльнік* 45. *перасядзéльнік* 139.

*кульбáка* 46, 57.

*кульбáчка* 49а, 52а — 54, 56, 58, 59, 62, 64, 67, 69, 70, 72, 94а, 95 (трад.), 100—103, 106, 107, 115 (раней), 132, 140. *кýльбачка* 60, 137.

*пучкí* 112, 117, 120а, 124 (трад.), 139.

*падлёхка* 6. *подлёхка* 113.

Адзінкавыя: *къзá* 5. *кулíкі* 114.

Адсутнасць назвы: 27.

Адведзены: *попрýга, пудбрýшнык* 108. *чэрэсседéльнік* 134.

## Карта № 327

# НАБЕДРЫКІ

№ 2364 «Я. н. раменная або вяровачная частка вупражы, якая накладваецца на тулава каню: набедрыкі, шлеі, намэндрыкі, падуза, аблядры...»

На карце адлюстроўваюцца розныя назвы вупражы, якая накладваецца на тулава каню.

Слова *нáбадрыкі* картаграфуюцца як *нáбедрыкі,* як *нáбадры — нáбедры,* як *намáндрыкі — намэ́ндрыкі,* як *нары́днікі — нары́тнікі.*

Лексемы *падгýзы, падвýзы* аб'яднаны адсылачным знакам назвы *падгýзы.*

Адсылачны знак не пастаўлены на п. 105 з-за недакладнасці адказа ў запісах збіральнікаў.

*набéдрыкі (набэдрыкі)* 19—20, 45—49а, 51—52, 54—56, 60, 62, 72, 90—104, 106—109, 113—114, 116, 120, 131—138. *набéдрікі* 117.

*нáбедрыкі* 65. *нáбадрыкі* 61.

*нáбадры* 66, 67, 110, 111. *нáбедры* 115.

*нáбераткі* 23—25а, 27, 57. *нáберткі* 26.

*намэ́дрыкі* 51, 59 (уст.). *намéдрыкі* 49—50.

*намэндрыкі* 47, 112. *намáндрыкі* 53.

*шлéі* 1—15, 17, 18, 21, 28, 29, 37, 39, 40, 44, 59, 78, 79, 83—86, 88, 89, 115, 129, 140, 142.

*нары́тнікі* 69—71, 76, 77, 119, 120а, 121—128, 130, 139—142. *нары́днікі* 117.

*падýзы* 30—37, 41—44, 75, 78, 80—87, 89.

*падгýзы* 68, 74. *падвýзы* 73.

*паўшóры* 22, 64, 66.

*паўшоркі* 49а, 53.

Адзінкавыя: *набéрнікі* 58. *нарэ́пнікі* 118. *патпíнак* 63. *надбрýчнік* 38. *падбрýшнік* 16.

## Карта № 328

# ЗАПРЭГЧЫ КАНЯ

№ 2365 «Як гавораць: каня трэба запрэгчы, запрагчы, упрэгчы, упрагчы, залажыць, закласці...»

Картаграфуюцца розныя назвы працэсу запрагання коней.

На карце паказаны некаторыя фанетычныя, акцэнталагічныя і словаўтваральныя варыянты лексемы запрэ́гчы.

*запрагчы́* 5, 7, 21, 28, 47, 49а, 54, 59, 61, 91—93, 94а, 104, 116, 123, 131. *запрахчы́* 1, 3, 6, 8, 8а, 10, 11, 21, 24—25а, 31, 49—52а, 55, 60, 62, 96, 96а, 99, 105, 110. *зъпрагчы́* 9. *зыпрягчы́* 85. *запрэгчы́* 94. *запражчы́* 103.

*запрагцí* 101, 106, 114, 133, 135, 140. *запрахцí* 113.

*запрагты́* 108, 109, 132. *запражты́* 90, 95. *запражтê* 98. *запражтí* 103. *запрашты́* 97.

*запрэгчы* 23, 36, 48, 53, 57, 59, 67, 70, 73, 75, 78, 80, 81, 104, 115, 120а, 121, 124, 126, 129. *запрэ́хчы* 15, 22, 26, 27, 30, 33, 38, 45, 64, 65, 100. *запрéхчы* 32, 83. *запрéжчы* 13.

